26 студзеня 2018 | № 2 (565)

Новы час

novychas.by

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА
•ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

Дзень Волі па-ўкраінску

стар. 19

ISSN 2218-2144







# Абяцанкі — цацанкі

## Зменаў у беларускіх выбарах Еўропа будзе чакаць яшчэ доўга



Сяргей ПУЛЬША

«У мяне для вас вельмі кепская навіна. Да нас едзе рэвізор», — прыкладна пад такім дэвізам прайшоў тыдзень у кіраўнічай вертыкалі.

Беларусь наведаў спецпрадстаўнік Парламенцкай Асамблеі АБСЕ Кент Харстэд. Наведаў, фактычна, з адным пытаннем: чаму краіна не выконвае рэкамендацыі АБСЕ па паляпшэнні выбараў?

АБСЕ выдавала свае рэкамендацыі і па прэзідэнцкіх выбарах 2015 года, і па парламенцкіх 2016-га. Старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына звыкла зацягвала вырашэнне пытання, каб гэтак жа звыкла адказаць: «Распачалася новая выбарчая кампанія, а коней на пераправе не мяняюць». Зараз да адказу на пытанне пра адсутнасць рэакцыі на рэкамендацыі АБСЕ яна падышла даволі крэатыўна. Маўляў, Аляксандр Рыгоравіч думае мадэрнізаваць Канстытуцыю, а змена Канстытуцыі адначасова з’яўляецца і зменай выбарчай сістэмы. Таму просім не перашкаджаць нашаму мазгавому працэсу.

Заўважым, што рэкамендацыі АБСЕ наконт беларускіх выбараў насамрэч ніяк не тычацца канстытуцыйнага ладу. Заўваг АБСЕ, па факце, тры: разабрацца з нашым фенаменальным датэрміновым галасаваннем, уключаць у склад выбарчых камісій прадстаўнікоў апазіцыі і здзяйсняць празрысты падлік галасоў, каб назіральнікам паказвалі бюлетэні. Ніякай карэкціроўкі Асноўнага закону для гэтага не трэба рабіць.

Безумоўна, беларуская Канстытуцыя патрабуе мадэрнізацыі: пра гэта кажуць ужо гадоў пяць. У сённяшнім варыянце гэтага дакумента дагэтуль існуе Эканамічны суд, які Лукашэнка даўно скасаваў. І таму Канстытуцыю трэба прывесці ў адпаведнасць з рэаліямі, што зрабіць можна толькі на рэферэндуме. Але, зноў жа, выключэнне з Асноўнага закону неіснуючага ўжо суда ніяк не тычыцца выбарчай сістэмы, а таму не можа замініць выкананню рэкамендацый АБСЕ.

Пра якія ж змены ў Канстытуцыі кажа Ярмошына?

Беларускія палітолагі і аналітыкі кажуць, што асноўны варыянт магчымых зменаў — даўно абмяркоўваемы пераход ад мажарытарнай сістэмы выбараў на мажарытарна-прапарцыйную (змешаную) сістэму, калі частка дэпутатаў абіраецца па партыйных спісах.

Але ў той жа час днямі ў Мінску прайшоў з’езд праўладнага грамадскага аб’яднання «Белая Русь». І колькі кажуць пра змешаную сістэму выбараў — столькі ж кажуць пра пераўтварэнне «Белай Русі» ў партыю ўлады. Гэтага пераўтварэння на з’ездзе не адбылося. А значыць, і выбараў па партыйных спісах не будзе — як мінімум, да наступнага з’езду арганізацыі.

Разумныя галовы абмяркоўвалі яшчэ шмат ідэяў, як можна змяніць Канстытуцыю, закрануўшы выбары. Узгадалі прапанову ЛДПБ пра павелічэнне тэрміну паўнамоцтваў прэзідэнта да сямі гадоў, а дэпутатаў — да пяці. Праслізнула думка пра выбары прэзідэнта не народам, а парламентам. Але ўсё гэта — праекты, над якімі яшчэ думаць і думаць, калі Лукашэнка ўвогуле пра гэта задумваецца.

Але, хутчэй за ўсё, бліжэйшым часам ніякага рэферэндуму мы не дачакаемся. Зараз 2018 год, і неўзабаве пройдуць выбары ў мясцовыя саветы. А значыць, бюджэт і ліміт выбараў сёлета вычарпаны. У мінулым нумары мы пісалі пра тое, што




> **Навошта Лукашэнку ламаць тое, што выдатна працуе?**

Ярмошына хоча развесці па часе парламенцкія ды прэзідэнцкія выбары 2020 года і адны з іх перанесці на 2019-ты. Такім чынам, нейкая палітычная кампанія нас чакае ў наступным годзе. А сумяшчаць яе і рэферэндум, калі ўжо развялі выбары, будзе нелагічна. Народ справядліва запытае, чаму разам праводзіць парламенцкія і прэзідэнцкія выбары нельга, а выбары і рэферэндум — можна.

У 2020-м будзе яшчэ адна выбарчая кампанія. Пытанне ўзнікне тое ж.

І, калі кіравацца логікай, рэферэндум па Канстытуцыі адкладаецца на 2021 год. Праўда, логіка ўлады можа быць адрозная ад нашай. Але і тут ёсць пэўныя моманты. Напрыклад, ці зручная зараз сітуацыя, каб нешта мяняць у выбарчай сістэме і Асноўным законе?

Адказ на гэтае пытанне: «Хутчэй не, чым так». У народа расце незадаволенасць дзеяннямі ўладаў: нізкімі заробкамі, тым, што па словах Лукашэнкі, «мы жывем не добра, а сціпла», рэспубліканскімі і мясцовымі праблемамі і поўнай адсутнасцю перспектыў кардынальнага паляпшэння сітуацыі. Увогуле, большасць беларусаў занятая зараз проста выжываннем, што яскрава паказвае кампанія па выбарах у мясцовыя саветы: ужо зарэгістравалі кандыдатаў, але асаблівага ажыятажу з гэтай нагоды што ў прэсе, што сярод насельніцтва няма.

Абвяшчаць у такіх абставінах рэферэндум, а тым больш забяспечыць на яго яўку — задача звышскладаная. А на ім жа трэба яшчэ і атрымаць «элегантную перамогу»! Наўрад ці нехта будзе рабіць рэферэндум нашармака.

Дый навошта Лукашэнку ламаць тое, што выдатна працуе?

Такім чынам, размовы Ярмошынай пра мадэрнізацыю Канстытуцыі, рэферэндум і тое, што менавіта гэтыя акалічнасці тармозяць выкананне рэкамендацый АБСЕ, — толькі размовы.

АБСЕ можа не чакаць выканання сваіх рэкамендацый як мінімум да 2021 года. Таму што ў нас зноў выбары тры гады запар, і зноў «коней на пераправе не мяняюць». А далей — як у показцы пра Хаджу Насрадзіна: альбо ішак здохне, альбо султан памрэ.

# «Не адлічылі б на гэтай сесіі, адлічылі б на наступнай...»

Алесь КІРКЕВІЧ

**Гісторыя кіраўніцы «Моладзі БНФ», якую выключылі з журфаку БДУ, ускалыхнула апошнім часам медыяпрастору.**

18-гадовая Ганна Смілевіч вучылася на другім курсе журфаку на бюджэце. Прыкладна месяц таму яе абралі кіраўніцай «Моладзі БНФ» — і вось ужо на зімовай сесіі пачаліся праблемы. Дзяўчына атрымала пераздачы па трох прадметах падчас іспытаў, што ёсць аўтаматычнай падставай для выключэння. Такім чынам, Ганна паўтарыла лёс фактычна ўсіх ранейшых кіраўнікоў арганізацыі, якіх у розныя часы выключалі з беларускіх ВНУ.

Каб разабрацца ў гісторыі, мы вырашылі сустрэцца з Ганнай асабіста.

***— Ці былі раней праблемы?***

— Да гэтай сесіі ніякіх праблемаў не было. Ані разу не было пераздачаў экзаменаў. Усё заўжды здавала ў тэрмін. Такім чынам, праблемы пачаліся адно пасля абрання мяне кіраўніцай «Моладзі БНФ».

Канешне, я не была ідэальна падрыхтаваная да экзамену. Але я цудоўна ведаю прыклады, калі студэнт мае па тры пераздачы, але яго ніхто не выключае — на тым жа журфаку. З намі на першым курсе вучылася дзяўчына, у якой нагогул было чатыры пераздачы. І яе адлічылі толькі таму, што яна іх так і не пераздала, але мела шанец. Мне шанцу не пакінулі.

***— Магчыма, з выкладчыцай прафесійнай этыкі журналіста вы мелі нейкія асабістыя канфлікты?***

— Не, ніколі. Калі трэба было адказваць па білеце, я ўсё адказала. Патрэбныя былі яшчэ канспекты, у прыватнасці, канспект «Кодэксу аб СМІ». Я і гэта прынесла, у мяне ўсё было. Але пасля пачаліся дадатковыя пытанні, нават не датычныя да прадмету... Я не адказала.

***— А што за гісторыя з дыктафонам?***

— Так, яна заявіла, што вяла дыктафонны запіс экзамену. Магчыма, гэта не законна і дакладна не этычна, хоць гэта акурат выкладчыца этыкі...

***— Што далей плануеце? Перапаступаць, неяк аднаўляцца, судзіцца?..***

— Напэўна, будзем судзіцца. У нейкай ступені добра, што ў мяне з'явіўся вольны час, каб займацца «Моладдзю БНФ». Пазней ужо падумаю пра вучобу.

***— Магчымасць вучобы за мяжой разглядалі?***

— Я б усё ж такі хацела вучыцца ў Беларусі. На дадзены момант з'язджаць на вучобу за мяжу не збіраюся — толькі ў скрайнім выпадку.

***— Ці часта адлічаюць з вучобы прадстаўнікоў вашай арганізацыі?***



Фота www.belsat.eu

— Юрася Лукашэвіча, былога лідара «Моладзі БНФ», таксама адлічылі. Раней адлічылі Багдана Сакалова, таксама з журфаку. Яшчэ раней адлічылі Франака Вячорку... Такі лёс усіх лідараў «Моладзі БНФ».

***— Наколькі балючыя для вас крытычныя каментары ў інтэрнэце, кшталту, «трэба было вучыцца...»?***

— Я зараз наогул не чытаю каментараў. Першае маё інтэрв'ю было для «Нашай Нівы», яго шмат абмяркоўвалі... Тады я чытала, там было шмат негатыву. Не скажу, што мяне гэта моцна засмуціла, але паўсюдна пішуць тое самае — дык навошта гэта чытаць?

***— А як бацькі паставіліся да адлічэння?***

— Маці ад пачатку казала, што так будзе, але з разуменнем, маўляў, я сама выбрала свой шлях. Гэта быў фактычна выбар паміж палітыкай і журналістыкай. Значыць, трэба гэтага выбару трымацца і не распыляцца. У гэтым годзе для мяне галоўнае — «Моладзь БНФ». На далёкую перспектыву пакуль нічога не планую: калі багата наплануеш ці марыш, можа не здзейсніцца. Калісьці ж планавала быць журналістам... і вось.

***— Нешта хочаце пажадаць выкладчыцы, праз якую вас выключылі?***

— Я нічога не маю супраць яе асабіста. Крыўдна, хутчэй, што ў нашых ВНУ працуе такая сістэма: заахвочванні, калі ты ў БРСМ, і стварэнне штучных праблемаў, калі ты, напрыклад, у «Моладзі БНФ». Так быць не павінна, я ў гэтым перакананая.

# Некаторыя — раўнейшыя

Сяргей ПУЛЬША

**«Усе роўныя, але некаторыя раўнейшыя», — гэта выслоўе з рамана Оруэла згадваецца кожны раз, калі сутыкаешся з беларускімі выбарамі.**

Кампанія па выбарах дэпутатаў мясцовых саветаў, якая зараз ідзе ў Беларусі, не стала выключэннем. Кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары» агучыла чарговы маніторынг па рэгістрацыі ініцыятыўных груп і кандыдатаў у дэпутаты гэтых саветаў. «Аналіз практыкі і колькасных дадзеных дазваляе сцвярджаць, што працэдуры праверак прымяняліся выбарчымі камісіямі селектыўна, перш за ўсё супраць апазіцыйных кандыдатаў», — пішуць праваабаронцы.

У справаздачы адзначаецца, што некаторыя ўмовы выбараў у нас усё ж палепшыліся. Напрыклад, у параўнанні з папярэднімі выбарамі колькасць адмоў у рэгістрацыі ініцыятыўных груп паменшылася больш чым у 2 разы. Парадавалі назіральнікаў і навацыі наконт пікетаў па зборы подпісаў — колькасць месцаў, забароненых для збору подпісаў, істотна скарацілася. А таксама, што на этапе збору подпісаў ні адной з ініцыятыўных груп не чыніліся перашкоды з боку ўлады. Нават у выпадках, калі подпісы збіралі не там, дзе дазволена, значных перашкод заўважана не было.

Але некаторыя «кандыдаты ў кандыдаты» ўсё ж былі раўнейшыя за астатніх. Напрыклад, Аршанская раённая камісія зарэгістравала ініцыятыўную групу кіраўніка сельскагаспадарчага прадпрыемства «Радуньскае» Святаслава Чэрнікава, які ў заяве аб рэгістрацыі абазначыў сваю партыйнасць як «сябра партыі Белая Русь». Толькі пасля таго, як на гэты момант указалі назіральнікі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары», камісія даведалася, што такой партыі не існуе. Але не стала мяняць сваё рашэнне, паабяцаўшы «разабрацца».

Шмат шораху нарабіла выкладзеная ў інтэрнэце перапіска са студэнтамі эканамічнага факультэта БДУ, якіх арганізоўвалі да ўдзелу ў перадвыбарчых пікетах у якасці чальцоў ініцыятыўных груп. Тым, хто пагодзіцца, абяцалі 15 рублёў і вызваленне ад заняткаў. Валянцін Стэфановіч накіраваў заяву ў Цэнтрвыбаркам з просьбай правесці праверку па гэтым выпадку і прыняць адпаведныя захады. У выніку праверкі Мінская гарадская выбарчая камісія парушэнняў выбарчага заканадаўства і выкарыстання адміністрацыйнага рэсурсу... не выявіла.

Але асаблівая «раўнейшасць» была прадэманстраваная пры рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты. Чатыры апазіцыйныя партыі вылучалі 219 кандыдатаў, з якіх 174 былі зарэгістраваныя, што складае 79,5% ад агульнай колькасці вылучаных апазіцыянераў. У той жа час сярэдні працэнт рэгістрацыі кандыдатаў ад праўладных партый вышэйшы. Кандыдатаў ад Камуністычнай партыі Беларусі зарэгістравана 95%, ад Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасці — 92,8%.

Праявілася розніца і ў падыходах да прадстаўнікоў апазіцыі, якія вылучаліся шляхам збору подпісаў. Калі агульны працэнт рэгістрацыі кандыдатамі ў дэпутаты шляхам збору подпісаў склаў 98%, то ў прадстаўнікоў Руху «За Свабоду» — 28,6%, у беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў — 33%, у вылучэнцаў «Гавары праўду» — 60,9%.

Праваабаронцы таксама звяртаюць увагу і на колькасць адмоў у рэгістрацыі кандыдатаў. У Мінскі гарсавет гэтая лічба склала 23%, у саветы раённага ўзроўню — 1,5%, у сельскія саветы — 0,3%. «Розніца ў якасці пададзеных на рэгістрацыю дакументаў не можа быць патлумачаная ўзроўнем падрыхтоўкі кандыдатаў у дэпутаты Саветаў ніжэйшага ўзроўню ў параўнанні з вопытнымі ў палітычных баталіях сталічнымі партыйцамі і актывістамі», — кажуць эксперты кампаніі і тлумачаць лічбы тым, што «пры разглядзе дакументаў і рэгістрацыі кандыдатаў выбарчыя камісіі селектыўна выкарыстоўвалі тэхнічныя працэдуры».

# Каму і што дазволена ў навагоднюю ноч?

Зінаіда ЦІМОШАК

**Случчанін Юрый Мяцельскі, якога міліцыянты затрымалі ў ноч на 1 студзеня, пакуль што не атрымаў позвы ў суд. Але ўжо правёў двое сутак у ізалятары часовага ўтрымання.**

Сам Юры лічыць, што патрапіў у такую сітуацыю з-за сваёй дасведчанасці ў заканадаўстве, паколькі ён з'яўляецца валанцёрам праваабарончага цэнтру «Вясна».

— Супрацоўнікі АМАП падышлі да мяне з сябрамі каля трох гадзін ночы 1 студзеня, калі мы знаходзіліся непадалёку ад Дома культуры, і запатрабавалі прад'явіць пашпарты і паказаць, што ў заплечніку сябра, — успамінае Юры. — Сябра моўчкі выканаў усе патрабаванні, а я паспрабаваў высветліць у міліцыянтаў, хто яны самі і па якой прычыне да нас прычапіліся. На вуліцы Леніна і на плошчы было шмат народу, які высыпаў на вуліцу пасля застолля. А мы ціха-мірна ўдвух гутарылі паміж сабой, стоячы на каля Дома культуры, наводдаль ад усіх.

Пасля таго, як міліцыянт адмовіўся сябе назваць, я перапісаў нумар яго нагруднага жэтона. З гэтага ўсё і пачалося. Праваахоўнік вельмі абурыўся з-за таго і паведаміў, што затрымлівае мяне па артыкулу 17.3 КаАП (знаходжанне ў грамадскім месцы ў нецвярозым выглядзе).

Спачатку Юрыя Мяцельскага прывезлі ў выцвярэзнік, дзе ў крыві было выяўлена толькі 0,29 праміле алкаголю. Паколькі нават для суддзяў такая колькасць алкаголю ў святочную ноч можа паказацца дзіўнай, супрацоўнікам міліцыі давялося перапісаць пратакол.

Перад тым, як накіраваць Юрыя Мяцельскага ў ізалятар, участковы інспектар РАУС старшы лейтэнант Аляксандр Савін склаў пратакол ужо па артыкуле 17.1 — нібыта за нецэнзурную лаянку ў грамадскім месцы.

— Тады я ўзяў пратакол і пачаў уносіць заўвагі. Убачыўшы гэта, участковы схапіў маю руку, заламаў і пераваліў праз крэсла на падлогу, пратрымаўшы мяне ў такім становішчы каля хвіліны, — успамінае Мяцельскі. — Пасля такіх дзеянняў прыйшлося падпісаць паперу і перамясціцца ў камеру №5 Слуцкага ІЧУ, адкуль мяне выпусцілі ноччу 3 студзеня.

Грамадскі актывіст распавёў, што падчас знаходжання ў ІЧУ ён быў вымушаны быў спаць на ложку без пасцельнай бялізны.

— Я ўпершыню патрапіў у такія ўмовы, таму яны падаліся мне дзікунскімі, — распавёў малайзён. — Асабліва непрыемна было спраўляць патрэбы пад вочкам відэакамер. Увогуле, у мяне ўзнікла адчуванне, быццам 2 дні пражыў ва ўборнай, куды прыносілі паесці. Падыхаць свежым паветрам не дазволілі ніводнага разу. Нягледзячы на тое, што пастаянна гарэла дзяжурнае святло, чытаць з-за недахопу асвятлення фактычна было немагчыма. Кубкаў не было, іх арыштаваныя рабілі самі з бутэлек, якія перадавалі з волі сваякі. Калі б я быў у камеры адзін ці з непадрыхтаванымі суседзямі, то не было б з чаго піць.

Валанцёр праваабарончага цэнтра мае намер звярнуцца да начальніка РАУС з патрабаваннем забяспечыць у ізалятары годныя мовы для ўтрымання людзей.

Ці можна крыху выпіць шампанскага і пагуляць у навагоднюю ноч па горадзе, і навошта было заломваць рукі Юрыю? З гэтымі пытаннямі па тэлефоне я звярнулася да старшага лейтэнанта Аляксандра Савіна, які склаў пратакол.

Старшы лейтэнант быў скупы на словы: «Аповеды пра заломванне рук — гэта суб'ектыўнае стаўленне да сітуацыі, а з астатнімі пытаннямі звяртайцеся да прэс-сакратара РАУС».

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Сістэма безгаспадарнасці

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Д'ябал хаваецца ў дэталях. Часам адно вузкаспецыялізаванае і не вельмі цікавае шырокаму колу чытачоў інтэрв'ю можа расказаць пра сітуацыю больш, чым дзясяткі «папулярных» артыкулаў.**

На гэтым тыдні такім матэрыялам стаў расказ пра планы сваёй структуры кіраўніка прадстаўніцтва Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця (ЕБРР) у Мінску Аляксандра Піваварскага.

Па яго словах, банк працягвае перамовы з уладамі Беларусі па перадпрыватызацыйнай падрыхтоўцы некаторых банкаў і кампаній рэальнага сектара.

Пад першым нумарам ідзе пытанне ўваходжання Еўрапейскага банка ў акцыянерны капітал дзяржаўнага «Белінвестбанка», паведаміў Піваварскі. У канцы мінулага года дзяржбанк атрымаў ад ЕБРР субардынаваны крэдыт у памеры 50 мільёнаў еўра, які можа быць трансфармаваны ў акцыі. Пытанне ўваходжання ЕБРР у капітал «Белінвестбанка» плануецца абмяркоўваць не раней атрымання пацверджанай аўдытарамі справаздачнасці па МСФС за 2017 год (красавік–май 2018 года). Будуць агаворвацца ўмовы ўдзелу ЕБРР у статутным капітале беларускага дзяржбанка і пачаты работы па пошуку стратэгічнага інвестара.

Падаецца, гэта сумна і не цікава. Калі не ўзгадаць, што прыватызацыя дзяржаўных банкаў была ўмовай даўняй яшчэ «лібералізацыі» 2008 года. І пад гэтыя планы мы тады нават атрымалі крэдыт ад Міжнароднага валютнага фонду на тры з паловай мільярды долараў. Прайшло 10 гадоў! За гэты час мы ані на крок не прасунуліся ў «лібералізацыі». І не факт, што прасунемся цяпер.

Па словах Піваварскага, у найбольшай стадыі гатоўнасці знаходзіцца праект па прыцягненні стратэгічнага інвестара на цэментавы завод у Красносельскім. «Цяпер перамовы ідуць паміж урадам і стратэгічным інвестарам. Калі яны дамовяцца, то мы гатовыя пракрэдытаваць інвестара ў выпадку неабходнасці», — сказаў банкір.

Стоп-стоп! Выбачайце, мы столькі хваліліся мадэрнізацыяй нашай цэментавай галіны! Навошта раптам «Краснасельскбудматэрыялам» спатрэбіўся стратэгічны інвестар, і што ён будзе рабіць на цалкам мадэрнізаваным прадпрыемстве? Навошта гэтаму інвестару яшчэ і крэдыт ЕБРР?

Гэта азначае, што мадэрнізацыя і цэментавай галіны не дала вынікаў — грошы былі выдаткаваныя невядома на што і сышлі невядома куды. Па выніках першага квартала 2016 года, паводле інфармацыі нашага Мінфіна, мадэрнізаваныя «Краснасельскбудматэрыялы» ўвайшлі ў топ-10 стратных беларускіх прадпрыемстваў. Дык куды падзеліся грошы на мадэрнізацыю?

І галоўнае — хто адкажа за такую мадэрнізацыю, калі пасля яе трэба шукаць на прадпрыемства стратэгічнага інвестара?

На першапачатковай стадыі, як кажа Піваварскі, — і перамовы па прыватызацыі фабрыкі «Блакіт». Гэта тэкстыльная фабрыка, якая, як пазначана на сайце прадпрыемства, з'яўляецца «найбуйнейшым вытворцам тэкстыльнай прадукцыі ў Еўропе і краінах СНД». Тэкстыльную прамысловасць мы, падаецца, таксама нядаўна мадэрнізавалі. І што?

ЕБРР таксама мае намер дапамагчы дзяржпрадпрыемствам палепшыць сістэму карпаратыўнага кіравання і павысіць узровень камерцыялізацыі іх дзейнасці. Пілотны праект можа быць рэалізаваны на прыкладзе дзяржхолдынгу «Белаўтадор», які паспрабуюць пераварыць у камерцыйна арыентаваны, з сістэмай карпаратыўнага кіравання і фінансавай справаздачнасцю, адпаведнымі міжнародным стандартам, расказаў Піваварскі.

**72-е месца**
**Беларусь заняла ў штогадовым рэйтынгу лепшых краін свету, падрыхтаваным амерыканскім выданнем U.S. News & World Report. Гэты рэйтынг ацэньвае 80 развітых краін планеты**

У холдынг «Белаўтадор» уваходзяць 11 прадпрыемстваў, і ён адказвае за стан дарог у Беларусі. Менавіта яму, па ідэі, павінен ісці той «транспартны падатак», якім так незадаволеныя аўтааматары Беларусі. Яшчэ б ім быць задаволенымі! Мы ўжо казалі, і паўтараем: гэты падатак бяруць два разы. Адзін раз у выглядзе акцызу на бензін, другі раз — уласна «за допуск да руху транспартнага сродку». Па ідэі, «Белаўтадор» павінен купацца ў грошах, але, як высвятляецца, патрабуе дапамогі ад ЕБРР.

Дык куды ж ідзе той самы «транспартны падатак»? Калі «Белаўтадор» мае патрэбу ў банкаўскай дапамозе, грошы з падатку сыходзяць яўна не на дарогі...

Такім чынам, адно, на першы погляд, малацікавае шырокаму колу чытачоў інтэрв'ю выкрывае поўную нягеглась беларускай эканамічнай мадэлі. Яна заключаецца ў невыкананні ўзятых на сябе абавязальніцтваў, правале мадэрнізацыі, растранжырванні сродкаў, непразрыстасці расходавання падаткаў — і гэтак далей і далей. Карацей, поўная безгаспадарнасць, якую трэба выпраўляць з дапамогай ЕБРР.

Таму не дзіўна, што Сінявокая пляцецца ў хвасце сусвету. Беларусь заняла 72-е месца ў штогадовым рэйтынгу лепшых краін свету, падрыхтаваным амерыканскім выданнем U.S. News & World Report. У параўнанні з рэйтынгам 2017 года, які ўлічвае дзясяткі розных параметраў, наша краіна апусцілася на дзве пазіцыі сярод 80 краін.

Першае месца ў рэйтынгу заняла Швейцарыя, Канада і Германія апынуліся на другім і трэцім радках, ЗША сталі сёмымі. Ніжэй за Беларусь знаходзяцца Пакістан, Ліван, Нігерыя, Іран, Ангола і Алжыр.

І яшчэ адна навіна, якая яскрава ілюструе беларускую гаспадарку. Украінскі сайт segodnya.ua паведаміў, што экспарт украінскай бульбы ў Беларусь за год вырас крыху больш чым удвая (у 2,1 разы) і ў грашовым выразе абышоўся Сінявокай у 2,6 мільёна долараў. Прычым, наша краіна з'яўляецца найбуйнейшым пакупніком гэтага прадукту ва Украіны — на Беларусь прыпадае 75,4% ад экспарту ўкраінскай бульбы.

Гэта пры тым, што Украіна займае чацвёртае месца ў свеце па вытворчасці гэтага караняплода. Беларусь жа — толькі 10-я па вытворчасці бульбы.

Можна было б задаць пытаннем: «І яны нас называюць бульбашамі?» Але насамрэч іронія будзе сумнай. Таму што гэта нагадвае часы СССР перыяду застою, калі мы так ганарыліся сваімі ўраджаямі, «Паднятай цалінай» і Чарназем'ем, але вымушаныя былі закупляць жыта ў Канадзе і ЗША. І чым гэта скончылася для Савецкага Саюза, добра вядома — дзяржава перастала існаваць.

Беларусь зараз таксама праводзіць штогадовую «бітву за ўраджай», да пачатку якой, дарэчы, засталося крыху больш за месяц. І мы выдатна адсправаздачваемся пра «харчовую бяспеку». А насамрэч — нават нацыянальны беларускі прадукт закупляем у суседзяў.

Такая ў нас безгаспадарная гаспадарка.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Міхал Анемпадыстаў

**Адзін са стваральнікаў беларускай рок-паэзіі, аўтар знакавых беларускіх песень, а таксама дызайнер, графік, паэт, публіцыст памёр ва ўзросце 53 гадоў.**



Уноч на 23 студзеня ў Міхала Анемпадыстава здарыўся інсульт, і ў крытычным стане яго завезлі ў лякарню. На жаль, выратаваць яго не ўдалося.

Міхал Анемпадыстаў нарадзіўся ў Мінску 16 сакавіка 1964 года. Навучаўся ў Мінскай мастацкай вучэльні, удзельнік «Майстроўні». Ён працаваў у галіне плаката, прыкладной і станковай графікі, фатаграфіі і графічнага дызайну, з'яўляўся сябрам праўлення Беларускага саюза дызайнераў. Яго творы экспанаваліся на выставах з 1987 года, першая персанальная выстава Анемпадыстава адбылася ў 1993 годзе ў Берліне.

Анемпадыстава можна лічыць адным са стваральнікаў нацыянальнай рок-паэзіі. Тэксты на яго вершы ўвайшлі ў рэпертуар Касі Камоцкай і гурта «Новае Неба» («Мая краіна», «Чаканне Калядаў», «Цэпеліны»), гурта NRM («25, 26, 27...», «Lalalala»), Змітра Вайцюшкевіча, «IQ48». Ён аўтар канцэпцыі і тэкстаў да «Народнага альбома». Атрымліваў «Рок-карону» за «Уклад у беларускую музыку» (1996) і «Тэксты года» (1997).

## Павел Севярынец



**Вядомы апазіцыйны палітык разам з паплечнікамі ў сёмы раз спрабуе зарэгістраваць палітычную партыю «Беларуская хрысціянская дэмакратыя».**

Севярынец, Вольга Кавалькова і Дзяніс Садоўскі падалі ў Міністэрства юстыцыі дакументы на рэгістрацыю партыі. У спісе заснавальнікаў заяўлены 1072 чалавекі.

Гэта сёмая спроба рэгістрацыі ўласна Партыі БХД, а з улікам спробаў рэгістрацыі грамадскіх, моладзевых і рэгіянальных арганізацый хрысціянскіх дэмакратаў ужо каля 30 разоў спрабавалі атрымаць у Беларусі легальны статус. Але пакуль безвынікова.

«Усе дакументы адпавядаюць патрабаванням Міністэрства юстыцыі, таму мы перакананыя, што наша партыя павінна быць зарэгістравана. Але мы таксама разумеем, што гэта рашэнне будзе не юрыдычнае, а палітычнае. Таму паспрабуем аказаць ціск на беларускія ўлады ў пытанні рэгістрацыі, у тым ліку з боку нашых партнёраў, Еўрапейскай народнай партыі, каб пытанне рэгістрацыі ўсё ж такі было вырашана станоўча. Спадзяемся, што партыя будзе зарэгістраваная, але ўсё залежыць ад пазіцыі ўладаў», — адзначыў Дзяніс Садоўскі.

Устаноўчы з'езд партыі БХД адбыўся 23 снежня 2017 года.

## Алена Анісім



**Дэпутатка Палаты прадстаўнікоў і старшыня ТБМ імя Скарыны дала вострыя адказ на публікацыю ў «СБ. Беларусь сегодня».**

Раней «СБ» апублікавала ліст чытачкі — настаўніцы Рэгіны Ластоўскай з Пастаў, якая выступала супраць адкрыцця ў Беларусі нацыянальнага ўніверсітэта з беларускай мовай навучання. Нібыта ўніверсітэт будзе выпускаць «нацыяналістаў».

У адказе Анісім кажа, што «са здзіўленнем прачытала Ваш данос (прабачце, але на мове прыстойных людзей такія лісты называюцца менавіта так) у рэдакцыю газеты «СБ».

Дэпутатка зазначае, што Ластоўская публічна абражае афіцыйна зарэгістраваныя арганізацыі, «якія дзейнічаюць законнымі метадамі ў рамках, вызначаных іх статутам».

«Вас моцна ўразіла і абурыла навіна аб тым, што наша арганізацыя займаецца стварэннем універсітэта з беларускай мовай навучання. Дзіўна такое чуць ад беларускага педагога, які дзякуе на словах клопат аб патрыятычным выхаванні моладзі», — зазначае Анісім.

«Педагог — гэта чалавек, які выхоўвае ў сваіх вучнях дабро, справядлівасць, сумленнасць, праўдзівасць, дэманструючы гэта перш за ўсё сваімі ўчынкамі. Бо сказана, як Вы хочаце, каб ставіліся да Вас, так самі ставіцеся да людзей. І калі Вы сееце нянавісць і агрэсію, чакайце адпаведнай рэакцыі. Я ж хачу Вам сказаць цвёрда: як бы хто ні перашкаджаў беларусам стаць гаспадарамі ва ўласным доме, яму не атрымаецца ў чарговы раз запалохаць або аслабіць нашы намаганні па ўмацаванні дзяржаўнасці і незалежнасці нашай краіны», — піша Анісім.

Пра рэакцыю ад «СБ» на ліст Анісім пакуль нічога не вядома.

# Мінск, Астана ці... Антарктыда



Валерый КАРБАЛЕВІЧ

**Прапановай перанесці перамовы па Данбасе ў Астану Нурсултан Назарбаеў разбурае вобраз Беларусі як донара бяспекі.**

Спачатку Вярхоўная Рада Украіны прыняла закон аб рэінтэграцыі Данбаса, які абвяшчае Расію агрэсарам. У адказ РФ выступіла з рэзкай крытыкай Кіева, Масква лічыць, што гэты закон супярэчыць Мінскім пагадненням.

На тле гэтага абвастрэння адносін паміж Украінай і Расіяй і з'явілася заява Нурсултана Назарбаева. Падчас афіцыйнага візіту ў ЗША прэзідэнт Казахстана пасля перамоваў з Дональдам Трампам адзначыў, што «Мінск–1 застапарыўся, у тупіку», адчуваецца патрэба ў новым дыялогу, перамовы па ўрэгуляванні канфлікту на ўсходзе Украіны могуць быць перанесеныя з Мінска ў іншае месца. Па словах Назарбаева, з падобнай прапановай выступіў кіраўнік амерыканскай дзяржавы Дональд Трамп. Потым Назарбаеў дадаў: «Увогуле, гэта першапачаткова павінна было адбывацца ў Казахстане. Я паездкі рабіў, каб сабраць усіх, каб сустрэліся там. Так дамовіліся, што ў гэтым напрамку будзем працаваць».

Сапраўды, Казахстан даўно прэтэндуе на тое, каб забраць у Мінску лаўры міратворца. У гэтай краіны большая міжнародная вага, лепшыя адносіны з краінамі Захаду. Там нядаўна прайшлі адносна паспяховыя перамовы па ўрэгуляванні ваеннага канфлікту ў Сірыі.

Афіцыйныя прадстаўнікі Расіі і ФРГ выступілі з заявамі, што галоўнае цяпер — пошук механізмаў выканання мінскіх пагадненняў, а не перанос перамоваў у іншае месца. У такім жа духу выказаўся міністр замежных спраў Украіны Павел Клімкін. Бо з гледзішча ўкраінскага МЗС, пакуль Беларусь з'яўляецца цэнтрам урэгулявання сітуацыі на Данбасе, вайсковая пагроза з боку Расіі праз беларускую тэрыторыю бачыцца мінімальнай.

Але ўся праблема ў тым, што, сапраўды, Мінскія пагадненні ў тупіку. Яны з самага пачатку былі невыканальныя. Цяпер гэта становіцца яшчэ больш відавочным і для палітыкаў, і для незалежных экспертаў. Хаця з усіх бакоў гучаць заявы, што Мінскім пагадненням няма альтэрнатывы, гледзячы па ўсім, перамовы ў «нармандскім фармаце» (Расія, Украіна, Францыя, ФРГ) вычарпалі сябе. Патрэбныя новыя акторы.

Падаецца, цяпер усё большы акцэнт пераносіцца на перамовы паміж ЗША і Расіяй, якія вядуць спецпрадстаўнік Злучаных Штатаў Курт Волкер і памочнік прэзідэнта РФ Уладзіслаў Суркоў. Дарэчы, адзін раз яны сустрэліся ў Мінску. І пытанне пра ўвядзенне міратворчага вайсковага кантынгенту ў раён Данбасу абмяркоўваецца менавіта на гэтых амерыканска-расійскіх перамовах.

Але, калі ў цэнтр перамоўнага працэсу па Украіне выходзяць ЗША, то ў іх іншыя прыярытэты, у тым ліку і наконт месца. І калі выбіраць паміж Мінскам і Астаной, то Вашынгтон хутчэй абярэ казахстанскую сталіцу. Бо ў ЗША добрыя адносіны з Казахстанам, пра што сведчыць цяперашні афіцыйны візіт Нурсултана Назарбаева ў Злучаныя Штаты.

А дачыненні Беларусі і ЗША знаходзяцца ў напалову замарожаным стане. Працягваюць існаваць амерыканскія эканамічныя санкцыі адносна нашай краіны, няхай на іх цяпер і ўведзены мараторый. ЗША не мае ў Мінску паўнавартаснай амбасады, тут няма амерыканскага пасла. Як можна праводзіць працяглыя перамовы ў такой краіне? І, здаецца, Нурсултан Назарбаеў ужо заручыўся падтрымкай Дональда Трампа.

Хачу нагадаць, што і ва Украіне апошнім часам усё гучней чуваць галасы пра тое, каб перанесці перамовы ў іншую краіну, бо Беларусь паводзіць сябе не па-сяброўску. Працягваецца і нават раскручваецца шпіёнскі скандал паміж дзяржавамі.

Што тычыцца самой Беларусі, то, зразумела, заява Нурсултана Назарбаева выклікала ў афіцыйнага Мінску вялікую трывогу. Бо яна падрывае саму аснову, на якой была пабудавана замежнапалітычная канцэпцыя беларускага кіраўніцтва ў апошнія чатыры гады.

Пасля Крыму, двух самітаў па ўрэгуляванні ўкраінскага крызісу (верасень і люты 2015 г.), пераўтварэння Мінску ў пляцоўку па вырашэнні канфлікту на Данбасе, у беларускіх уладных вярхах з'явіўся новы канцэпт, закліканы стаць стратэгіяй знешняй палітыкі Беларусі. Улады абвясцілі краіну як цэнтр сусветнага міратворчага працэсу, як донара або правайдэра бяспекі ў рэгіёне, як месца, пляцоўку для рэалізацыі ідэі «інтэграцыя інтэграцый», і ўвогуле, вырашэння ўсіх міжнародных канфліктаў.

Адносны дыпламатычны поспех моцна ўскружыў галаву беларускаму кіраўніцтву. Яно палічыла, што схапіла Бога за бараду, адарвалася ад рэальнасці і пачало жыць у сферы сваіх фантазій. За гэтыя два гады афіцыйны Мінск пачаў фантанаваць міратворчымі ініцыятывамі. Каго толькі ён ні збіраўся мірыць.

Мінск прапаноўваў ролю пасярэдніка па прымірэнні Расіі і Турцыі, калі туркі збілі расійскі самалёт. Беларусь выступала з ідэяй міратворцы ва ўрэгуляванні армяна-азербайджанскага канфлікту.

У траўні 2016 года Лукашэнка пасля візіту ў Ватыкан да Папы агучыў сваю даўнюю ідэю аб сустрэчы ў Беларусі пантыфіка з патрыярхам Рускай праваслаўнай царквы Кірылам. Але гэтага А. Лукашэнку здалося мала — і ён пайшоў далей. «Усё ў руках Госпада. Калі ён дабраславіць, то нашы вышэйшыя іерархі каталіцкай і праваслаўнай царкваў сустрэнуцца на беларускай зямлі. Думаю, што запросяць туды і прадстаўнікоў мусульманскага свету, і іудзеяў, і іншых канфесій», — заявіў беларускі лідар. І дадаў: «Запрасілі б святароў і еўрапейскіх, і ўкраінскіх, і расійскіх, і нашых. Селі б, пагаварылі, а потым усе разам перад мільёнамі паломнікаў памаліліся б у імя міру». Вось, аказваецца, дзе біблейская «зямля запаветная».

> **Уся праблема ў тым, што Мінскія пагадненні ў тупіку. Яны ад пачатку былі невыканальныя. Цяпер гэта становіцца яшчэ больш відавочным і для палітыкаў, і для незалежных экспертаў. Хаця з усіх бакоў гучаць заявы, што Мінскім пагадненням няма альтэрнатывы, гледзячы па ўсім, перамовы ў «нармандскім фармаце» (Расія, Украіна, Францыя, ФРГ) вычарпалі сябе**

Выступаючы на адкрыцці сесіі ПА АБСЕ ў Мінску ў ліпені мінулага года, кіраўнік Беларусі ў чарговы раз высунуў ідэю перазапусціць Хельсінскі працэс, які паставіў бы тлустую кропку ў халоднай вайне і вызначыў мірнае ўрэгуляванне канфліктаў на еўрапейскім кантыненце. Ён прапанаваў у 2020 годзе правесці нараду на пляцоўцы АБСЕ, а затым саміт. І ключавы тэзіс яго выступу, у якім і закладзены ўвесь сэнс гэтай ідэі, гучыць так: «Мы гатовыя стаць стартавай пляцоўкай для пачатку гэтага працэсу».

Цікава тое, што не толькі ўлада апынулася ў палоне гэтай новай беларускай міфалогіі. Здаецца, трошкі знесла дах і ў часткі незалежнага грамадства. Недзяржаўныя аналітычныя структуры падхапілі гэтую ідэю, і нават распрацавалі цэлую канцэпцыю, новую стратэгію беларускай дыпламатыі. З'явіўся слоган: Мінск — новая Жэнева, Хельсінкі–2.

Новая канцэпцыя замежнай палітыкі, новы вобраз Беларусі як міжнароднага міратворца і донара бяспекі дазволіла палепшыць замежнапалітычнае становішча краіны, нармалізаваць адносіны з ЕС. Еўрапейскі саюз зняў санкцыі з Беларусі, ЗША іх замарозілі.

Зразумела, не толькі тое, што Мінск стаў пляцоўкай для ўрэгулявання ўкраінскага крызісу, паўплывала на новы вобраз Беларусі. Гэта стала вынікам агульнай змены геапалітычнай сітуацыі ў рэгіёне пасля Крыму. Таксама важным стала тое, што Беларусь не падтрымала Расію ў яе канфлікце з Захадам і Украінай. Аднак Мінскія пагадненні па Данбасу сталі найбольш гучным чыннікам, які дазволіў міжнароднай супольнасці па-новаму глядзець на Беларусь.

Адсюль зразумела, чаму прапанова Нурсултана Назарбаева перанесці перамовы па Данбасу ў Астану, і тое, што гэтая ідэя нібыта падтрыманая ЗША, выклікала такую хуткую і негатыўную рэакцыю беларускага МЗС. Адразу ж пасля выступу прэзідэнта Казахстана прэс-служба Міністэрства замежных спраў Беларусі распаўсюдзіла заяву кіраўніка замежнапалітычнага ведамства Уладзіміра Макея. Ён адзначыў: «Варта нагадаць, што не Беларусь напрошвалася ў якасці пляцоўкі для правядзення перамоў па Украіне, а кіраўнікі краін «нармандскай чацвёркі» выказалі просьбу да Аляксандра Лукашэнкі прыняць у сябе ўдзельнікаў сустрэч па ўрэгуляванні ўкраінскага канфлікту».

Насамрэч, гэта не зусім так. Беларускае кіраўніцтва зрабіла вялікія намаганні, каб перамовы праходзілі ў Мінску. У 2014 годзе Лукашэнка шмат разоў хваліўся, то ў яго ёсць план урэгулявання ўкраінскага крызісу, шчыраваў з прапановамі, тэлефанаваў прэзідэнтам Расіі і Украіны, зазываючы іх у беларускую сталіцу.

Асабліва забаўна выглядае тэзіс Макея, што, у адрозненне ад іншых, Беларусь за лаўрамі міратворца не ганіцца. На фоне тых шматлікіх міратворчых ініцыятываў, з якімі выступалі беларускія афіцыйныя асобы, і асабліва Лукашэнка, заява нашага міністра выглядае дзіўна.

Можна пагадзіцца з думкай Уладзіміра Макея, што наўрад ці што-небудзь залежыць ад месца правядзення перамоваў аб міры: «Перамовы па Украіне можна перанесці хоць у Антарктыду, калі будзе ўпэўненасць у іх поспеху. Але для з'яўлення гэтай упэўненасці трэба, каб усе залучаныя ў гэты канфлікт бакі, а таксама нібыта «іншыя», але вельмі зацікаўленыя дзяржавы, былі шчыра нацэлены на спыненне кровапраліцця».

Тым не менш, змаганне за месца перамоваў уступіла ў новую фазу. І першае, што цяпер варта было б зрабіць кіраўніцтву Беларусі, калі яно хоча захаваць ранейшы статус Мінска, — хутчэй вырашыць беларуска-ўкраінскі шпіёнскі скандал.



Фота аўтара

# Андрэй Мароз: «Нехта піша карціны, я — вару піва. Гэта мастацтва!»

Алесь КІРКЕВІЧ

**Саўладальнік крафтавага бровара «TRYE Beer» вярнуўся ў Беларусь з Новай Зеландыі, каб на Радзіме варыць піва і зламаць стэрэатып, маўляў, імпартнае піва заўжды лепшае за наша. Як так сталася і чаму беларусы дагэтуль з неахвотай вераць сваім піваварам?**

У Новай Зеландыі Андрэй працаваў хімікам-фармакалагам, ствараў лекі ад раку. Там жа захапіўся броварствам, удзельнічаў у спаборніцтвах, распрацоўваў рэцэпты на працягу пяці гадоў. На радзіме ўсё пачалося з сайту, дзе аматары абменьваліся рэцэптамі: на пачатку гэта было 4–5 чалавек. Суполка, з якой вырасла некалькі крафтавых бровараў, сёння жыве сваім жыццём, Андрэй пайшоў далей.

«Пакруціўшыся нейкі час у хатнім броварстве, зразумеў, што трэба выходзіць на іншы ўзровень, — тлумачыць Мароз. — Бо гэта была мая мэта, а не займацца дома каструлькамі». Зараз «TRYE Beer» — паўнавартасны бровар са сваёй вытворчасцю і сеткай распаўсюду. Але пра ўсё па парадку.

### «Пакідаючы права на эксперымент...»

***— На пачатку для цябе гэта было чымсьці накшталт хобі?***

— Так. Але паралельна я вывучаў умовы вядзення бізнесу ў Беларусі. Напрыканцы 2014 — пачатку 2015-га пашчасціла сустрэцца з аднадумцам. Ён мне кажа: «Што ты ўсё хатняе піва робіш, давай выходзіць на ўзровень!» Ну, давай. Так і пачалі.

***— Большасць гатункаў твайго піва падпісаныя па-беларуску, а вось назва і лагатып — англамоўныя, чаму?***

— Назва — «TRYE Beer» — гэта мая ідэя. Тут зашыфравана шмат слаёў, калі звяртацца да англійскай мовы: «try» — «пакаштуй», «rye» — «жыта», бо мы выкарыстоўваем жытні солад. Разам з тым, «try» сугучна з «true» — «сапраўдны». Кароткае слова, а столькі сэнсаў. Лагатып выкананы ў амерыканскай стылістыцы. Чаму так? Бо мы робім беларускае піва з айчынных інгрэдыентаў, але нібыта кажам нашым кліентам, што пакідаем за сабой права на эксперымент. Мы не зацыкліваемся на беларускай традыцыі.

### «Я не з сучаснага пакалення Z...»

***— Калі ты пачынаў працу, ці была канкурэнцыя?***

— На той момант мы былі першым крафтавым броварам, які меў сваю вытворчасць. Былі суполкі хлопцаў, якія працавалі на кантрактнай форме. Як гэта? Чалавек ідзе на вялікі ўжо існуючы бровар, закупляе сыравіну, распрацоўвае рэцэпт, кажа: «Зварыце мне вось так», потым выкупае аб'ём і прадае сам. Мы ж пайшлі па схеме ўласнай вытворчасці.

***— Чаму? Гэта прынцыпова?***

— Не ведаю, магчыма, я не з сучаснага пакалення Z, якое ўсё бярэ ў арэнду (смяецца). Мне трэба, каб гэта было маё. Люблю, каб фізічна нешта існавала, што я магу развіваць, перадаць нашчадкам і г.д. Мы вырашылі зрабіць свой бровар, бо гэта дае больш кантролю, больш незалежнасці. Гэта складанейшы шлях. Прыйсці і сказаць: «Зварыце мне» — проста. А калі ў цябе вытворчасць — трэба адпавядаць патрабаванням, весці бухгалтэрыю — свая спецыфіка. Наогул жа мне заўжды было цікава давесці, што беларускае піва можа быць класным!

***— А гэта трэба даводзіць?***

— Існуе стэрэатып, маўляў, наша піва — апрыёры дрэнное... Маўляў, беларускі солад і хмель немагчыма выкарыстоўваць, гэта ўсё другагатунковае. Цікава, што такую думку культывуюць і нашы буйныя бровары, якія належаць міжнародным карпарацыям. У іх кантрактах на пастаўкі хмелю, скажам, з Чэхіі, а значыць, трэба абгрунтаваць, чаму яны не выкарыстоўваюць айчынную сыравіну. Тады і пачынаюцца казкі пра тое, што беларускі хмель — лайно. Мне хацелася паказаць, што і солад наш зусім не благі, а калі ёсць галава і рукі — з усяго можна рабіць добры прадукт.

У адрозненне ад буйных заводаў, мы не выкарыстоўваем хімічных дадаткаў, напрыклад, каб піва хутчэй выспявала. Мы працуем па старых рэцэптах: солад, вада, хмель, зварылі, залілі ў бутэльку, і ўсё — піва гатовае. Разам з тым, я стараюся ўзяць стылі піва, якіх у нас наогул няма на рынку, і зварыць іх у аўтарскім выкананні. Зазвычай, робім сінтэз сусветнай традыцыі і беларускага каларыту.

Вось «Чабор». Гэта фактычна нямецкі гатунак гозэ, але з нашымі асаблівасцямі. Гозэ ўласцівы для Саксоніі, ён трошкі кіславаты і саланаваты, бо там крынічныя воды ідуць праз саляныя шахты. А мы дадалі свой акцэнт: замест карыяндру — чабор, замест пшаніцы — жыта. Нехта малюе карціны, я — вару піва. Гэта мастацтва!

***— То бок вы апелюеце да сусветных шэдэўраў?***

— Але ў мяне ў планах знайсці і вывесці ў свет беларускае традыцыйнае броварства. Ёсць даследаванні па беларускім броварстве, але як наша гісторыя пачынаецца




з «вялікай айчыннай рэвалюцыі», так і броварства чамусьці ў нас пачынаецца адно з лагераў у XIX стагоддзі ды «Аліварыі». Насамрэч, старт быў нашмат раней! У нас піва варылі па хатах у вёсках — вось дзе традыцыі. Ніякімі лагерамі там не пахла.

Чаму піва было так папулярна ў Сярэднявеччы? Бо піць піва было бяспечней, чым ваду. Санітарыі не было ж ніякай, з вадой можна было падчапіць што заўгодна. Піва ж мае спецыфічны склад, кіслую рэакцыю, ніякія шкодныя арганізмы там наўпрост не выжываць. Півам атруціцца ці захварэць праз яго немагчыма.

### Традыцыі + эксперыменты + прыватная ўласнасць

***— Усё ж такі, што такое крафтавае піва для цябе?***

— Крафтавае, у маім разуменні, — гэта рамеснае піва. Гэта прыватны бровар і традыцыйныя рэцэпты ці эксперыменты. Без выкарыстання сучасных хімічных дадаткаў. Шмат хто скардзіцца, што пасля піва буйных заводаў баліць галава. Падаецца, піва і піва — прыгожа выглядае ў куфлі. А яны выкарыстоўваюць тэхналогіі, каб паскараць працэс і павялічваць свае абароты вытворчасці. Гэта бізнес. Мы можам пагадзіцца на страты ў абмен на смак і якасць — гэта галоўнае. А буйныя бровары выціскаюць са складнікаў усё, што можна, бо кожная капейка сабекошту для іх перарастае ў мільёны долараў.

У амерыканцаў, напрыклад, крафтавы бровар — гэта бровар з абаротам менш за мільён літраў у год. Пры гэтым, зразумела, гэта прыватная ўласнасць, не мае быць дамінуючай доля вялікіх карпарацыяў. Калі глядзець з гэтай званіцы, то некаторыя буйныя мінскія заводы не дацягваюць да амерыканскіх крафтавых па аб'ёмах... Увесь рынак Беларусі гадоў пяць таму складаў пяцьсот мільёнаў літраў на год — гэта ўсё, што выпіваецца, уключна з украінскім і расійскім півам. Калі я гляджу на нашу «крафтавую» долю ва ўсім гэтым, то гэта адсоткі адсоткаў.

***— Ці захаваліся традыцыйныя беларускія рэцэпты?***

**Мы можам пагадзіцца на страты ў абмен на смак і якасць — гэта галоўнае. А буйныя бровары выціскаюць са складнікаў усё, што можна, бо кожная капейка сабекошту для іх перарастае ў мільёны долараў**

— Захаваліся англійскія кнігі XV стагоддзя, дзе падрабязна распісаная рэцэптура, — рабі хоць зараз, крок за крокам! У нас такога, на жаль, няма. Ёсць урыўкі апісанняў, напрыклад, «піва было пеннае», згадкі ў песнях, абрадавыя традыцыі. Усё гэта трэба даследаваць, маючы досвед бровара. Тое, што для нармальнага чалавека радок у песні, для мяне — элемент рэцэптуры. З народнай культуры можна даставаць інфармацыю аб тым, як гэта ўсё рабілася.

***— А як наконт захавання нефільтраванага піва?***

— Ёсць такая бяда: нашы ДАСТ заснаваныя на савецкіх тэхналагічных практыках ды ўзроўні санітарыі, яны даўно састарэлі. Таму ў людзей дагэтуль жыве ўяўленне, маўляў, «жывое» піва не можа захоўвацца больш за сем дзён. Гэта лухта. Ёсць брытанскае, нямецкае ці бельгійскае «жывое» піва, якое да нас прыходзіць, — там пазначаны тэрмін захавання: год-два. Калі казаць пра моцныя гатункі, дзе больш за 10% алкаголю, — там тэрмін наогул не пазначаны! То-бок, колькі вытрымаеш — столькі яно ў цябе будзе стаяць (смяецца).

***— Дык ёсць розніца ў тэрмінах для фільтраванага і нефільтраванага піва?***

— У рэальнасці, пастэрызаванае піва захоўваецца нават менш часу. Шмат для каго гэта шок! Як так? Калі піва пастэрызуецца, усе шкодныя бактэрыі, якія могуць яго сапсаваць, паміраюць. Але разам з імі паміраюць і самі дрожджы. То бок, гэтае піва наўпрост «мёртвае». Ведаеце, тут як з жывой і мёртвай вадой у казках... Калі піва «жывое» і дрожджы захоўваюцца, знаходзяцца ў адсутнасці пажыўных рэчываў, яны проста спяць. Для піва шкодным з'яўляецца кісларод. Калі неяк праз корак кісларод пранікае — дрожджы прачынаюцца, з'ядаюць кісларод і засынаюць. То бок, калі дрожджы жывыя, яны самі ахоўваюць піва ад псавання.

***— То бок, крафтавае піва, насамрэч, жыве сваім жыццём...***

— Так, «жывое» піва нават змяняецца. Калі вы яго толькі набылі — гэта адзін смак, праз месяц — іншы і г.д. Гэта як з добрым віном — ты яго паставіў і чакаеш. Чаму шукаюць, скажам, нейкі канкрэтны год? Бо адмыслоўцы ведаюць, якое было надвор'е ў тым годзе, ведаюць, што з таго году да сёння прайшло чатыры гады і напой змяніўся нейкім канкрэтным чынам. Таксама і з півам. Гэта жывы напой, зменлівы.

Сам адкладаю моцныя гатункі свайго ж піва на захаванне, каб ведаць, што пасля з імі робіцца. З першай партыі, якая выйшла ў 2015-м, я асабіста пакінуў пару скрыняў. У лядоўню не кладу, яно захоўваецца ў мяне пры 16 градусах. На святы адкаркоўваю па пару бутэлек, гляджу, як змяняецца смак.

### «Мы не імкнемся падабацца ўсім»

***— Самі часта п'еце піва?***

— Каюся, не. Па роду заняткаў маю каштаваць ледзьве не штодзень — якое піва гатовае, якое не. Я ж хадзячая лабараторыя (смяецца)! Можа быць, таму і згубіў запал. Раней: «О, цікава, трэба пакаштаваць!..» А зараз дастаткова панюхаць, каб зразумець, што да чаго. Як і раней, я люблю піва найбольш з алкаголю. З моцнага выпіў бы яшчэ, хіба, шатландскі віскі — «Лафройг», ён на выспах робіцца, з пахам і смакам мора. Мне цікава ўсё складанае.

***— А фільтраванае піва для цябе табу?***

— Чаму, калі ўзяць звыклае піва беларускіх заводаў — там нічога дрэннага няма. Тэхнічна добра зроблена, большасць у стылі мюнхенскі лагер — 90% таго, што стаіць на паліцах у крамах. Усяго існуе прыкладна 180 стыляў пеннага напою ў свеце, а ў нас 90% асартыменту — гэта адзін стыль. Вось такі ахоп сусветнай традыцыі броварства (смяецца).

Лагер з мінімальным адсоткам хмелю — не горкае, салодзенькае, каб спадабалася ўсім, — вось яно, беларускае піва. А мы не імкнёмся спадабацца ўсім. Гэта не мэта. Мэта — зрабіць адметна. Я ведаю, што заўсёды існуе чалавек, якому маё піва спадабаецца, і не хачу, каб хлопцы на кожным прыпынку стаялі з маімі бутэлькамі, не. Гэта гучныя словы, але мне хацелася б зрабіць свой унёсак у сусветную культуру вырабу і спажывання піва.





**Напісаць праект было лягчэй, чым яго выканаць. І гэта пры тым, што яшчэ да падачы заяўкі на конкурс я дамовілася пра падтрымку мясцовых уладаў**

# Аксакаўшчына: спорткомплекс сваімі рукамі



Зінаіда ЦІМОШАК

**Да нядаўняга часу Марыя Дашчынская (Арлоўская) была звычайнай жыхаркай вёскі Аксакаўшчына Мінскага раёна, у якой жыве з 1982 года. Як і іншыя вяскоўцы, хадзіла па разбітых дарогах, пазірала на смецце вакол дамоў і ў лесе. Дзякуючы яе грамадскай актыўнасці і калектыўнай працы жыхароў вёскі ў лістападзе 2017 года на прыдамавой тэрыторыі ўзнік адмысловы спартыўны гарадок.**



Невялікі дзіцячы садок і тры крамы — вось і ўся сацыяльная інфраструктура вёскі Аксакаўшчына, нягледзячы на тое, што тут знаходзіцца буйны медыцынскі рэабілітацыйны цэнтр. У лясной вёсцы няма нават школы, дзе б была спартыўная пляцоўка. Пры тым, што тут зарэгістраваныя 1014 жыхароў, у тым ліку больш за 200 дзяцей.

— Нашы дзеці да гэтага часу гулялі ў футбол на прыдамавой тэрыторыі, рызыкуючы сваім жыццём і маёмасцю грамадзян, — распавяла Марыя. — Для валейболу нацягвалі вяроўку паміж дрэвамі на ўскрайку лесу. А на двары XIX стагоддзе. Хацелася, каб з'явілася прыстойная спартыўная пляцоўка, якая б адцягнула дзяцей ад камп'ютарных гульняў і стварыла ўмовы для фізічнага развіцця на свежым паветры. Марылі мы і пра тэніс.

Мары заставаліся марамі, пакуль Марыя і яе суседзі не сталі праяўляць ініцыятыву і грамадскую актыўнасць.

— Калі толькі сядзець і чакаць ад органаў улады, што яны вырашаць усе нашыя праблемы, наваколле наўрад ці стане для людзей утульным, — гаворыць грамадская актывістка. — Справа пачала рухацца са снежня 2015 года, калі створаная ініцыятыўная група правяла апытанне жыхароў наконт праблем. На першым месцы апынулася забруджванне тэрыторыі і навакольнага асяроддзя. На другім — адсутнасць спартыўнай пляцоўкі для дзяцей і дарослых.

— Побач з вёскай знаходзіцца бальніца на 480 ложкаў, — распавядае жанчына. — На прылеглай тэрыторыі — лес, дзе любяць гуляць хворыя, наведвальнікі і аматары «дзікага адпачынку». У выніку — горы смецця. Вырашылі кожны год праводзіць суботнікі па прыборцы тэрыторыі. Дапамагаюць валанцёры з Мінска. Звычайна трактары напоўніцу загружаюцца смеццем. На жаль, культура «дзікага адпачынку» знаходзіцца не на высокім узроўні.

Дзякуючы ініцыятыве актывісткі і падтрымцы яе жыхарамі былі залатаныя дзіркі на дарогах, з'явіліся новая пляцоўка для збору смецця, а восенню 2017 года ў двары двух пяціпавярховікаў паўстаў спартыўны комплекс пад адкрытым небам.

Лідарка мясцовай супольнасці прыняла ўдзел у конкурсе мясцовых ініцыятываў. Яе праект знайшоў падтрымку ў спонсараў летам 2017 года, у верасні была падпісана дамова аб выкананні.

Зараз паміж дамамі на вуліцы Лясной дзякуючы калектыўнай працы дарослых і дзяцей месціцца паўнавартаснае поле для гульні ў міні-футбол памерам 15 на 28 метраў і адмысловай агароджай вышынёй у 3 метры, валейбольная пляцоўка, баскетбольны шчыт, тэнісны стол, турнікі і брусы.

— Напісаць праект было лягчэй, чым яго выканаць, — кажа жанчына. — І гэта пры тым, што яшчэ да падачы заяўкі на конкурс я дамовілася пра падтрымку мясцовых уладаў. Аднак, пасля атрымання фінансаў чыноўнікі дапамагаць не спяшаліся. Фактычна, усё легла на плечы жыхароў: і мантаж абсталявання з агароджай, і падрыхтоўка самой тэрыторыі пад спартыўную пляцоўку. (Гэтая частка работ была заяўлена як унёсак мясцовай улады). Таксама патрэбна было выдаткаваць шмат высілкаў на ўзгадненне з мясцовай адміністрацыяй схемы спартыўнай пляцоўкі.

Працэс узгаднення праекту, вырашэнне пытанняў бяспекі занялі шмат часу. Доўга давялося вырашаць і праблему вырубкі 14 соснаў на месцы цяперашняй валейбольнай пляцоўкі.

Але ўзрадаваў удзел жыхароў вёскі ў будаўніцтве і абсталяванні пляцоўкі. Працавалі жыхары рознага ўзросту: дапамагалі нават дзеці-дашкольнікі, пенсіянеры. Бацькі прыходзілі разам з немаўлятамі. Пакуль тыя спалі ў вазках, іх маці і таты працавалі. 19 лістапада адбылося ўрачыстае адкрыццё спартыўнай пляцоўкі. Гэта было сапраўднае свята пад назвай «Малыя алімпійскія гульні 2017 года, Аксакаўшчына, старт».

Свята вялі прафесійныя вядоўцы, гучалі музыка і песні ў жывым выкананні, былі і печыва, і гарбата. Мерапрыемства прайшло весела і радасна, прагучала многа ўдзячных слоў. І ўзнікла адчуванне, што мы зрабілі нешта патрэбнае, — дзеліцца сваімі ўспамінамі актывістка. — На свята прыехаў прадстаўнік райвыканкама, прывёз у якасці падарунка мячыкі. Быў і начальнік нашага ЖЭУ. Яны зрабілі свой унёсак тым, што напярэдадні дня адкрыцця пляцоўкі паставілі дзве новыя лавы і дзве невялічкія сметніцы, прывезлі машыну пяску для валейбольнай пляцоўкі.

Марыя Дашчынская лічыць, што дзякуючы актыўнаму ўдзелу жыхароў, актывістам удалося прыцягнуць увагу мясцовых уладаў да населенага пункта. Зараз ставіцца задача далейшага супрацоўніцтва па вырашэнні агульных праблем рэгіёна. У снежні 2017 года адбылося пасяджэнне «круглага стала» з мясцовымі ўладамі, на якім абмяркоўваліся вынікі рэалізацыі ініцыятывы і магчымасці далейшага супрацоўніцтва.





**Фота з сайта www.mlyn.by**

**Літаратурная Беларусь**

Выпуск №1 (137)
(студзень)

**КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ**
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by

## Змест



# Віктар Карамазаў: «Імкнуся паказаць, як выяўляецца творчая асоба»

**Адзін з вядомых пісьменнікаў пакалення шасцідзясятнікаў, Віктар Філімонавіч Карамазаў прысвяціў шэраг кніг адлюстраванню жыцця і творчасці беларускіх мастакоў: Вітольда Бялыніцкага-Бірулі, Станіслава Жукоўскага, Антона Бархаткова, Гаўрыіла Вашчанкі, Фердынанда Рушчыца, Анатоля Бараноўскага.**



Віктар Карамазаў каля сваіх карцін

Новая — восьмая па ліку — кніга пісьменніка пра мастакоў «Пад крыжам» уключае аповесць «Зямля Фердынанда», прысвечаная Рушчыцу, навэлы «Ван Гог», «Бабіна лета», «Макі» (пра сучасных пейзажыстаў — Міколу і Марыю Ісаёнкаў, Антона Вырву), і разважлівае апавяданне з дарагой сэрцу пісьменніка вёскай Лімень на Магілёўшчыне.

У час навагодніх святаў было прыемна ўбачыць 83-гадовага літаратара ў добрым настроі, з новымі ўражаннямі ад пабачанага вернісажа маладых мастакоў, за працай над новымі персаналіямі. Аўтар аповесцяў і эсэ, апавяданняў і нарысаў распавёў, як прыйшла да яго цікавасць да мастацкай тэмы. Здаецца, яшчэ ніхто не перадаваў так выразна словамі колеры і фарбы прыроды, за якімі назірае мастак:

«Сад атуляўся залацістай вохрай і цяплеў. Ружовыя пялёсткі макаў, яшчэ ў бутонах, былі абвешаныя кроплямі расы, у якіх таіліся зямныя ізумруды, блакітны туманок».

«Ён днямі шукаў на палатне патрэбны тон, ловячы сваё натхненне на ўзыходзе сонца, калі першая хваля святла пачынала саграваць лясныя ваколіцы, лугавую раскошу траў, абуджаючы ад начной спячкі кожную кветку, званочкі і парасончыкі, зрывала з азёрнага люстра белую начную коўдру, пасіненую ўльтрамарынавым золакам, разводзіла па бяскрайнім люстры бірузовую паводку, на якой пачынаў разгарацца дзень»…

— Аналагаў у нашай літаратуры не было, — кажа Віктар Карамазаў. — Ніводзін пісьменнік у беларускай літаратуры не напісаў пра мастакоў — хоць бы навэлу, не кажучы пра аповесць ці раман! Многія пісьменнікі сябравалі з мастакамі — і са Шчамялёвым, і з Вашчанкам, і з Савіцкім, але ніхто пра іх не пісаў. Я адчуў душу мастака, увайшоў у яго псіхалогію. Для нас вобраз мастака вельмі павучальны, гэта цэлая школа выхавання. У мастакоў кандэнсуецца высокая духоўнасць, прыгажосць жыцця чалавека і прыроды. Мастак чытае прыроду знутры. Ён раскрывае духоўны патэнцыял прыроды, і мы павінны вучыцца ў яго разуменню прыроды. Маючы немалы вопыт работы ў гэтым жанры, я ведаю, што мастакі не адкрываюцца да канца, унутраны свет іх складаны і схаваны ад вачэй. Ён увесь выліваецца ў карціну, а не ў слова. У Паўстоўскага ёсць удалыя аповесці пра Ісаака Левітана і пра Арэста Кіпрэнскага, але ён карыстаўся вядомымі фактамі. Я ж шукаю факты абсалютна невядомыя.

***— Віктар Філімонавіч, нядаўна ў Магілёве адзначалася 145-годдзе з дня нараджэння Вітольда Бялыніцкага-Бірулі. Як Вы зацікавіліся яго творчасцю?***

— Рэдактар часопіса «Нёман» Анатоль Кудравец папрасіў напісаць эсэ пра пейзажыста. Я пайшоў у архіў і знайшоў цікавыя старонкі пісьменніка Войніча, які пасля вайны збіраўся пісаць кнігу пра мастака, меў яго рукапісы. Там былі ўспаміны Бірулі пра дзяцінства. Гэтыя яго старонкі паказалі мне шлях да Бялыніцкага-Бірулі. Тады я знайшоў вёсачку Крынкі на беразе Друці, знайшоў падмурак дома бацькі, бэз пад вакном. Потым паехаў на Віцебшчыну, на возера Няшчэрда, дзе калісьці жылі бацькі Бірулі, перагледзеў работы мастака ў Нацыянальным і ў Магілёўскім музеях, захапіўся яго жыццём, і яно вывела мяне да аповесці «Крыж на зямлі і поўня ў небе». Бялыніцкі жыў у прыродзе, быў выдатным паляўнічым, і для мяне ён аказаўся не толькі творцам, а блізкім па душы і думках «лясным» чалавекам.

…Раней у мяне была Лімень, вёсачка пад Чэрыкавам. У 1918–1924 гадах там знаходзілася школа-камуна, якую ўзначальваў Мадэст Лепяшынскі. Там вучыліся будучы кампазітар Ісаак Любан і прафесар Іван Гутараў. Пасля вайны ў Лімені існавала школа леснікоў, запаведнік бяброў і вальер высакародных аленяў. Егеры вялі догляд і навуковыя даследаванні. Я прыжыўся ў ляснііцтве, завёў цёплае сяброўства з леснікамі — і там у 1986 годзе напісаў раман «Пушча» і паляўнічыя апавяданні. Потым туды прыйшла радыяцыя, лес і вёска аказаліся ў забруджанай зоне. Для мяне гэта была вялікая творчая страта — жыць без роднага лесу, без Лімені…

І вось тады Біруля даў мне новы шлях. Я паехаў у Цвярскую губернію і знайшоў яго знакамітае лецішча «Чайка» на высокім беразе возера Удомля. Бялыніцкі пабудаваў яго ў 1910-х гадах. Вядомае месца ў расійскай і савецкай культуры. Дом быў закінуты. Я пасяліўся там і з месяц жыў, абышоў мясціны, дзе мастак пісаў пейзажы, аб'ездзіў навакольныя вёскі. Насупраць «Чайкі» ёсць вёска Гарусава, дзе жыў Ісаак Левітан, пісаў эцюды да сваёй вялікай карціны «Над вечным спакоем». Там у 90-х гадах XIX стагоддзя ён ствараў «Залатую восень». Тут адбыўся ўзлёт творчасці жывапісца.

Бялыніцкі любіў і глыбока ведаў прыроду. Мне прыемна было пісаць пра яго аповесць. Яна публікавалася ў «Маладосці», пасля выйшла асобнай кнігай. Мы наладзілі ў 1996 годзе першы пленэр Бялыніцкага-Бірулі. З таго часу яны ладзяцца кожны год…

Пазней я напісаў сцэнар для кінафільма па аповесці, і рэжысёр Валерый Басаў паставіў поўнаметражны кінафільм, які так і называўся: «Крыж на зямлі і поўня ў небе». Валянцін Ермаловіч, які працаваў у Магілёве рэжысёрам гарадскога тэатра, па аповесці паставіў спектакль. Прэм'ера ўрачыста адбылася ў музеі Бялыніцкага-Бірулі. Ермаловіч іграў Бірулю. Аповесць была ўключана ў школьныя праграмы… Усё гэта — светлая старонка майго жыцця.

Напісаўшы аповесць пра Бялыніцкага-Бірулю, я зацікавіўся творчасцю яго сябра — Станіслава Жукоўскага з Пружанаў. 70 гадоў яго выставы не ладзілі ў Савецкім Саюзе, ён быў пад забаронаю, бо яго бацька і дзядзькі былі рэпрэсаваныя. З 1923 года Жукоўскі жыў у Польшчы. Мая аповесць «Брат мой духоўны» паспрыяла яго рэабілітацыі. Тады і адбылася яго першая выстава. У нашым Нацыянальным музеі ёсць каля 30 яго работ. Мне дапамог маскоўскі мастацтвазнаўца Гарэлы.

А потым я пісаў пра Антона Бархаткова, які лічыў сябе вучнем Бірулі…

***— Вы таксама пішаце карціны?***

— Гэта маё вельмі ранняе і на ўсё жыццё захапленне. Пасля вайны партрэтаў пісьменнікаў у школе не было, падручнікі меў мала хто, а я браў кнігі ў бібліятэцы крычаўскага педвучылішча, дзе бацька выкладаў літаратуру і мову. Там знаходзіў партрэты класікаў, перамалёўваў іх на левым чыстым баку плакатаў, якія давала настаўніца, прыносіў у школу.

Працяг на стар. 10 (4) »

**Аўтар аповесцяў і эсэ, апавяданняў і нарысаў распавёў, як прыйшла да яго цікавасць да мастацкай тэмы. Здаецца, яшчэ ніхто не перадаваў так выразна словамі колеры і фарбы прыроды, за якімі назірае мастак**

# Новы сезон Прэміі Цёткі

**Распачынаецца трэці сезон Прэміі Цёткі (Алаізы Пашкевіч), якая прысуджаецца за найлепшую кнігу для дзяцей і падлеткаў. На конкурс прымаюцца кнігі 2017 года, напісаныя на беларускай мове.**

Прэмія Цёткі ўручаецца ў дзвюх намінацыях: за найлепшы твор для дзяцей і падлеткаў (незалежна ад роду літаратуры: проза, паэзія, драматургія — аўтару арыгінальнай беларускай кнігі) і за найлепшае мастацкае афармленне кнігі (мастаку-ілюстратару кнігі). Для кожнай намінацыі асобнае журы вызначыць аднаго пераможцу. Кожны з іх атрымае грашовы прыз, эквівалентны 2000 даляраў ЗША.

Каб падаць кнігу на разгляд, трэба запоўніць форму на сайце ciotka.by. Прапанаваць кнігу на конкурс могуць выдавецтвы, члены журы, аргкамітэт прэміі, а таксама сам аўтар або мастак і наогул любы зацікаўлены чытач.

У 2016 годзе пераможцамі першай Прэміі Цёткі сталі пісьменніца Надзея Ясмінская і мастачка Кацярына Дубовік з кнігай «Сем ружаў». У 2017 — Уладзімір Арлоў і Павел Татарнікаў з кнігай «Айчына: маляўнічая гісторыя. Ад Рагнеды да Касцюшкі».

# Кніга Валянціны Аксак

**«Завінены рай» — сёмая кніга Валянціны Аксак (ад пачатку 1990-х выйшлі «Цвінтар», «Капліца», «Антычны дождж», «Віно з Каліфорніі», «Ружоўніца» і «Дзікая сліва»).**



Нават не чытаўшы вершаў Валянціны Аксак, па адных назвах можна зразумець: гэта паэзія па-за часам. Яна «будуецца» на архетыпах, без якіх няма чалавека і яго культуры.

На тое ў часе прэзентацыі звярнуў увагу Ціхан Чарнякевіч. Тонкі водар нечага невымоўнага — так ён ахарактарызаваў паэзію Валянціны Аксак, у тым ліку «Завінены рай». Але асабліва засяродзіў увагу на «Антычным дажджы».

– Кніга выйшла ў дзевяностыя — страшны час. «Антычны дождж» быў як вакно ў іншы свет, каранёвы, анталагічны. Гэтая антычнасць засталася ценем, які праходзіць праз кожную кнігу Валянціны Аксак, такім нетаропкім верлібрам... Тут шмат прыроды, але не такой, як на дзіцячых малюнках — дрэва й два сукі. Гэта сусветнае дрэва, і паэзія — частка прыроды.

А пачаўся вечар проста — з чытання вершаў. «Добры вечар, мая дарагая...» — першае, што пачулі гледачы ад Валянціны Аксак.

Агульнае ўражанне пасля чытанняў: «Завінены рай» — працяг «Дзікай слівы». Але з біблійным ухілам (напрыклад, вершы «І мы тут былі», «Поўня»). Новая кніга змяшчае цыклы вершаў, якія, па азначэнні аўтаркі, умоўна можна назваць хрысціянскімі.

Што цікава, хрысціянства ў Валянціны Аксак «некананічнае». Гэта не погляд раба божага на высокія ід(э)алы, але погляд чалавека, роўнага боскаму. Вельмі займальна назіраць, як гераіня/аўтарка прымярае даўнішнія біблійныя сюжэты на сучаснасць, вядзе паралельна лініі рэлігійнага канону і паўсядзённасці чалавека.

Пры гэтым, як і раней, аўтарка — уся ў сабе, і ў сабе ж знаходзіць увесь свет. Захаваліся матывы адзіноты і «адцвітання», такія сабе прымаразкі, сутонне, пераходныя плыткія станы. У такіх варунках чытач — чыстая фармальнасць: кніга і так завершаная.

Запрашаючы на вечар, інфапляцоўкі паведамлялі: у кнізе «старасвецкія нетры мовы і немінучая вусціш бязмоўя». Што да «нетраў», тут, відаць, найперш маецца на ўвазе дзівосныя назвы раслінак, якія ведаюць сёння адзінкі аматараў-садаводаў. Заўважыла гэтую рысу рэдактарка Аляксандра Макавік, якую аўтарка кнігі лічыць бездакорным спецыялістам.

— Творчасць Валянціны Аксак — гэта кніжны сад… Сад — ён яшчэ і райскі, такі канцэнтраваны вобраз. Але ў пані Валянціны сад не столькі райскі, колькі Гефсіманскі. У ім ёсць яшчэ права выбару, у ім ёсць віна і магчымасць даравання.

У працяг выдавецкай тэмы слова мелі выдавец Зміцер Вішнёў («Галіяфы») і мастак Генадзь Мацур. Зміцер падзівіўся свайму шанцаванню: у працы з кнігай не трэба было шукаць ні мастака, ні рэдактара…

Што да мастацтва, Валянціна Аксак прызналася: Генадзь Мацур так на яе паўплываў сваім бачаннем кнігі, што яна адмыслова для прэзентацыі знайшла сукенку, да кнігі падобную.

– Дзе чалавек сапраўдны — у жыцці ці ў творчасці? Я разважаў над гэтым, пакуль для сябе не вырашыў: у творчасці. Чытайце кнігу пані Валянціны — там і ёсць сапраўдны чалавек, — падсумаваў спадар Генадзь.

Таксама з нараджэннем кнігі аўтарку віншавалі старшыня ПЭН-цэнтра Тацццяна Нядбай, настаўніца і «лепшая мая чытачка» (В.Аксак) Наталля Плакса. Музычную аздобу вечара забяспечыла Тацццяна Грыневіч.

**Тэкст і фота: Наста Грышчук**

# Як сказаць праўду і застацца жывым?

**(Праблемы сучаснай крытыкі)**



**Дыскусія літаратурных крытыкаў новай генерацыі адбылася ў Літаратурным музеі імя Максіма Багдановіча. Удзел у размове прынялі Марына Весялуха, Наста Грышчук, Жанна Капуста і Алена Карп. Мадэраваў сустрэчу Ціхан Чарнякевіч.**

Разам яны паспрабавалі разабрацца, чаму сучасная літаратурная крытыка незаўважная ў Беларусі і як палепшыць сітуацыю. Сустрэча была арганізаваная Саюзам беларускіх пісьменнікаў. Вашай увазе — асноўныя тэзісы дыскусіі.

**З якімі праблемамі на сённяшні дзень сутыкаецца беларуская крытыка?**

- звужэнне чытацкай аўдыторыі;
- адсутнасць адзінага парталу пра літаратуру, дзе можна было б рэгулярна размяшчаць крытычныя матэрыялы;
- адсутнасць магчымасці друкаваць рэйтынгі кніг на інтэрнэт-платформах: ва ўсіх СМІ свой фармат, свая іерархія, не кожнае пагаджаецца друкаваць навіны пра літаратуру. У буйных выданнях знікаюць рубрыкі, прысвечаныя культуры. Прыкладам, на інфармацыйным партале TUT.BY рубрыку «Культура» замянілі на рубрыку «Кругозор». Рэдактары парталаў, у сваю чаргу, скардзяцца, што матэрыялы пра літаратуру маюць нізкія рэйтынгі, таму аддаюць перавагу артыкулам на іншую тэматыку;
- пасіўнасць выдаўцоў, якія, з аднаго боку, зацікаўленыя, каб пра іх кнігі пісалі, але пры гэтым не кантактуюць з крытыкамі на пастаяннай аснове;
- замкнёнасць рэкламы беларускіх выданняў на фэйсбуку (нярэдка ў навязлівай форме ў выглядзе каментароў да прыватных допісаў), на вузкім коле чытачоў-знаёмых, якія і так сочаць за навінкамі ў літаратуры;
- адсутнасць кніжных менеджараў, кніжных скаўтаў, валанцёраў, піяршчыкаў, папулярных кніжных відэа-блогераў. У выніку ад крытыкаў патрабуецца выкананне дзясяткаў функцый, што можа адмоўна адбівацца на якасці матэрыялаў;
- нізкі статус крытыка нават у сваёй сферы дзейнасці;
- адсутнасць паўнавартаснай аплаты працы ў літаратурнай крытыцы (з гэтай прычыны большасць крытыкаў рана ці позна сыходзіць у нелітаратурныя прафесіі);

**У чым бачаць сваю функцыю сучасныя аўтары крытыкі?**

**Наста Грышчук:** Ад нас чакаюць, што мы скажам, што ў кнізе не так, але, пры гэтым, адначасова больш са станоўчай адзнакай, каб і «прасунуць» кнігу. Крытыкаваць нельга — трэба рабіць зніжку на сітуацыю. Але ж у ідэале, калі разбіраеш тэкст, да ўсяго трэба падыходзіць аб'ектыўна. Калі крытыкі будуць рабіць аўтарам зніжкі, нічога добрага не атрымаецца.

**Жанна Капуста:** Мы рэагуем на літаратурны працэс, паказваем, што ён ёсць, жыве. Выходзяць кнігі — і мы на іх адгукаемся, яны не знікаюць недзе ў бездані...

**Марына Весялуха:** Функцыя залежыць ад таго, куды я пішу. Калі ў «Звязду» — мне важна напісаць, што за кніга выйшла, каму яна можа быць цікавая — нейтральны тэкст, каб чытач у рэгіёнах пабачыў, што ёсць такі аўтар. Калі пішу на «Радыё Свабода» — магу сабе дазволіць іронію, пакпіць з аўтара, выбраць цікавую форму.

**Алена Карп:** Думаю, рэклама ўзнікае як пабочны эфект — нейкі сімвалічны капітал аўтару «капае», калі пра яго напісаў крытык, які таксама мае з гэтага свой сімвалічны капітал. Але рэкламай павінны займацца прафесіяналы. Мне здаецца, у нас ёсць «магія імя» — імя, якое аднойчы прагучала і пасля будзе доўгі час узгадвацца. Сама кніга можа не чытацца, але мы будзем па-інерцыі казаць, што пісьменнік цудоўны, і запісваць у рэйтынгі. Мне ж звычайна хочацца расказаць пра кнігу, пра якую наўрад ці хто-небудзь напіша.

**Ці павышаюць цікавасць да літаратуры літаратурныя прэміі і рэйтынгі?**

Прэміі, у тым ліку і прэмія Гедройца, усё адно гучаць у вузкім коле, папулярызацыі літаратуры не спрыяюць, але ўсе — і пісьменнікі, і крытыкі, робяць выгляд, што гэта нармальна. На жаль, спынена практыка крытычнага агляду шорт-ліста прэміі Гедройца. Пры гэтым вышэйназваная прэмія стварае экспертнае поле, дзе выбіраюцца найлепшыя творы з сучаснай беларускай літаратуры. Такім чынам меркаванне журы замяняе сабой крытычную экспертызу.

Рэйтынгі, кшталту найлепшыя кнігі года па версіі Радыё Свабода, таксама паказальныя. Прыкладам, відавочна, што ў 2017 годзе перакладах зацьмілі сабой і прозу, і паэзію: літаратурныя эксперты сярод найлепшых кніг называлі выданні 2016 года.

**Што трэба рабіць, каб змяніць сітуацыю?**

**Жанна Капуста:** Пісаць пра кнігі, працаваць, і тады будзе рэха і водгук. Калі мы перастанем крытыкаваць — гэта будзе азначаць, што нам самім не цікава. Думаю, бяда наша ў тым, што мы замыкаемся ў нашым коле. Трэба хадзіць «у людзі», а мы, наадварот, заўсёды збіраемся самі з сабой. Ад таго і наклад кніг падае, і краўдфандынг нагадвае адчайны крык.

**Алена Карп:** Трэба павышаць узровень. Я вельмі далёкая ад таго, каб плакаць — наш чытач неразумны, давайце мы яму напішам як мага прасцей: «Топ-5 вясёлых кніг», «Топ-5 спектакляў, на якія трэба звадзіць дзяўчыну» і інш. Гэта шлях у нікуды. Мы не мусім гэтым займацца. Я за тое, каб была разумная крытыка. Калі людзі любяць чытаць — яны ўжо дастакова развітыя, каб прачытаць сур'ёзную рэцэнзію на беларускай мове.

**Наста Грышчук:** Калі «адмесці» рэкламу, крытык — чалавек, які павінны пастаянна самаадукоўвацца і расці, бо калі ты спынішся — ты выпадаеш. І гэта праблема. Павінны быць нейкі пастаянны заробак канкрэтна з гэтай справы, на які можна існаваць. Калі ты матэрыяльна забяспечаны — ёсць вольны час чытаць тое, што хочаш, вывучаць вопыт замежных калег, самаадукоўвацца і паралельна пісаць. І каб на цябе пры гэтым не ціснулі: «Давай прыбяром вось гэта». Калі такія ўмовы праіснуюць нейкі працяглы час — крытыкі будуць самі па сабе расці, з'явіцца база для будучыні.

**Марына Весялуха:** У беларускай літаратуры да крытыкаў дзве прэтэнзіі: па-першае, вас няма, па-другое, вы павінны адказваць за папулярызацыю беларускай літаратуры. То бок атрымліваецца, што гэта нікому не патрэбна — толькі нам самім, такое выходзіць альтруістычнае хобі. Так, я сапраўды вельмі сумую, калі не пішу, вельмі хочацца чытаць і распавядаць свае ўражанні ад кніг. Але адны мы нічога не зробім, патрэбная дапамога звонку, разуменне выдаўцоў у першую чаргу.

Напрыканцы ўдзельнікі дыскусіі пагадзіліся на тым, што патрэбнае павышэнне аўтарытэту і статуса крытыкі. Магчыма, гэта адбудзецца праз інстытуцыялізацыю крытыкі ці заснаванне адмысловага крытычнага інтэрнэт-парталу.

**Аляксандра Дварэцкая**

**Арыядніна ніць**

*Адзе*

*Ада, Арыяда, Арыядна!*
*Мне б цябе і любіць, і сніць,*
*Толькі дзе, скажы, Арыядна,*
*Арыядніна твая ніць?*

*Я брыду лабірынтам жыццёвым.*
*Колькі цёмных у ім хадоў!*
*Я гатовы ісці самым цёмным,*
*Я схапіцца з пачварай гатоў.*

*Толькі дай мне ўсмешку светлую —*
*Хто яшчэ мяне можа натхніць! —*
*Толькі дай мне сваю запаветную,*
*Пуцяводную сваю ніць.*

*Без яе не герой я — ахвяра,*
*Не змагар я, а раб без яе.*
*А яе нам дае толькі мара*
*Ды любоў яе нам дае.*

**1965**



**На беразе Дняпра. Год жаніцьбы. 1960**



**Чарговы ўрок літаратуры. 1974**

# Пла́чу...

Анатоль ВЯРЦІНСКІ

***Светлай памяці жонкі Ады Вярцінскай (Жураўлёвай)***

***

*Не столькі пішу*
*ў сэнсе звычайным,*
*колькі запісваю, зазначаю.*
*Нехта мяне шкадуе, ратуе,*
*радкі вось гэтыя дыктуе.*
*Анёл-ахоўнік ці нехта іншы?*
*А можа быць, і сам Усявышні?*
*Святы, магутны, несмяротны,*
*ён разумее мой стан гаротны,*
*спрыяе адольваць нядолю-няўдачу.*
*Пла́чу...*
*Мне мудра ра́дзіць, чула тлумачыць.*
*Плачу...*
*Адорвае ласкай сваёй, не іначай.*
*Плачу...*





**З двухгадовым сынам Яўгенам. 1962.**

***

*...Сэрцайка біцца перастала.*
*Спынілася ўраз. І Яе не стала.*
*Не стала на золаку*
*асеннім, імглістым,*
*На свеце гэтым,*
*жывым, існым.*
*На золаку зорка яе пагасла,*
*якая штораз узыходзіла ясна,*
*ззяла, свяціла, святло пасылала,*
*Яе пуцявіну асвятляла.*
*А́дачка, матачка, жоначка,*
*не ззяе, згасла твая зорачка!*
*Адмучылася ты, адпакутвала.*
*Не шкадавала хворасць лютая.*
*Бязлітасна справу сваю рабіла.*
*Спыніла сэрцайка, загубіла...*

***

*Апошні шлях. Дарога незваротная.*
*Апошняе «бывай».*
*Так, мы — смяротныя.*
*Апошняе «даруй».*
*Так, мы — часовыя,*
*Не дораць нам, на жаль,*
*жыццё другое, новае.*
*А дадзенае нам напамінае*
*цень, што працягу, ведама, не мае.*
*Гаворым безнадзейна пра «апошняе».*
*Ды застаецца ўсё ж спадзеў на Божае,*
*спадзеў на вечнае,*
*на душы нашыя,*
*што не часовыя — інакшыя.*

***

*Адачка, матачка, матка!*
*Прыціхла нашая хатка.*
*Нячутна ў цішы яе гораснай*
*крокаў тваіх, твайго голасу.*
*Там і гэтак жа месціцца*
*твае любімае крэсліца.*
*Ды, бачу, перажывае,*
*няўтульна сябе адчувае.*
*Бядуе, сумуе хатка,*
*твае абутак, апратка,*
*твае ўсё тужліва стыне,*
*чакае: дзе ж гаспадыня?*

***

*Раюць трымацца, не адчайвацца.*
*Кажуць, маўляў, жыццё прадаўжаецца.*
*Ну так, ідзе яно, прадаўжаецца,*
*Хаця скананнямі і суправаджаецца.*
*Ды з кім прадаўжаецца, як, якім чынам?*
*Як немагчымаму стацца магчымым?..*
*Толькі ўжо ў снах жывой Яе бачу.*
*Плачу...*
*Сябе дакараю, вінавачу.*
*Плачу...*
*Не знаю, далей як з лёсам зладжу.*
*Плачу...*

**Снежань 2017 г.**




**З унукам Янкам. Юрмала. 1991**

# «Імкнуся паказаць, як выяўляецца творчая асоба»

« Заканчэнне. Пачатак на стар. 7 (1)

Настаўніца прышпільвала партрэт да класнай дошкі і вяла ўрок. Бацька ўбачыў маё захапленне і выпісаў з Масквы цэлую скрынку алейных фарбаў у тубах. Я пачаў капіраваць карціны Левітана, Шышкіна, савецкіх мастакоў. А першы малюнак зрабіў алоўкам яшчэ зімою сорак першага года на ваенным заводзе пад Ульянаўскам.

Як там апынуўся? Мы патрапілі пад бамбёжку, я згубіўся, і бацька мяне знайшоў на ваенным заводзе, дзе рабілі снарады і міны. Я патрапіў у інтэрнат для беспрытульных дзяцей. Нас апраналі ў салдацкія неданоскі і кармілі… Маю першую значную жывапісную работу з натуры «Зазімак» я напісаў на першым пленэры Бялыніцкага-Бірулі ў 1997 годзе.

***— Аднак вучыцца Вы пайшлі не ў мастацкую вучэльню, а на факультэт журналістыкі БДУ?***

— Вучыцца тады пасля вайны ў мастацкай школе не было матэрыяльнай магчымасці. І ў 1953 годзе я паступіў у БДУ. На апошніх курсах ужо пісаў апавяданні. У 1958 годзе па заканчэнні ўніверсітэта я паехаў на раён і гадоў пяць працаваў у чэрыкаўскай раённай газеце, а ў 1964 годзе вярнуўся ў Мінск. Першую кніжку апавяданняў «Падранак» я напісаў менавіта ў Лімені.

***— Віктар Філімонавіч, а як Вы пазнаёміліся з Вашай будучай жонкай Лідзіяй Мікалаеўнай?***

— Мы вучыліся разам з ёй ва ўніверсітэце. Я заканчваў журфак, а яна — аддзяленне беларускай мовы і літаратуры… Наш сын Сяргей закончыў політэхнічны інстытут, а дачка Люміла выкладае ў гімназіі беларускую мову і літаратуру. Кожны год яна са сваімі вучнямі займае першыя месцы на алімпіядах.

***— У Вашу новую кнігу «Пад крыжам» увайшла аповесць «Зямля Фердынанда» пра нашага выдатнага мастака Рушчыца. Як Вы яе пісалі?***

— Цяжка пісаць пра мастакоў, якія жылі і памерлі, таму што ў нас няма архіваў. Але мне не патрэбная ўся біяграфія мастака. Мне трэба быць моцна ўражаным яго творчым, духоўным подзвігам або яго трагедыяй, ёю запаліцца, у яе ўвайсці і яе разгадаць, маючы ўсяго некалькі фактаў з жыцця, але такіх, якія даюць лагічную і дастатковую прастору для псіхалагічнага мастацкага аналізу. Гэтакая праца патрабуе ад мяне майго ўласнага жыццёвага вопыту не менш, як жыццёвага вопыту літаратурнага героя. Так. І гэта, падкрэслю, не ёсць выдуманая праўда. Пад ёй грунт больш моцны, як пад нейкім адным асобным біяграфічным і гістарычным фактам. Трэба выпрацаваць пэўны стыль і метад. Мне гэта, думаю, пакуль што ўдаецца.

У сваёй аповесці пра Рушчыца я даследаваў праблему адрыву мастака ад родных каранёў, спрабаваў спасцігнуць, чаму Рушчыц назаўсёды пакінуў палітру і пэндзаль і пераключыўся на выкладчыцкую дзейнасць. Я зразумеў гэтую драму і даў адказ у аповесці. Мастак павінен трымацца свайго асяроддзя, сваёй глебы, сваіх традыцый, школы. Як толькі ён пачынае мяняць іх, то губляе сваю непаўторнасць.

…Я сябраваў з народным мастаком Анатолем Бараноўскім, бываў з ім на пленэрах, бачыў, як ён піша ў майстэрні, мы шчыра пра ўсё гаварылі. Гэта быў выдатны чалавек, выкладчык Беларускай акадэміі мастацтваў. Ён увесь час мяняўся, шукаў новае святло, ішоў да свайго ідэалу. Цяпер мне яго вельмі не стае.

Мяне апошнім часам захапілі маладыя мастакі рэалістычнай школы, якія выставілі свае творы ў галерэі Міхаіла Савіцкага: Антон Вырва, Васіль Пешкун, Уладыслаў Пятручык, і я пішу нататкі пра іх творчасць. Я з імі шчыры. Новая кніга адкрываецца навэлай «Ван Гог», у ёй аповед ідзе пра Антона Вырву. Часам я адыходзіў ад даставерчасці, але мастак прыняў маю навэлу. «Маё» і «яго» арганічна зліта. У гэтым мне дапамагае мой жывапіс.

***— Некалькі Вашых кніг маюць сімвал крыжа. Ён у назве першай кнігі пра Бялыніцкага-Бірулю, і ў назве новай кнігі, у тэксце апавядання, якое ящ вянчае.***

— Так. Не выпадкова. Крыж сваіх пакут як крыж свайго подзвігу для людзей, іх ратунку, Ісус Хрыстос нёс на плячах на сваю Галгофу і там праклаў шлях кожнаму хрысціяніну, кожнаму з нас, у тым ліку і маім літаратурным героям.

**Гутарыла Эла Дзвінская, фота аўтара**

# Калі абдымае Вікторыя

## З любоўю пра Іллю

### Жарсць шукання

Вы калі-небудзь аддзіралі мох у лесе, каб знайсці пад ім жалеза? Хутчэй за ўсё, адказ будзе адмоўны. Які мох! Якое жалеза! Хіба што ў тым моху пабачыць сонечную ліску і наладаваць свой кошык смакатой. Але ж яшчэ толькі пачатак траўня.

А я шукала жалеза, амаль як золата, бо калі ты шукаеш — жарсць шукання гэтак апаноўвае, што яшчэ болей усведамляеш: не ўсё тое золата, што зіхаціць. Вядома ж, у мяне былі хаўруснікі-жалезашукальнікі: найгалоўны пісьменнік-краязнаўца Іллі Уладзімір Кажамяка і такі самы, як я, апантаны, муж, гісторык і музыка Яраш Малішэўскі.

У жалезны лес Уладзімір Кажамяка завёў нас пасля выступаў у Іллянскай школе і аграрным каледжы. Жалезны лес — не ўвесь гэткі, але краязнавец ведае мясціну, дзе колькі стагоддзяў таму перакуліўся воз, што вёз выплаўленае з руды жалеза. Атрымаўшы шчасце патрымаць у руках тое, што шукалі, далей вандруем Іллёю і ваколіцамі.

### На могілках

Адведваем магілу акадэміка Адама Грымаця, чыё імя носіць Іллянская школа. Сярод магіл на старым камлі ўзвышаецца бусляня. У ім бусел і бусліха. Буслы гняздуюць бліжэй да людзей. Значыцца, і на могілках адчуваюць чалавечую прысутнасць. З вышыні назіраюць за светам тым і гэтым.

### «Я кропля вялікага творчага мора»

Кветкі, якія дораць на выступах, даўно не пакідаю сабе. Пастанавіла вяртаць іх тым, без каго б не было мяне-пісьменніцы. У Іллі — гэта Змітрок Бядуля, які ў 1899–1901 гадах навучаўся ў старажытным мястэчку.

Ля школы камень з шыльдай у гонар класіка беларускай літаратуры. І ягоны радок акурат блізкі маёй традыцыі: «Я кропля вялікага творчага мора».

Ускладаю кветкі сонечныя-сонечныя, а ў назве іхняй ёсць тое, што таксама ўласціва творцам — нарцыс.

### Сузор'і на калонах

На велічных драўляных калонах — сузор'і з дзірачак-зорачак. Нехта скажа: «Не выдумляй! Шашаль патачыў.» Але ж я каля царквы прарока Іллі.

Паводле адной з версій само мястэчка Ілля атрымала назву ад Іллінскай царквы. І гэтая нябёсная версія ўзвышае і саміх іллянцаў, і вандроўнікаў-гасцей.

### Свята Іллі ў Іллі

Ці больш дажджоў і граду ў Іллі, ці меней, чым у іншых мясцінах Беларусі, не ведаю. Любуюся мястэчкам у дзень з пераменлівай воблачнасцю. Мо і добра, што Ілля не грукаціць на калясніцы і не кідае стрэлы-маланкі ў нячысцікаў. Казалі, што тыя могуць ператварацца ў розных звяроў, хавацца ў хатах. Хаты ў Іллі прыгожыя…

Свята Іллі ў Іллі — 2 жніўня. Маланкі ў гэтае свята ўважаліся за лекавыя, а дажджавую ваду таго дня збіралі, каб мыцца ёю.

Вось і ўяўляю, што калі ў гэты дзень маланкі і дождж у Іллі — дык яны надзвычай цудадзейныя. І як файна хадзіць басаном іллянскімі калюгамі!

### Паўстанцкае

Падыходзім да месца, дзе ў 1930 годзе была збудаваная капліца, прысвечаная героям паўстання 1863 года. Капліцу знішчылі за Саветамі. На гэтым месцы маладая травеньская трава, якая нібыта шапоча: «Капліца вернецца».

Пасля задушэння паўстання 1863 года, як і ў многіх іншых мясцінах Беларусі, каталіцкая бажніца Святога Міхала была пераўтвораная ў царкву. Гэтак сталася, што царквы ў Іллі было дзве, а касцёла пэўны час — ніводнага.

Звязанае мястэчка Ілля і з паўстаннем Тадэвуша Касцюшкі. Менавіта за ўдзел у ім уладальніка мястэчка Міхала Клеафаса Агінскага яно і было канфіскаванае расейскімі ўладамі. Тое самае — рабаванне-канфіскаванне адбылося з іншым уладальнікам — Станіславам Радзішэўскім пасля паўстання 1830–31 гадоў. Лёс Іллі — як лёс Беларусі…

### Арышт На Камяні

Бажніца Святога Міхала за Польшчай была вернутая каталікам і пераасвечаная ў касцёл Маці Божай Ружанцовай. Яго спалілі ў Другую сусветную вайну.

Але застаўся касцёл Найсвяцейшага Пана Езуса, які ўпрыгожвае мястэчка. Углядаюся ў ягоныя незвычайныя камяні. Нібыта і ўсе камяні ў Беларусі для мяне незвычайныя, але з гэтымі знітаваная свая гісторыя.

Пабудову касцёла ў значнай ступені фундаваў пан Тукала. Ён плаціў сваім сялянам за прывезенае каменне. І вось каталікі пачалі збіраць малыя і вялікія камяні на царкоўным полі.

Угневаны праваслаўны святар прасіў мясцовага ўрадніка скласці пратакол і накласці арышт на камяні. Але той гэтага не ўчыніў, а калі скарга дайшла да вялейскага ўрадніка, каменне ўжо звезлі з поля. Тутэйшы ўраднік атрымаў вымову. Але што такое вымова ў параўнанні са спрыяннем будавання святыні!

### М. К.

Не адно сярод касцёлаў, але і сярод цэркваў ёсць у Іллі страчаная спадчына. Пра гэта кажа і невялікая шыльда, якая стаіць на доле: «На гэтым месцы ў 1938 годзе была пабудаваная Свята-Іосіфаўская царква святаром Віктарам Бекарэвічам. У 50-я гады царква была разбураная».

Побач з ёю вялікі камень у гонар самога мястэчка «Ілля 1473». І вершаваныя радкі:

*Праз віхуры нялёгкіх гадоў,*
*Мы ідзём пераможна і годна,*
*І свой край, край палёў і садоў,*
*Называем Ільяншчынай горда.*

*Ёсць куточак вілейскай зямлі,*
*Ілья ёсць назаўжды дарагая.*
*Мы жывём тут, дзе продкі жылі,*
*І пра гэта — у песнях спяваем.*

Уразіў подпіс: «М. К». Мясцовы аўтар сціпла паставіў толькі ініцыялы. Хацела напісаць, што не памятаю, як яго завуць. Ды ўсё ж пастанавіла, што сціпласць вартая расшыфравання — і ўдакладніла: Мікола Кутас.

### Вікторыя

Наездзіўшыся і нашпацыраваўшыся, вяртаемся да школы, у якой выступалі. Каб развітацца з Уладзімірам Кажамякам і з'ехаць. І раптам да мяне падбягае дзяўчынка і запытваецца: «Ці можна Вас абняць?» Вядома ж, можна. Гэтак мяне абдымае Вікторыя. Вікторыя Васінкевіч з 8 «Б» класа. І спадар Уладзімір усхваляваны яшчэ болей за мяне. Бо ён гэтулькі апавядаў пра школу…

### Крылы жаданняў

Школа ў Іллі з рэдкім ухілам — краязнаўчым. І адна з рэдкіх школ, у якіх не адзін музей, а два: краязнаўчы і «Вілейшчына літаратурная».

Аўтографы і кнігі, прасы і калаўроты, пасцілкі тканыя і ручнікі вышываныя. Там можна пабачыць і вялізную тэчку, на якой залатымі літарамі напісана: «Дзяржаўны АКТ на вечнае карыстанне зямлёй калгасамі», і велізарны куфар, з якім ягоны гаспадар паехаў у Амерыку. І з ім жа вярнуўся.

А яшчэ можна пакруціць крылы ветрака, якія праўдзяць жаданні.

Сапраўды праўдзіць.

**Аксана Спрынчан**



# набытак губляецца ў глыбіню

## Квантэмы

Алесь РАЗАНАЎ

У мінулым годзе чытачы «навачаснай» «Літаратурнай Беларусі» мелі магчымасць адчуць паэтычную загадкавасць і слоўную электрычнасць твораў Алеся Разанава. Паўторым жа за аўтарам — чакаючы выхаду ягонай новай кнігі — і ў наступны раз:

«Квантэмы — немагчымыя вершы: іхняя граматыка алхімія, іхняя логіка здагадка, яны выклікаюць з утоеных абсягаў быцця зместы, што не выяўляюцца, а ёсць.

Словы ў іх дзейныя асобы, і, кажучы пра нешта, што ім вядома, усякі раз адкрываюць тое, што не мае ні вобразу, ні наймення, — н і ш т о, але гэтае нешта істотнае».

*
збягаюцца сцежкі
сабе зацяжкі
набытак
губляецца ў глыбіню

*
спадсподу дно
гадае гаспадыня
дзіравы плот
дзе спраўдзіцца адно

*
ломяцца мыліцы
хмары ў памылцы
малюе
полымя храм

*
абуты ў бахілы
у хібах чын
выбух
выхоплівае глыбачыню

*
падзелены на пастаці
дзе людзі
адсоткі сочаць
лусты на стале

*
дровы адорваюць
дарагое
знаходзіць агонь
уводзіць
дарога з двара
унутр

*
вяду адымаючыся
адбіткі
здабыткі
свет справядлівы
адлівы ўслед

*
кудою ў потым
згадка падае
руку з-за плота
ў кайданах натоўпы

*
аднесены ў даўняе
адпавядаю
долу і небу
падае снег

*
галіна згінаецца
наўзахоп
зямное за мною
за пазухай вагі

*
сонца ў праменні
чмялі пасланцы
перамены
вылічваюць
хто ёсць чым

*
празрыстая рыса
прысак
знікае і паўстае

*
пні супыняюцца
сонца
сніцца суніцамі
ніцма плынь

*
стасуюцца
у калоду
ўкладаюцца соты
адкульсьці стод

*
цэлае цела
мураш
зварушвае цалі
у пальцах мера

*
у збегах рогі
ў гонар
берагуць
дагэтуль берагі
ў рабоце спробы

*
са дна ў віднату
натую
даты ў дадатак
ў вынятак сад

*
на месцы трон
вяртаюся староннi
з адмецінамі
ростань навырост

*
ловы рассоўваюцца
усцяж
кажуцца словы
ўцякае сцежка

*
спакуса ўпускаецца
дуля
адтуль
смакуе
дотык аса

*
пакліканы некалі
ў клінапіс
засяляюць
высілкі высачыню

*
здагадка прачынаецца
да рук
ідзе дарунак
недакурак нейчы

*
збіраю рублі
зарабляю
з паветра
зруб
а п у -
скаецца
напавер



*
ратуе перамена
унутры
вартуецца парог
у тварах нетры

*
дакуль перакульваюцца
наваколле
нашча
улашчваецца ў глацышы

*
малюнкі мне
мінулае лунае
ў акне адзінкі
месяц без нуля

*
табою пакінуты
у акіян
кіт адплывае
абое квіты

*
полымя моліцца
у чысціню
у прычасці
постаць чыясьці

*
з іскрыны слова
латае старое
карысць нанова
ў скрыні палатно

*
тасуюцца стасункі
наўздагон
вагон вагае
у сутыку суткі

*
адзенне недзе
год узнагарода
дзе я
дзе ты
знаходзіць карагод

*
цела ці лёс
цаляюць
стрэлы кудысьці
куды ісці

*
ломяцца долы
ў палоне
лона
адтульвае глыбіня

*
доўгія ўрокі
у гуру
дождж
гутарыць з агуркамі

*
знадворку ўнаадварот
вандроўка
дрот голы
ластаўкі застаюцца
над галавой

*
вяртаюцца варагі
раўнавага
трымае чару
гавару з чаргой

*
дарэшты
з сябе
насенне
сніць небяспеку
з рэшата снег

*
веру не рвецца
ўгары вяроўцы
ў равах
зеўраць звяры
на заўтра

*
вялікі
адтульваюць спакваля
калівы
куль аднекуль

*
дуб да нябёсаў
у будане
дабуду ў сабе
да буды

*
валодае вада
адволі да
адольваецца дол
далёка лодка

*
з сякераю наўскасяк
не так і не сяк
кірyюся з лесу
кесар калісьці

*
уселены ў словы
зычыць
звычай хлеб соль
смыліць

*
трывога ўгаворваецца
іду
да ворага з торгу

*
вокны ў спатканнях
з досвітку
у змярканне
конадні ткуцца
коні наўскапыта

*
у вокліку грак
рака
ўвалоквае ўпотайкі
наваколле

*
празрыстае ў рызах
у шкло
ўзіраюцца кшталты
шукаю школу

*
узоры малююць
з-за плямы замала
мяне ў палымянае
розум скрозь

*
арыштаваны
у рыштаванні
гартаю
у кляштары каляндар

*
рупіць наступнасць
пільнуе
шкарупа
парушаную пустату

*
раптоўна натрапіцца
спрат
яшчэ
яшчарка пpыткая
ў паратунак

*
шкадуе перашкода
да мяжы
мажлівы сам
адгэтуль велікодны

*
старая хата
раюся з аратым
хто застаецца
страхі з-пад страхі

*
часовы частковы
высачыня
адсочвае сцежкі
ўваходжу ў сховы

*
імёны ўзаеміны
называю
даніну
зыймаю
з нямой даўніны

*
сякера пад лаваю
у кавалкі
параза акрэслівае
разы

*
ні дыму
змагла
ні агню
імгла
здымаюцца з колераў
акуляры

*
з ролі ў раллю
паралелі
распаліся і супалі
ў наступнасць сплю

*
звыклае ў выклік
наўколле ў ловах
аловак
сціраецца спакваля

*
бяседа сабе
пісьмёны
для ўсіх
у мех
ссыпаецца бульба
люба

# Крок

Валянцін ДУБАТОЎКА

## Сімвал веры

У той травеньскі дзень, калі Саветы зачынялі мястэчковы касцёл, я са сваімі аднакласнікамі ў полудзень бестурботна вяртаўся са школы. Пераскокваючы праз лужыны, заўзята падпіхваў сваіх сяброў у спіну і думаў пра смачную, з водарам сушанага кропу і часнаку тушаную капусту, якая чакала мяне ў хатняй печы. Хутка мінуўшы школьны стадыён, а затым кусты бэзу, што раслі паабапал дарогі, наша невялічкая кампанія выйшла на дзядзінец мясцовага каталіцкага храма. Столькі народу, колькі сабралася ў той дзень каля касцёла, я не бачыў да гэтага ніколі. Жанчыны галосна плакалі і маліліся, мужчыны моцна лаяліся і, амаль не хаваючыся, бэсцілі савецкую ўладу ды мясцовых камуністаў. Старшыня калгаса, высокі лысаваты мужчына, крычаў штосьці па-расейску і піхаў у спіны людзей, якія заміналі падводам, што пад'язджалі да святыні. Людзі злосна зыркалі яму ўслед і моўчкі адступалі да мураванай агароджы. На прыступках касцёла я заўважыў нашага суседа, дзядзьку Ладзіка; ён вывалокаў з храма драўляную фігуру арханёла Гаўрыіла. Стары касцельны вартаўнік аддана жагнаўся.

— Ты што, стары, здурэў? — галёкнуў Ладзік, загружаючы скульптуру ў воз. — Гэта ж толькі дровы. Ды прытым яшчэ і сухія! Ха-ха-ха....

На смех кемлівага камуніста натоўп адказаў напружаным маўчаннем. Але тут да Ладзіка падскочыў старшыня калгаса і нешта зашаптаў яму на вуха. Актывіст чарговы раз заўзята зарагатаў і з яшчэ большым імпэтам пачаў грузіць у воз разабраны касцельны алтар.

Я ніколі не забудуся, як глядзелі на мяне праз прастрэлы драбін, нібы праз турэмныя краты, сумныя вочы драўляных анёлаў. Нагрузіўшы воз да верху, Ладзік утульна ўладкаваўся на спіне Святога Паўла і адвязаў ляйчыны.

— Но-о-о, пайшоў! — загарланіў ён.

Конь здрыгануўся, упёрся ў мокры мурог дзядзінца, і перагружаная падвода рушыла ўперад. На самым нізе вазка ляжаў завалены іншымі скульптурамі драўляны вобраз Збавіцеля. Яго правая рука валаклася па дарозе, пакідаючы на ёй выразны адбітак некалькіх пальцаў. Мне чамусьці падумалася: «Як жа яму балюча, калі мокрая зямля трапляе пад пазногці».

А Збаўца зноў і зноў заграбаў сваімі кволымі пальцамі мокрую зямлю сваёй апошняй дарогі. Мы беглі за гэтай перагружанай падводай нейкі час, аж пакуль мяне не паклікаў раззлаваны маёй бязглуздасцю бацька. Я добра памятаю, што ён мне тады казаў.

— Тыя людзі, што цяпер рабуюць наш касцёл, сынок, варагуюць не з ксяндзамі і касцёлам, а з намі, і галоўнае — са сваімі дзецьмі і ўнукамі.

Даўным-даўно мінула мілае дзяцінства. Незаўважна пранеслася поўнае спадзяванняў і надзей светлае юнацтва. І чым бліжэй да мяне падыходзіць няўмольная старасць, тым выразней і выразней паўстаюць у памяці сумныя вочы тых, спаленых мястэчковым актывістам, апосталаў. І драўляны вобраз Збаўцы, які чапляецца кволымі пальцамі за карэнні дрэў на сваёй апошняй дарозе, быццам баіцца пакідаць нас сам-насам з гэтым бязбожным светам...

## Крок

Ён стаяў на падаконніку дзясятага паверха дома, у якім пражыў амаль дваццаць гадоў запар. Галаву абцяжарвала толькі адна сумная думка: чаму ўсё так атрымалася? Ён не шкадаваў сябе, ён нават не перажываў за тое, як будзе балюча родным пасля яго заўчаснай смерці. Толькі ўсё тая ж думка, як хвароба, грызла і грызла яго душу: чаму, чаму так атрымалася?! Ён апошні раз зірнуў у неба і без развагаў зрабіў крок насустрач вечнасці...

А пасля на дыване з паламаных кветак, сярод дагледжанай жыхарамі дома клумбы, ляжала без руху цела паэта. Нехта скажа: не вытрымаў суровай рэальнасці. Іншыя будуць разважаць: маўляў, стаміўся жыць. Бо што яшчэ могуць сказаць людзі, якія ведалі яго толькі па яго вершах...

***

Алесь Дзяцел стаў наведваць гурток маладых літаратараў пасля таго, як у газеце «Літаратура і Мастацтва» з'явілася першая невялічкая нізка яго вершаў. У творчы студэнцкі гурток запісваліся напрыканцы васьмідзясятых амаль што ўсе, хто браўся тады за пяро.

У мінулую пятніцу Алесь атрымаў позву ў міліцыю цэнтральнага раёна сталіцы. Справа датычылася нібыта яго часовай прапіскі. На канверце быў пазначаны канкрэтны адрас. А дзявятай раніцы ён пазваніў у дзверы невялікага трохпавярховага будынка. Масіўныя дзверы са скрыгатаннем адчыніліся, і на парозе з'явіўся мужчына сярэдняга росту ў адпрасаваным чорным касцюме.

— Добры дзень, вам каго? — халадна спытаў ахоўнік.

— Добры дзень, мяне выклікалі, — Алесь падаў позву.

Мужчына ў касцюме ўзяў з рукі Алеся скамячаную паперку і, не звяртаючы ўвагі на тэкст, прапанаваў маладзёну прайсці. Дзяцел прашмыгнуў у прыадчыненыя дзверы і агледзеўся. Усё было як быццам звычайна: шэрыя сцены, высокая столь. Толькі вось чамусьці ў гэтым будынку было вельмі мала народу — як на працоўны час. І надта ж мала святла. Пакуль ахоўнік дзесьці адыходзіў, Алесь пільна вывучаў месца, куды яму давялося трапіць.

— А-а-а, Аляксандар Іванавіч Дзяцел... Чытаў,чытаў вашыя вершы.

Алесь прыжмурыўся. З другога паверха па мураваных



сходах ціха, нібыта па паветры, спускаўся лысаваты, густоўна апрануты маладжавы мужчына. Працягваючы насустрач руку, ён з усмешкаю спяшаўся да агаломшанага маладзёна.

— Рады, рады, вельмі рады, — патрасаючы Алесеву руку, шчабятаў незнаёмец.

— Ды я... вось тут... па пашпартных справах, — не ведаючы, як паводзіцца, працадзіў скрозь зубы Дзяцел.

— Ведаю, праходзьце, праходзьце, — лысаваты стаў запрашаць маладзёна прайсці за ім. Алесь, аглядаючыся, амаль навобмацак рухаўся па прыступках. На трэцім паверсе яны звярнулі з лесвіцы і накіраваліся ў канец калідора. Замок клацнуў, і лысаваты мужчына знік за цяжкімі дубовымі дзвярыма, за ім паспяшаўся і Дзяцел. У кабінеце было таксама цёмна, як і ў калідоры, так што ён зноў прыжмурыўся.

— Аляксандар Іванавіч, у вас што... са зрокам праблемы? — спытаўся ўжо знаёмы голас.

— Ды не, проста мне падалося, што ў вас вельмі слаба асветлены кабінет.

На другім канцы пакоя пстрыкнула настольная лямпа. Святло ад яе ў імгненне запоўніла ўсё памяшканне. І толькі цяпер Дзяцел змог уважліва агледзецца. Высокая, добра пабеленая столь, аздобленая дэкорам, дасканала нацёрты масцікаю дубовы паркет. На вокнах шчыльныя зялёныя, як кіпарыс, фіранкі. Па́ра драўляных, з высокімі спінкамі крэслаў і масіўны канцылярскі стол пасярэдзіне.

«Хіба гэта не міліцыя?», — прамільгнула ў галаве Алеся думка.

— Вы, Аляксандар Іванавіч, цяпер напружана разважаеце, куды патрапілі? — спытаў, уладкоўваючыся ў адно з крэслаў, лысаваты мужчына.

— Так.

— Ну і якія меркаванні?

— У адным упэўнены: гэта не пашпартная служба.

Незнаёмец усміхнуўся:

— Я ўсім гавару, што гэты малады Дзяцел не дурны хлопец.

— Прабачце, каму гэта ўсім?

— Ну, напрыклад, свайму кіраўніцтву.

— Прабачце, а хто вашыя кіраўнікі?

— Як хто?.. Абласное кіраўніцтва Камітэта дзяржаўнай бяспекі... Дарэчы, старшы лейтэнант Віктар Іванавіч Ільчанка, будзем знаёмыя, — і старлейт працягнуў руку.

Але ад такога знаёмства Алесю стала неяк мулка: «Та-ак, зараз распачне вербаваць на службу. Папросіць ахарактарызаваць сяброў... Спытае пра наш гурток... Ён памыляецца... О-о, хрэн яму!».

Алесь прыўзняў падбародак і ўпэўнена зірнуў на гаспадара кабінета. «Ну-у, пачынай», — прашаптаў Дзяцел, але яго субяседнік усё нешта запісваў у нататнік і, здавалася, зусім не звяртаў увагі на свайго госця.

«Давай, пачынай допыт. Ты зараз пабачыш, як трымаецца сапраўдны патрыёт», — шаптаў сабе пад нос маладзён, але лысаваты мужчына, як ні ў чым ні бывала, працягваў нешта натаваць.

Алесь згараў ад нецярпення: «Ну, давай, давай», — ужо амаль услых прагаварыў маладзён.

— Вы, Аляксандар Іванавіч, паліце? — спытаўся па-сяброўску гаспадар кабінета.

«Гэта такія іхнія кэдэбэшныя штучкі, знаем мы пра іх. Вось я яму зараз...» — падрыхтаваўся Алесь і выдаў:

— Калі вы сабраліся мяне вербаваць, то ў вас нічога не выйдзе!..

Дзяцел смела глядзеў кэдэбэшніку ў вочы. Той спакойна скончыў запісваць, адклаў нататнік убок, запаліў цыгарэту і, прагна зацягнуўшыся, вельмі ціха, але ўпэўнена прамовіў:

— А навошта мне вас вербаваць? Я вось зараз нагадаю некаторыя гісторыі з вашага жыцця, і вы, калі я скончу чытаць, самі мяне будзеце ўгаворваць, каб я вас аформіў на службу.

— У вас нічога не атрымаецца, — адрэзаў Дзяцел.

Гаспадар кабінета з жалем паглядзеў на маладзёна, пасля чаго раскрыў шэрую папку і, адкашляўшыся, распачаў:

— Аляксандар Іванавіч Дзяцел нарадзіўся 20 кастрычніка 1968 года ў вёсцы Мошкі, Зельвенскага раёна, Гродзенскай вобласці. Скончыў Галынкаўскую сярэднюю школу ў 1985 годзе. У тым жа годзе паступіў на філалагічны факультэт БДУ.

Лысаваты перарваўся на хвіліну і, зірнуўшы на маладзёна паверх сваіх пазалочаных акуляраў, перапытаў:

— Усё правільна?

— Я не разумею, і што тут вы знайшлі крымінальнага, — з усмешкай адказаў Дзяцел.

Праз хвіліну старлейт са здзекам дадаў:

— Вось-вось, толькі ў дзяцінстве ў вас, Аляксандар Іванавіч, крымінала і не было. Хаця-я... Але пагаворым пра сённяшняе ваша жыццё. — Ён перагарнуў некалькі аркушаў і, зноў адкашляўшыся, працягнуў зачытваць: — Студэнт філфака Аляксандар Дзяцел на працягу вучобы ва ўніверсітэце сістэматычна ўдзельнічаў у рабоце антысавецкіх арганізацый і гурткоў.

— Гэта не антысавецкія арганізацыі, а патрыятычныя гурткі, мэта якіх — адраджэнне беларускай мовы і гісторыі, — выпаліў Алесь.

Афіцэр, спакойна перагарнуўшы наступны аркуш, дадаў:

— За гэтую, як вы кажаце, патрыятычную дзейнасць, малады чалавек, вас адлічаць з універсітэта. І вы вернецеся ў сваё Мошкі пасвіць кароў.

«Вось пра такі ўціск нас і папярэджвалі старэйшыя літаратары, што прайшлі ГУЛАГ», — прамільгнула ў Алесевай галаве думка, і ён імгненна адрэзаў:

— Нічо-ога, усе нашыя знакамітыя паэты пэўны час падпрацоўвалі пастушкамі.

Гаспадар кабінета, не зважаючы на Алеся, гартаў папку.

— А-а, вось, — кэдэбэшнік падхапіў нешта з папкі і накіраваўся да маладзёна, — ну, а пра гэта што скажаце, Аляксандар Іванавіч?

Старлейт працягнуў Дзятлу некалькі здымкаў. Алесь не паверыў сваім вачам. На іх было выразна відаць, як ён са сваім аднакурснікам Міколам Янушэвічам паліць анашу. У маладзёна перахапіла дух, сэрца амаль не выскачыла з грудзей. Ён сабраўся, як мог супакоіўся і ўпэўнена прамовіў:

— І што тут крымінальнага? Хлопцы паляць цыгарэты.

Кэдэбэшнік засмяяўся.

— Ну вы, Аляксандар Іванавіч, вясёлы чалавек. Нас зусім за дурняў трымаеце?

У гэтую самую хвіліну ён працягнуў маладзёну некалькі занатаваных лісткоў. Алесь чытаў і не верыў сваім вачам. Яго аднакурснік і закадычны сябар Мікола Янушэвіч у дэталях апісваў, як і калі яны разам ужывалі наркотыкі. Не чака-

ючы, пакуль Дзяцел дачытае, кэдэбэшнік вырваў з яго рук паперы, на якіх былі зафіксаваны паказанні Янушэвіча.

— А гэта, Аляксандар Іванавіч, наркота, за ўжыванне і распаўсюд якой — санкцыі сур'ёзныя. А ў вас цяжарная нявеста...

Алесь сапраўды кахаў сваю аднакурсніцу Алёну, і рашэнне нарадзіць дзіця яны прымалі ўзважана, калі ўжо набліжаўся час заканчэння ўніверсітэта.

«Бог ты мой, што ж рабіць?», — Алесь павольна вярнуўся да стала і прысеў на крэсла.

Старлейт адчуваў, як хвалюецца маладзён.

— Моцна кахаеш яе? — амаль па-бацькоўску спытаўся ён.

У адказ Алесь, пагаджаючыся, кіўнуў галавой.

— Ай-я-яй. Калі вас, Аляксандар Іванавіч, пасадзяць, куды яна з малым? — паспачуваў старлейт. — Нават уявіць цяжка....

У хлопца трэсліся рукі, шумела ў галаве: «Як жа я так мог пракалоцца! А як жа Алёна, а дзіця...».

Кэдэбэшнік затушыў недапалак, выцягнуў нейкі лісток са стала і працягнуў яго Алесю.

— Што гэта? — насцярожыўся той.

— Наша з вамі дамова. Мы абяцаем забыцца пра ўсе ўзгаданыя вышэй парушэнні. А вы, Дзяцел, пачынаеце па-сапраўднаму служыць сваёй айчыне.

— Якое служэнне, вы ж мяне сексотам хочаце зрабіць...

— Ну, па-першае, не сексотам, а супрацоўнікам, а па-другое, калі вы памятаеце, і пісьменнік-дэмакрат Грыбаедаў быў службоўцам галоўнага жандармскага ўпраўлення, і ваш зямляк, даследчык Цэнтральнай Азіі, таксама служыў у разведцы.

— Мне трэба падумаць, — адрэзаў Дзяцел.

Гаспадар кабінета, як быццам не пачуўшы сказанага, падняўся з крэсла, узяў асадку і падышоў да Алеся.

— Аляксандар Іванавіч, за дзвярыма вартавы. Ці вы тэрмінова падпісваеце гэтую паперу, ці... — ён развёў рукі ў бакі, — турма.

У кабінеце запанавала цішыня. Праз хвіліну старлейт у чарговы раз пацісну плячыма:

— Вам жыць. Сяржант, зайдзі! — скамандаваў гаспадар кабінета, пачуўся шум за дзвярыма.

— Ну добра, добра, — амаль закрычаў Дзяцел. Рука дрыжала і неяк сама па сабе стала выводзіць подпіс. Недзе глыбока ў душы ён пратэставаў, не пагаджаўся, а рука ўсё ж не спынялася. Як толькі ён паставіў подпіс, афіцэр тут жа прыбраў падпісаную дамову, акуратна паклаўшы яе ў тую ж шэрую папку, а тады дадаў:

— Во-ось. І яшчэ... я забыўся вам сказаць, Аляксандар Іванавіч, што вы за сваю дзейнасць, як і прынята ў нас, будзеце кожны месяц атрымліваць заработную плату. Гэта для маладога жанатага чалавека неблагая падпітка. Ці не так?

Але Алесь ужо нічога не чуў, ён, як зачараваны, падняўся з крэсла і рушыў да дзвярэй.

— Не забудзьцеся, Аляксандар Іванавіч, мы сустракаемся з вамі напрыканцы кожнага тыдня, — наўздагон крыкнуў старлейт.

А Дзяцел ужо ні на што не звяртаў увагі. Ён моўчкі выйшаў з кабінета, а потым і з будынка — з адзінай думкай у галаве: «Як я мог?!». Яму было брыдка за сябе. Успомнілася, як ён асуджаў тых, хто здрадзіў вялікай ідэі адраджэння і пачаў служыць рэжыму... «А тут сам, сам пайшоў на супрацоўніцтва. Не-е, зараз вярнуся і разарву гэтую смярдзючую дамову». У нейкую хвіліну цяжкая туга адступіла, ён бадзёра развярнуўся і, высока падняўшы галаву, рушыў у адваротным накірунку: «Та-ак, зайду ў іх смярдзючы склеп і



Фота www.tut.by



скажу гэтаму сабаку ўсё, што я пра яго думаю, і хай будзе, што будзе». Але з кожным наступным крокам упэўненасць недзе знікала. Калі ён раптам аказаўся каля знаёмых яму дзвярэй, упэўненасць зусім знікла. Ён павярнуўся і хутка рушыў прэч ад збрыдлага будынка.

«Я, Аляксандар Іванавіч Дзяцел, даю згоду на супрацоўніцтва...», — старлейт Віктар Ільчанка спакойна расправіў скамечаны перапалоханым маладзёнам аркуш, закрыў папку і, расшпіліўшы пінжак, па-гаспадарску разваліўся ў крэсле. Думкі ішлі няспешна і звыкла: «А то зацягнуў песню: не бу-уду, не прыму-сіце... Ды хто ж цябе будзе прымушаць! Такіх, як ты, «патрыётаў» у мяне з дзясятак набярэцца. І хоць бы хто не пагадзіўся. А-а!». Ільчанка, шукаючы нешта вачыма, акінуў поглядам свой кабінет: «Трэба выпіць кавы». Ён бадзёра падняўся з крэсла і ўключыў электрачайнік. У яго не было ні спачування да гэтага маладзёна, якому ён пэўна што зламаў лёс, ні пагарды да сябе самога. Ён проста рабіў справу, якую лічыў вельмі важнай, як для сябе, так і для сваёй вялікай краіны. Бо, калі б не яго праца, не праца такіх жа, як ён, адданых службістаў, дык што сталася б з нашым вялікім Савецкім Саюзам...

***

У прасторым кабінеце на трэцім паверсе шэрага трохпавярховага будынка сталіцы, згорбіўшыся над сталом, сядзеў амаль зусім лысы чалавек гадоў пяцідзесяці — маёр КДБ Віктар Ільчанка. Ён паціху пацягваў гарачую гарбату і гартаў справу

**Скулы на твары пажылога маёра загойсалі, як жаўлакі. Вочы злосна прыжмурыліся: «Гэта ўсё яны, гэтыя ванючыя інтэлігенты-інтэлектуалы!». Ён злосным поглядам акінуў свой кабінет: «Якая брыдоціна!». Усё той жа невыносны шэры кабінет. Смярдзючыя, спітыя дарэшты агенты**

свайго даўняга агента — паэта-патрыёта Алеся Дзятла. Той мусіў неўзабаве да яго зайсці. Успомніліся былыя слаўныя часы, калі ён быў яшчэ маладым перспектыўным афіцэрам, якога вось-вось мусілі перавесці на павышэнне ў Маскву, у горад мараў і вялікіх перспектыў. Ад той пары мінула амаль дваццаць гадоў. Скулы на твары пажылога маёра загойсалі, як жаўлакі. Вочы злосна прыжмурыліся: «Гэта ўсё яны, гэтыя ванючыя інтэлігенты-інтэлектуалы!». Ён злосным поглядам акінуў свой кабінет: «Якая брыдоціна!». Усё той жа невыносны шэры кабінет. Смярдзючыя, спітыя дарэшты агенты. І няўмольна надыходзіць пенсія. Чаму ўсё так здарылася? Бязвольнае кіраўніцтва і замежныя ворагі развалілі вялікую краіну, дзе яго, адукаванага маладога працаголіка насамрэч чакаў поспех: «Усё яны, гэтыя фанабэрыстыя пісакі, гісторыкі, вучоныя. Яны вінаватыя, што мары не здзейсніліся. Свалата, падлюкі!»...

Ільчанка ўскочыў з крэсла і рушыў да акна. Па гарадскіх вуліцах гойсалі іншамаркі, кудысьці спяшаліся мінакі. Ён у чарговы раз глытнуў гарбаты. У гэтую хвіліну пачуўся стук у дзверы. Хуценька вярнуўся на месца, сабраў паперы, раскіданыя па стале, і закінуў іх у папку.

— Заходзьце!

Дзверы павольна адчыніліся, і ў кабінет увалюўся спіты непаголены чалавек, апрануты ў брудны, старога пакрою касцюм, якія насілі студэнты напрыканцы васьмідзясятых.

— А-а, гэта ты, Дзяцел... Ізноў напіўся. Болей грошай не атрымаеш, — адрэзаў Ільчанка.

Чалавек у брудным касцюме хутка рушыў да стала:

— Ты, сука, мне сёння ў два разы больш нальеш.

— За што гэта?

— А ты што, не ведаеш, што сярод тых, каго ўзялі ўчора на плошчы, быў мой сын?

— А прычым тут я? Гэта ж ты мне іх здаў, — са здзекам вымавіў маёр.

— Я ж цябе папярэджваў! Папярэджваў, каб майго хлопца пакінулі на волі, у яго ж дзяржаўны экзамен праз тыдзень!

Ільчанка заўважыў, з якой злосцю глядзіць на яго гэты чалавек. Ён падняўся з крэсла і падышоў да Дзятла:

— Ну, ну-у, чаго ты, Аляксандар Іванавіч, чаго ты... вось, прысядзь на крэсла.

Дзяцел павярнуўся да яго тварам.

— Віктар, дапамажы майму хлопцу, я цябе ад усёй душы прашу.

Ільчанка пакасіўся на прамоўцу. На яго глядзелі запоўненыя слязьмі змучаныя вочы няшчаснага чалавека. Маёр хутка вярнуўся да стала і разгарнуў папку.

— Ну вось глядзі, Аляксандар Іванавіч. Сын твой — адзін з самых актыўных пратэстоўцаў, арганізатар шэсця, гарланіў «Жыве Беларусь», аказваў супраціў АМОНу. Не-е, ён рэальна сядзе...

— Дык што ж рабіць? — з адчаем прашаптаў Дзяцел.

Ільчанка ўсім сваім відам паказваў, быццам ён думае, як дапамагчы хлопцу. І тут раптам амаль падскочыў.

— Слухай, Аляксандар Іванавіч. Я вось дам каманду — і тваёго хлопца сёння ж выпусцяць...

Пры гэтых словах на заплаканым твары Дзятла з'явілася стрыманая ўсмешка, а яго субяседнік працягваў:

— Але ты, Аляксандар, пагаворыш з сынам, каб ён пайшоў з намі на супрацоўніцтва.

Твар агента пасур'ёзнеў:

— Ты што, Віктар, ён жа не такі, як я. Ён не пагодзіцца ні за што на свеце!

Кэдэбэшнік з'едліва ўсміхнуўся:

— Я ў гэтым кабінеце нешта падобнае ўжо чуў гадоў дваццаць таму.

— Ён не такі, як я, табе не ўдасца яго зламаць! — амаль выкрыкнуў Дзяцел.

«Ты паглянь на яго, ажыў», — прамільгнула ў галаве Ільчанкі думка. Ён у чарговы раз з'едліва ўсміхнуўся:

— Значыць, давядзецца распавесці яму і яго сябрам, хто яго бацька.

— Не смей, не сме-е-ей! — закрычаў на ўвесь кабінет Дзяцел.

Ільчанка падняў слухаўку тэлефона і нешта сказаў. Праз хвіліну дзверы адчыніліся, і ў кабінеце з'явіўся дзяжурны.

— Выклікалі, таварыш маёр?

— Так.

— Слухаю вас.

— Вось бачыш гэтае ванючае г...

— Так.

— Выкінь з кабінета.

— Ёсць.

— У цябе нічога не атрымаецца! У цябе нічога не атрымаецца! — адчайна гарланіў Дзяцел.

Дзверы зачыніліся. Ільчанка хуценька ўхапіў са стала сурвэтку і стаў праціраць крэсла, на якім сядзеў няшчасны паэт: «Ён не такі, ён не такі... Чулі мы гэта не адзін раз». Ільчанка выкінуў у сметніцу сурвэтку і выцягнуў з кішэні насоўку, якой стаў старанна выціраць рукі: «Усе вы аднолькавыя, вы і дзеці вашыя. І нікуды вам ад нас не дзецца».

Алесь ішоў па горадзе, і яго галаву не пакідалі страшныя думкі пра тое, як ён падвёў сына: «Я мушу дапамагчы яму. Гэта я вінаваты, што ён у турме. А Ільчанка, паскуда, думае, што ўсе такія, як я...».

Дзяцел зайшоў у дом, у якім жыў амаль дваццаць гадоў. Вось ужо і кватэра, рука пацягнулася ў кішэню па ключы: «Не-е, і што я скажу жонцы? А сыну, калі выйдзе з вязніцы? Не, не, не...».

Ён рушыў па сходах прэч. Ногі панеслі наверх. Мінуў адзін паверх, потым наступны, потым яшчэ і яшчэ. Алесь адчуваў лёгкасць. Сэрца радасна трымцела ў грудзях. Першы раз за апошнія дваццаць гадоў ён добра ведаў, што мусіць зрабіць: «Та-ак. Я не дам ім, не дазволю зламаць яго!».

Выбар быў вызначаны. І гэты крок ён мусіў зрабіць сам...



# Свет мой белы



Марыя БАРАВІК

### Снежанец

*Як восень збегла — у канец,
Дык расцвітае снежанец,
І на стале, і ў сэрцы мрой,
Гаворыць колерам-зарой.
Званочкі звесіў снежанец,
Як восень збегла — у канец,
Дух аздабляе фарбай мрой
Такой парой.
Сваёй парой.*

* * *

*Зіма, мне постаць пакажы,
Каб дух незамярзальны жыў.
Зіма, мярэжу развяжы
мяцельнай музыкі душы...*

* * *

*Кладу на снег пералётны
(Юны і чысты целам)
Позірк вачэй вільготных.
І гэты лісток свой белы —
На ўражлівую душу.
Якую думку я запішу —
Адпраўлю пісьмом зімовым?
Неба чакае слова.*

* * *

*Сыплецца пер'е зімы
На сосны і на яліны.
І абрастуць галіны.
І птушак убачым мы,
Белых і нерухомых,
У баравых харомах,
Дзе дакранецца да цішыні
Наш рухалюб-цягнік,
Лётна-зямны й прамы,
Увесь у пер'і зімы,
Як і сасонкі, як і яліны,
Як і мы ва ўспамінах.*

* * *

*Снег у пояс. І мне да хаты
Поле не пераскочыць.
Ды адчуваю, што вочы таты
За полем з акенца сочаць.
То я таплюся, то выплываю,
Яснее поле. Марозіць.
Сцяжынка петліцца снегавая
На татаў позірк.*



* * *

*Наш лес зашэрыла зіма.
Недатыкальныя кусты.
Але ў душы зімы няма.
Там цёпла. Там вітаеш ты.*

*Таму і ўся зіма вакол:
І тая, што ўкрывае дол,
Якая роем белых пчол,
Перада мной, нібы Анёл;*

*І тая, што ў хвіліне сцюж
Схаваць мне раіць капялюш,
Да хвілі лютаўскіх уцех —
Да чорнай птушкі на хвасце;*

*І тая, што ў тугім пласце
Жыццёвым (лёсава расце)
У разнавіднасці сваёй —
Уся; я размаўляю з ёй.*

*Яна мне колеры дае
Як дзень надзеі настае,
Бо свет мой белы непусты —
У ім ёсць цуд вясновы — ты.*

*Ёсць думнавей з мінулых зім,
Якім я ўдзячная, усім.
І сніцца каляровы снег,
Які застаўся у вясне.*

*Там звыш усмешліва было,
Бо снег той абдымаў цяплом...
Па струнах памяці сама
Вядзе смычком мая зіма.*

### Чыстая

*Ноч святлее. Бо ў акне — снег.
Рух нябесны — у акне снег.
З вышыні бярэ разбег снег.
Дзень прачнуўся, развіднеў — снег.
Пагусцеў і памацнеў снег.
На яліне, на сасне — снег.
Як рукою скалыхнеш — снег.
— Ці праспалі, дзеці, снег?
— Не-е-е!
Паляцеў дзіцячы смех:
«Сне-е-е-ег!»*

* * *

*Уся ваколіца — зіма.
І ранак неба не ўзнімаў.
Усё закуталася ў бель.
І я ступаю ў белы хмель.
Такая лёгкая вада
Прыйшла на вейкі асядаць,
На шчокі, вусны і каўнер;
І ў гэткім вобразе цяпер
Дае пачуць забыты смех
Вада, якая — першы снег.*

* * *

*Ах, дзьмух зімы! Які прыгожы!
Аснежыў вобраз маці Божай.*

*І юная зіма-Анёл
У бель замройніла касцёл.*

*Зімовы вобраз малады
У кожнай зорачцы вады.*

*У творах з белае вады —
Свабодны дух і вольны дых.
У сонным вэлюме абшар;
І ў думнасці мая душа.*

* * *

*На яблыні прачнуўся пух.
Яго збудзіў чубаты рух —
Сігналіць мне — у пачуцці,
Што там харчуецца жыццё.*

*Кранулася і цішыня,
Нібыта ветрык рушыў пешкі.
Прачнулася і вышыня
Пухната-сонечнай усмешкай.*

### Лютніца

*Праз сто гадоў...
Барысу Кіту, якому —
107 гадоў.*

*На рэвалюцыю глядзець?..
Ну ж і дапытлівы дзіцёнак!
Яшчэ не Кіт, яшчэ Кіцёнак.
Дык не адмерзлі ногі ледзь?*

*Той люты так схапіў за пяты,
Што у паветры халадоў
Ён стаў Кітом; пра тое «свята»
Нам распавёў праз сто гадоў.*

### З вяселля

*На рэвалюцыю глядзець?..
А я (пазней) дык — на вяселле,
У снезе не па вушы ледзь,
Па хутарскому пустазеллю.*

*Зваротна з Грышкава вяселля
Мы з мамай у снягах заселі
На шырыню начнога поля —
Такую люты даў нам волю.*

*Мы шляху вымерылі мілі;
Ім свой пагорак абкруцілі;
Адзін і той жа куст лазы
Мы абагнулі тры разы.*

*Дык страху крышачку нясём...
Мне мама кажа: «Сунь — і ўсё!».
А сунешся куды далей?..
Як ля куста — нібы цяплей...*

*...Сцякаў у хаце хітры снег.
На печы грэўся татаў смех —
Рабіў на хітрыкі замах:
«Я сніў, што дома вас няма».*

*Здаецца, твар мой цвіў, як мак.
Дашкольная была зіма...*

* * *

*Застылі!
Цяжка дзьмуць вятрам...
Маўчыць прымерзлы дух народа.
І затрымалася зара,
І сніць нялёгкі сон Свабода.
Зусім застылая пара,
Між сэрцамі — снягоў гара;
І толькі — плеск падлёднай мовы,
Дзе так цяснютка плыні слова.
Найзацяжнейшая пара.
Пара напругі і нязгоды...
Але й нябесная пяра:
Хоць верша — слова ад Свабоды.*

* * *

*Як нібы набліжаецца анёл
У пошуку замучаных жывёл.
Як нібы ніц упаў мой
стромкі дух –
Асірацела вуліца і рух,
І той падстрэшны,
ледзяны куток,
Дзе еў з рукі пакінуты каток,
Дзе страшна і халодна аднаму,
Дзе ён мужнеў, і не адну зіму.
Цяпер халодна вершыку майму.*

### Нябесная патрэба

*Мой пэндзаль мроіць пра вясну
(На шкле мароз малюе рэбус).
А за вакном такое неба,
Што толькі ахнуць і ўздыхнуць.*

*Во гэта дрэва сняць гракі.
І ўжо душа глядзіць з рукі:
Яе мастацкая патрэба —
Малюнак неба.*

*Хто мае думкай пацяплець,
Дык прапусці яе праз сэрца.
Няхай хоць песняй застаецца —
Са струн гітарных узляцець.*

*Ідзе лірычная пара,
І ўжо душа шчыміць з пяра:
Яе нябесная патрэба —
Сягаць у неба.*

* * *

*У сеціве жыцця — адзіны час
Для нас, ад часу нашага прыходу.
Пакуль я ёсць (дыханнем
сярод вас)
У тканцы руху ветлівай
прыроды,
Жыве на вуснах кожная пара:
Яе характар, колер і прыгода,
Як гэта навагодняя зара,
Убеленая снегам.
З Новым годам!*

# Небяспечныя сувязі: Алена Васілевіч і Астроўскія

**Быў малады, а таму, мякка сказаўшы, не зусім разумны. Гэта ж колькі можна было ўведаць! Але што-колечы асела ў памяці і час ад часу падавала сігналы, нагадвала пра сябе.**

Казіміра Астроўскага паўстынцы (жыхары вёскі Паўстынь Слуцкага раёна) называлі панам. І складвалася такое ўражанне, што ён быў тамтэйшым землеўладальнікам.

Пан Казімір і памёр у Паўстыні, і пахаваны на вясковых могілках. Тую магілу мне рупіла і рупіць наведаць зноў. Сярод іншых магіл яна вылучалася нізкай металёвай (пэўна, жалезнай ці сталёвай) агародкай…

Пан Казімір знакаміты хоць бы тым, што ягоным сынам быў Радаслаў Астроўскі, педагог, заснавальнік першай беларускай гімназіі (у 1917 годзе ў Слуцку), дырэктар Віленскай беларускай гімназіі, аўтар, здаецца, першага беларускага навучальнага дапаможніка па астраноміі, палітычны дзеяч, намеснік Браніслава Тарашкевіча ў Беларускай Работніцка-Сялянскай Грамадзе, а ў вайну — прэзідэнт Беларускай цэнтральнай рады.

Нейк падумаўшы, што трэба ўсё ж з'ездзіць у Паўстынь, я згадаў адну размову з нашай пісьменніцай Аленай Сямёнаўнай Васілевіч. Яна між іншым сказала, што нехта з сям'і Астроўскіх быў яе хросным бацькам. Так мне запомнілася. Гэта, згадзіцеся, цікава… Ведама, у тым, што нехта з Астроўскіх хрысціў малую Алену Васілевіч, нічога дзіўнага няма, бо Алена Сямёнаўна па маці шляхцянка і жыла ў засценку Даманшчына (другая назва — Ліпнікі), што за тры вярсты ад Паўстыні. Калі адрозненне паміж шляхтай і мужыкамі адчувалася яшчэ і ў 1980-х, дык што казаць пра пачатак 1920-х? Мне хацелася высветліць, хто з Астроўскіх прамаўляў у царкве за маленькую дзяўчынку словы Сімвалу веры.

Была ў гэтым факце — факце хросту Алены Васілевіч чалавекам з роду Астроўскіх — і інтрыга. Я нават падумаў быў: Алене Васілевіч пашанцавала, што яна нарадзілася ў 1922-м, што чарговая хваля бальшавіцкага тэрору ў БССР пракацілася, калі ёй было 15–16 гадоў. Вядома, узрост быў ужо расстрэльны, і за небяспечныя сувязі, сувязі з «класавымі ворагамі», дзяўчына таксама магла трапіць пад каток, але непаўналетніх тады арыштоўвалі, як правіла, услед за бацькамі. І ўсё ж сувязі, паўтаруся, былі небяспечныя, і апавядаць у сталінскім, нават у хрушчоўскім СССР пра тое, што ты маеш нейкае дачыненне да радні «таго самага» Астроўскага, было б вельмі і вельмі неабачліва.

З думкаю пра паездку ў Паўстынь я пайшоў да Алены Сямёнаўны. Вельмі рупіла мне даведацца, хто ж быў хросным у яе, дзе і як ён жыў.



Слуцкая гімназія. Пачатак XX ст.



Радаслаў Астроўскі

## Бог смяецца, або Сёе-тое з радаводаў

Не буду казаць пра атмасферу гутаркі з Аленай Сямёнаўнай і яе блізкімі. Сустрэліся людзі, якія ведаюць тую старану і людзей тае стараны. Не цяперашніх людзей, а тых, што былі і што дажываюць веку.

Занатаваў я падчас тае сустрэчы, што насельніцтва Даманшчыны-Ліпнікоў складалі, па-тамтэйшаму кажучы, Няронскія, Бараны́, Балваны́ і Гурыны́. Гэтак «рыфмаваліся» прозвішчы Бараноўскіх, Балвановічаў і Гурыновічаў. Былі і людзі з падвойнымі прозвішчамі: Ждановіч-Гурыновіч ды Лебедзеў-Няронскі.

З тае гутаркі даведаўся я, што ў 1920-х у Паўстыні жылі дзве дачкі пана Казіміра Іванавіча і пані Эміліі Ільінічны Астроўскіх: Юлія Казіміраўна і Марыя Казіміраўна.

Юлія Казіміраўна выйшла замуж за Пятра Фоцiевіча Бараноўскага, якога акалічны люд зваў Петрусём Фотавым, а Марыя Казіміраўна стала жонкаю былога чырвонага партызана (гэта значыць, партызана, які ў 1919–1920 гадах змагаўся з польскімі акупантамі). Было ў таго партызана арыстакратычнае прозвішча — Сапега.

Калі пра Пятра Бараноўскага можна сказаць, што ён быў тамтэйшы шляхціч, дык пра Сапегу такой яснасці няма: невядома, адкуль ён з'явіўся ў Паўстыні.

Меркаваў я пасля гутаркі з Аленай Сямёнаўнай і яе блізкімі падацца ў Паўстынь, паглядзець на магілку пана Казіміра і нават сфатаграфаць яе (ведама, калі яна засталася). Але, як той казаў, чалавек плануе, а Бог смяецца, бо «мысли и дела он знает наперед». Перш адна, а потым другая хвароба, неабходнасць захоўваць дыету і рэжым, глытаць 12 таблетак на суткі не далі здзейсніцца майму плану. А ехаць позняй восенню ці зімой не выпадае: чамусьці мала хто вітае здымкі, зробленыя аб такой пары.

Не маючы магчымасці вырвацца з Менску ў пару зяленіны ці залатой восені, я здолеў высветліць, што пан Казімір Астроўскі ў сцiслым значэнні гэтага слова панам не быў. Мяркуючы па тым, што ён жыў то ў Слуцкім, то ў Пружанскім, то зноў у Слуцкім паветах (пры гэтым не ў адной і той самай мясцовасці Случчыны), я зрабіў выснову, што пан Астроўскі быў арандатарам. Гэтую маю выснову пацвярджаюць дзве ёмістыя кнігі Дзмітрыя Дразда пра землеўладальнікаў Менскай губерні. Не значыцца пан Казімір Астроўскі сярод іх, і паўстынскія землі яму не належалі. А ўзяўшы пад увагу, што пан Астроўскі лічыўся мешчанінам горада Нясвіжа, я зрабіў выснову, што быў ён з «разабранай» шляхты: з тае шляхты, якая не змагла дакументальна пацвердзіць сваё шляхецтва і была пераведзена або ў заходнія аднадворцы, або ў казённыя мужыкі, або ў мяшчане. Падобны лёс напаткаў і продкаў Яна Луцэвіча — Янкі Купалы. Пераведзеныя ў мяшчане, Луцэвічы таксама жылі на арэндах, маючы субарандатараў і парабкаў. Ці меў субарандатараў пан Казімір Астроўскі, пакуль што пэўнасці няма.

## Як яны жылі

Панна Юлія Астроўская, стаўшы пані Бараноўскай, разам са сваім Петрусём Фоцiевічам жыла на хутары Мілешава, што быў непадалёк ад засценка Кублішча (Кублішча — гэта па дарозе з Паўстыні ў Рабак; глядзіце на сучасных мапах, калі ад засценка нешта яшчэ засталося.)

Былі 1920-я гады. Новая эканамічная палітыка. Заклік Мікалая Бухарына «Абагачайцеся!». І заклік Аляксандра Чарвякова «Багацей, селянін, бо чым багацейшы ты, тым багацейшая наша краіна». Гэты час застаўся ў памяці слуцкіх сялян і шляхцічаў-земляробаў як час, калі яны былі гаспадарамі.

У Мілешаве Бараноўскія пабудавалі дом з высокім ганкам. У доме былі, што не магло не кінуцца ў вочы малой Алене Васілевіч, вялікі пакой і фарбаваная падлога, а абедзенны стол быў пакрыты блакітнай цыратай. Мелі Бараноўскія дзве каровы, авечак і кабылу з жарабём. Само сабой, у свінушніку рохкалі свінні. Зноў жа, Алене Васілевіч запомнілася, што елі Бараноўскія ды іх госці кожны са сваёй талеркі, а не з агульнай міскі, як тое было ў звычаі ў мужыкоў і ў шарачковай шляхты. А прасяную кашу пасыпа́лі цукрам, што таксама не магло не ўразіць.

А наведвала малая Алена дом Бараноўскіх таму, што Пётр Фоцiевіч Бараноўскі, швагер Радаслава Астроўскага, быў ейным хросным бацькам.

Што ж тычыцца Марыі Казіміраўны Астроўскай, цяпер ужо Сапегі, дык жыла яна ў Паўстыні, у самым канцы вёскі, у бок Барэцкага лесу. (Барэцкі лес таму, бо рос ён каля засценка Боркі.)

У доме Сапегаў Алене Васілевіч запомнілася зала з авальным сталом, вакол якога стаялі крэслы. А яшчэ ў зале было піяніна. І быў у доме дзіцячы пакой з дзіцячымі ложкамі і са сталом для лялек і цацак. Па тым часе ды для вёскі — раскоша.

А яшчэ што не магло не ўразіць, дык тое, што сёстры Астроўскія, калі выбіраліся ў Слуцак, мелі на галовах не хусткі, а капелюшы…

## Іх лёсы

У пані Юліі і Пятра Бараноўскіх быў сын Жэня 1924 года нараджэння. І яшчэ дзве дзяўчынкі — дачушкі раскулачанай сястры Пятра Фоцiевіча.

Не маглі бальшавікі не раскулачыць і Бараноўскіх. У рэшце рэшт яны трапілі ў Саратаў — горад, куды саслалі нямала беларусаў (дастаткова згадаць хоць бы Язэпа Дылу і Вацлава Ластоўскага). Юлія Казіміраўна выкладала ў Саратаве нямецкую мову (з гэтага мы робім выснову, што яна скончыла жаночую гімназію), а Пётр Фоцiевіч працаваў рахункаводам. Сын, Жэня, паступіў у Саратаўскі ўніверсітэт, але вучобу перапыніла вайна. Аднаго дня бацькі атрымалі «пахаронку» на свайго сына, адпелі яго ў царкве, памянулі. І якая ж была іх радасць, калі стала вядома, што ён жывы. Калі сын вярнуўся дадому, у яго, хто пабываў у нямецкім палоне, былі праблемы з аднаўленнем на ўніверсітэце. І ўсё ж дыплом ён атрымаў і прадоўжыў вучобу ў аспірантуры пры Іванаўскім педагагічным інстытуце, абараніў кандыдацкую і доктарскую дысертацыі. Як спецыяліст у галіне геаметрыі, загадваў адпаведнай кафедрай і быў прафесарам Іванаўскага ўніверсітэта. Каля яго, перабраўшыся з Саратава ў Іванава, дажывалі свайго веку Юлія і Пётр Бараноўскія. Па сабе прафесар Бараноўскі пакінуў сына і дачку.

Цяпер я думаю: добра, што Юлія Астроўская выйшла замуж, добра, што памяняла прозвішча, і нават добра тое, што яе саслалі ў Расію. Хто ведае, як склаўся б яе лёс у БССР, дзе ейны брат, учарашні камуніст, у 1929 годзе быў залічаны ў нацыянал-фашысты?

У пані Марыі Астроўскай, якая стала Марыяй Сапега, была дачка Віця, Вікторыя. Як і Бараноўскія, Сапегі таксама трапілі пад раскулачванне. Вядома, што па вайне яны жылі ў Алушце (Крым).

Нельга тут не згадаць Мікалая і Фядору Ждановічаў-Гурыновічаў. Мікалай Гурыновіч — гэта родны дзядзька Алены Васілевіч, брат ейнай маці, а Фядора — сястра Пятра Фоцiевіча Бараноўскага. Іх фотаздымак з 1911 года можна ўбачыць у кнігазбораўскім выданні выбраных твораў пісьменніцы. Былі Гурыновічы гаспадарамі сярэдняй заможнасці, кажучы бальшавіцкай мовай — моцнымі серадняками. Мелі сваю ваўначоску і дагледжаны сад. Гэта яны прытулілі Алену Васілевіч, калі памерла яе маці. Гэта пра Мікалая Гурыновіча напісана ў аповесці «Расці, Ганька»: «Цяпер Ганька жыве ў дзядзькі»…

Калі навісла пагроза раскулачвання, Мікалай Гурыновіч паспеў з'ехаць у Днепрапятроўск (цяпер горад Дняпро) на будаўніцтва мастоў. Ягоную жонку, Марфу, бальшавікі выгналі з хаты і неўзабаве кінулі ў слуцкую турму, а потым этапавалі ў Менск і, паводле афіцыйных дакументаў КДБ, расстралялі ў Курапатах.

## І пытанні

Той, хто чытаў кнігу "Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакументах і ўспамінах", мог не адзін раз сустрэць на яе старонках прозвішча Бараноўскі. Складальнікі і каментатары высветлілі, што Бараноўскі Алесь і Бараноўскі Андрэй паходзілі з Машчыцаў Слуцкага павета. Першага яны запісалі ў мужыкі, а другога – у шляхту. Можна меркаваць, што машчыцкія Бараноўскія былі сваякамі Бараноўскіх з Даманшчыны. На гэта паказвае хоць бы той факт, што на пачатку 1920-х выпускнік Віленскага настаўніцкага інстытута Алесь Бараноўскі працаваў у Ліпніках, вёў там культурна-асветніцкі гурток "Вясковая зорка". Як "ворага народа", бальшавікі расстралялі яго ў 1938-м.

Ёсць і пытанні: хто такія, адкуль паходзілі Адам Бараноўскі, К. Бараноўскі і Фёдар Бараноўскі? А яшчэ адно пытанне такое. Мікалай Улашчык ва ўспамінах даволі часта згадваў свайго сябра, лекара Юзіка Бараноўскага, але не даў пра яго больш-менш вычарпальных біяграфічных звестак. Адкуль, з якой мясцовасці паходзіў гэты пакутнік за беларушчыну?

На гэтыя пытанні, хочацца думаць, адкажуць гісторыкі наступнай генерацыі.

***

У гэтым тэксце "па-за кадрам" застаўся сюжэт аб прыездзе ў Даманшчыну (Ліпнікі) на пачатку 1920-х гадоў Якуба Коласа. Але пра гэта я раскажу ў больш падрабязнай публікацыі пра пэўныя моманты ў жыцці народнага паэта.

Спадзяюся, гэты нарыс дае нейкае ўяўленне пра асяроддзе, у якім рабіла першыя крокі і ўваходзіла ў свядомае жыццё Алена Васілевіч.

**Анатоль Сідарэвіч**

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 1 (137) | 26 студзеня 2018 | № 2 (565) Новы Час

# Бліжэй да сонца

## Згадкі пра сябра-мастака

**Кожны раз, калі ў нашай свядомасці раптоўна ўсплываюць малюнкі дзяцінства, яны заўсёды чамусьці напоўнены зыркім сонечным святлом.**



Мікола Маеўскі

Нават калі тое дзяцінства, з вышыні сённяшняга разумення, было далёка не райскім, наша памяць абавязкова знойдзе ў сваіх лабірынтах сонечную раніцу, напоўненую незямным водарам фантастычных кветак, страхотліва-велізарным, падобным на дыназаўра, конікам на зялёнай травінцы і не менш ірэальнай жамярой з вясёлкава-празрыстымі крыламі... Ды й само сонца было тады блізка-блізка, адразу за празрыста-пяшчотным шарыкам дзьмухаўца, які ад аднаго твайго подыху разлятаўся вясёлымі парасончыкамі...

Памятаецца, менавіта ў гэты, напоўнены сонцам, але ўжо не такім зыркім, як у дзяцінстве, а далікатна размытым смугою часу свет і вярнула мяне выстава твораў майго сябра, аднаго з самых адметных берасцейскіх мастакоў Міколы Маеўскага. «Бліжэй да сонца» — так, зусім не выпадкова, і назваў аўтар сваю, як аказалася, апошнюю персанальную выставу ў Берасці. За вокнамі бралася вясна 2010-га, ягоная шасцідзясятая вясна.

Бліжэй да сонца... Гэтым язычніцкім шляхам Мікола Маеўскі ішоў па жыцці з дзяцінства. Сонца вяло яго грыбнымі раніцамі па пушчанскіх нетрах у ваколіцах родных Дварцоў на Камянеччыне, дзе нарадзіўся мастак...

Сонца сустракала яго над казачнымі абрысамі старажытнага мястэчка, калі старшакласнікам дабіраўся вясковы юнак у камянецкую школу...

Сонца ўзыходзіла з таго боку, дзе была далёкая Радзіма, калі пасля мараходнай школы плаваў ён па экзатычных морах ды акіянах, занатоўваючы ўбачанае ў неразлучны альбом... Але сонечны шлях прывёў пушчанскага матроса зноў у Ленінград — сонца на альбомных малюнках перамагло марскую рамантыку: Мікола Маеўскі стаў навучэнцам мастацкай вучэльні імя У. Сярова і на Радзіму вярнуўся прафесійным мастаком. А ў памяці назаўсёды захаваўся акіянскі міраж:

— Уяўляеш сабе: ідзем у Аўстралію, і пасярод акіяна — два сонцы, адно спераду, другое ззаду. Аднолькавыя, на адной вышыні. Ззаду — сапраўднае, а спераду — фальшывае. Падумалася: напэўна, у кожнага чалавека ў жыцці бываюць два вось такія сонцы. Як не памыліцца, не пайсці за сонцам-міражом? Думаю, што мяне вывела на свой шлях праўдзівае сонца дзяцінства, што залаціла вершаліны пушчанскіх соснаў, промнямі-стрэламі прабівалася праз вышчарбленыя байніцы таўшчэзных сценаў Белай вежы, люстравалася ў вірлівай рачной плыні... А яшчэ любоў. Любоў да ўсяго, з чым я рос, між чаго сталеў, што прыходзіла ў загаданыя акіянам сны. І што пасля, ужо ў берасцейскай майстэрні, папрасілася на палатно.

Вясёлкавы і пластычны ў сваіх творах, Мікола Маеўскі ў стасунках з людзьмі быў, бадай, чорна-белым. Калі кахаў, то аддана, не палавініўся і не разменьваўся, калі сябраваў, то ў любую хвіліну гатовы быў падставіць сваё моцнае мужчынскае плячо. Не ведаю, ці былі ў яго ворагі; проста людзей, якіх лічыў не здатнымі на шчырасць і ўзаемнасць, ён стараўся абмінаць. І аднойчы падмануўшыся з даверам, выкрэсліваў чалавека са сваёй душы назаўсёды.

Пазнаёміліся мы на пачатку 80-х гадоў: Мікола атрымаў творчую майстэрню на Набярэжнай, якая па першым часе была і ягоным жытлом. Актыўна выстаўляўся: адметная творчая манера, свой, непаўторны мастакоўскі почырк звярнулі на сябе ўвагу і прафесіяналаў, і аматараў мастацтва. Маладога мастака заўважылі ў Мінску, не губляліся яго творы і на ўсесаюзных выставах.

Але звяла нас, здружыла сябрына «Край» — берасцейскае грамадска-культурнае аб'яднанне, народжанае як рэгіянальнае рэха славутай мінскай «Майстроўні». Праўда, спачатку з'явіўся «Дзівасіл», створаны гадаванкай «Майстроўні» Тацянай Сапач, якая пасля заканчэння БДУ прыехала працаваць на Брэсцкую студыю тэлебачання. Пазней, разам з мужам Сяргеем Дубаўцом, яны пераехалі ў Вільню, каб аднавіць выпуск газеты «Наша ніва» і тым самым абудзіць, аб'яднаць віленскіх беларусаў. Следам разам з сям'ёй з'ехаў і Алег Мінкін, якога мы лічым берасцейскім паэтам, бо менавіта тут нараджаўся яго першы паэтычны зборнік.

«Край» для ўсіх нас, прадстаўнікоў маладой творчай інтэлігенцыі Берасця, стаўся цэлай эпохай, бо быў адрозным і ад камсамола, і ад творчых саюзаў. Пазбаўлены афіцыёзу, жывы і дэмакратычны, а галоўнае — беларускі па духу. Складаней было з мовай: людзі ў «Край» прыходзілі розныя, але беларускамоўны асяродак, у які неяк незаўважна і натуральна ўліўся і Мікола Маеўскі, шырыўся, ягоная плынь разнявольвалася і дужэла. Зварот да айчыннай гісторыі, ад Гедыміна і Вітаўта да «нашаніўцаў», сустрэчы з беларускімі літаратарамі, знаёмства з традыцыйнай народнай культурай абуджала пачуццё ўласнай нацыянальнай годнасці, якое дзесяцігоддзямі старанна размывалася савецкім інтэрнацыяналізмам, а па сутнасці — русіфікацыяй, распачатай яшчэ кацярынінскімі губернатарамі, «святарамі» і «настаўнікамі».

Разам з Міколам Маеўскім у «Край» прыйшлі яго маладыя калегі Сяргей Казак і Наталля Чарнагалова, інстытуцкія выкладчыкі Валянціна Мароз і Марыя Новік, шчыравалі браты-паэты, выхадцы з «Тутэйшых», Анатоль і Васіль Дэбішы, ініцыятарка стварэння першага беларускамоўнага дзіцячага садка, выхавацелька-пісьменніца Валянціна Кукса, настаўніца першага і адзінага ў Берасці беларускага класа Ніна Чарановіч. Ствараўся гэты клас пры актыўным удзеле «краёўцаў»: мы абышлі ўвесь прылеглы да школы мікраён, сустракаліся з бацькамі, збіралі іх заявы...

Яскравай падзеяй сталіся і першыя ў пасляваенным Берасці Каляды, у якіх наш калядны гурт падтрымаў народны ансамбль «Спадчына» з ягоным кіраўніком Уладзімірам Літвінчуком. Калядную зорку — сапраўдны твор дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, які пазней і ўпрыгожыў экспазіцыю абласнога мастацкага музея, зрабіў Мікола Маеўскі. А яшчэ былі традыцыйныя Каза, Чорт, Цыганка... І песні, урачыста-віншавальныя і жартоўныя, вясёлыя танцы ў гарадскіх пад'ездах і кватэрах, проста на гарадскіх вуліцах. Перад каляднікамі гасцінна адчыняліся дзверы, поўнілася да краёў калядная торба...

Разам мы гукалі вясну, ладзілі Купалле, праводзілі перад выставачнай залай забароненыя ўладамі Дзяды... Усё гэта не магло не ўплываць і на творчасць Міколы Маеўскага. Думаю, што менавіта «Край» прывёў яго ў рэспубліканскую мастакоўскую суполку «Пагоня».

Назаўсёды застануцца ў памяці нашы сумесныя вандроўкі ў Міколавы Дварцы. Неяк ён мяне заінтрыгаваў:

— Паехалі, пабачыш нешта незвычайнае!

У Дварцах да нас далучылася археолаг з Мінска Ала Квяткоўская. Пушчанскімі нетрамі па аднаму яму вядомых прыкметах Мікола прывёў нас да выбрукаваных кругоў розных дыяметраў: адзін, другі, трэці... Прысыпаныя ігліцай, парослыя мохам, амаль незаўважныя для староннягa вока. Што гэта?

— Магчыма, яцвяжскія капішчы ці пахаванні, — выказала меркаванне археолаг. — Глянце на Міколу, з яго самога можна яцвяга маляваць!

Мікола, хударлява-жылісты, з капной светлых валасоў, якія на кантравым сонцы свяціліся быццам німб, весела зарагатаў...

— Ты паглядзі, якія колеры, якія кантрасты! На жоўтым пяску блакітныя, нават сінія цені, цёмна-зялёны ядловец, далікатныя, як дзяўчаткі, бярозкі. Па сваім стылю я мастак далёка не рэалістычны. Але гэта ў майстэрні. А на пленэры я імкнуся быць максімальным рэалістам, каб захаваць тое, што ўразіла. Ужо ў майстэрні выпрацоўваецца кампазіцыя — гэта, бадай, самы складаны і самы творчы працэс. Затым квадрат палатна — я пішу апошнім часам мятровыя кампазіцыі — запаўняецца зусім рэалістычнымі дэталямі. Тут няма характэрнай для рэалізму перспектывы, няма ценяў — дэталі набліжаны як скрозь магутную оптыку. Фарбы кладуцца дзе густа, рэльефна, а дзе ледзь пакрываюць некалькімі мазкамі палатно. Быў неяк на выставе такі смешны выпадак: падышоў да маіх жытніх каласоў адзін са старэйшых нашых мастакоў Іван Рудчык, калупнуў фарбу пазногцем і пытаецца: ты што, зерня сюды панаклейваў?

«Творы Міколы Маеўскага выпраменьваюць радасць. Глядзіш на іх і разумееш, якая багатая на колеры, якая прыгожая і непаўторная наша краіна!» — такія водгукі мне не аднойчы даводзілася чуць на выставах. Думаю, што такой жа ўспрымалі Беларусь і замежныя гледачы на выставах у самых розных, блізкіх і далёкіх краінах. Ён і ў гэтых, замежных краінах маляваў экзатычныя краявіды, выстаўляў іх у Берасці. Вочы наведвальнікаў маглі захапляцца ўбачаным, але цеплынёй напаўняліся яны перад нашымі лугавымі ды рачнымі кветкамі, пушчанскімі пейзажамі. Бывала, азірнуўшыся,якая юная аматарка мастацтва асцярожна дакраналася да блакітных васількоў, каб адчуць іх жывую цеплыню...

Бліжэй да сонца... Неяк разам з суседам па майстэрні, сябрам-мастаком Міхасём Кебецам, яны змайстравалі невялічкі струг, замацавалі два ветразі (прыдаліся навыкі марахода) і выправіліся з Берасця па Мухаўцы, а затым з Пінска — уніз па Прыпяці — ажно да Петрыкава, Міхасёвай радзімы. Палессе прычаравала мастака не менш, чым яго родная пушча, вылілася ў шэраг палотнаў, назаўсёды засталося ў ягоным сэрцы цнатлівай беллю гарлачыкаў, векавечнымі дубровамі з яшчэ дзедаўскімі борцямі і калоніямі белых чапляў на вершалінах. Нібыта па джунглях, блукалі сябры па чаратовых старыцах, заходзілі ў казачныя па сваёй прыгажосці прытокі: Гарынь, Убарць, Пціч... А колькі незабыўных сустрэч, твараў, гісторый!

— Плывем, а на высокім беразе — хатка, нібыта з мінулага стагоддзя. І адтуль чалавек махае рукамі, кліча: «Хлопчыкі, плывіце сюды, у мяне гарэлка ёсць, юшка варыцца, хлопчыкі, пагаманіць няма з кім...» Была і гарэлка, і наварыстая юшка, і гамонка каля вогнішча ледзь не да самага світанку...

— А вось бачыш рак на лугавых кветках — я яго там замаляваў. І ты думаеш дзе? — за два кіламетры ад ракі! Паняцця не маю, як ён туды дапоўз...

— А гэта ўжо кампазіцыя з майстэрні «Мой сябра вецер»: стужка Прыпяці з вышыні птушынага палёту, векавечныя дубровы паабапал і белыя ветразі, а недзе пад імі — мы з Міхасём.

А яшчэ было сонца, якое, штораніцы ўзыходзячы над рачной плынню, вабіла вандроўнікаў, мацавала пачуццё еднасці з гэтым краем, з роднай зямлёй, яе гісторыяй.

Апошнія берасцейскія гады жыцця ў Міколы не заладзіліся: тарыфы на аплату майстэрняў неймаверна падскочылі, рэдкія ганарары ледзь-ледзь хапала, каб звесці канцы з канцамі. Дэпрэсія ў творцаў, ды й не толькі, прыводзіць да аднаго, уяўнага паратунку... Майстэрню давялося здаць, а тут, да ўсяго, занядужала маці. І Мікола з'ехаў да яе ў Дварцы, як мог даглядаў, апекаваўся, выправіў у апошні шлях. І застаўся ў роднай вёсцы.

Як яму там, у вясковай цішы — ці пішацца, ці працуецца? І ці магчыма вось так, кінуўшы-рынуўшы, у далечыні ад галерэй і выставачных залаў, ці магчыма творцу заставацца творцам? Гэтыя пытанні задаваў я самому сабе на траскай ляснай гравейцы да Дварцоў. І адразу ж, з першых хвілін сустрэчы, адчуў, убачыў у яго раней заўсёды ўсмешлівых вачах самоту. Але ж не быў бы то Маеўскі! Шляхецкі гонар, імкненне да незалежнасці ад усяго і ўсіх не дазвалялі ні жаліцца, ні тым больш плакацца. І толькі каля невялічкай сажалкі за хатнімі прыбудовамі, веснавая выява якой ці не тры дзесяцігоддзі вісела перад маім пісьмовым сталом, загаварыў, звыкла кладучы фарбы на эцюд. Пра набалелае, пра творчую і чалавечую самоту. А з сажалкі зырка паблісквала сонейка, размытае на эцюдзе халодным восеньскім адвячоркам...

Неяк на выставе твораў берасцейскіх мастакоў звярнула на сябе ўвагу немаладога веку жанчына. Яна толькі што, абсалютна не гандлюючыся, набыла адзін з пушчанскіх пейзажаў Міколы Маеўскага. На палатне, знізу ўверх, бегла залітая сонцам лясная сцяжынка.

— Даруйце, чаму менавіта гэтую карціну вы купілі? — пацікавіўся мой знаёмец-калекцыянер.

Жанчына неяк па-асабліваму светла ўсміхнулася празрыста-сонечнаму пейзажу і прамовіла як даўно вырашанае: — Я дакладна ведаю, што менавіта гэтай сцяжынкай я аднойчы пайду ў свой дзівосны, казачны лес...

На адной з такіх вераснёўскіх пушчанскіх сцяжынак спынілася Міколава сэрца...

**Мікола Пракаповіч**

# «Гісторыі відавочна прысутныя»: «Дзеяслоў, № 91»

**Пражыты і пераждыты яшчэ адзін год. Па вялікім рахунку, нічым значна асаблівым для беларускай літаратуры ён не запомніўся.**

Былі лакальныя творчыя ўдачы як у старэйшых пісьменнікаў, так і ў маладзейшага пакалення. Пры гэтым было выдадзена многа кніг, зроблена шмат папяровых і электронных публікацый, ладзіліся яркія імпрэзы і запамінальныя прэзентацыі... Словам, творчае жыццё працягвалася. Найбольш адметна праявілі сябе і былі прэміяльна адзначаны такія творцы, як Зміцер Бартосік, Наста Кудасава, Андрусь Горват ды Уладзімір Някляеў... Віншуем. І не пакідаем надзеі на лепшае, як для літаратуры і саміх літаратараў, так і для роднай мовы і самой беларускай нацыі. Тым часам выйшаў апошні (91-ы) нумар «Дзеяслова» за 2017 год.

Якраз напрыканцы адышоўшага года літаратурная грамадскасць адзначыла 70-годдзе знанага паэта **Алеся Разанава.** З гэтай нагоды часопіс прапануе сваім чытачам яго новыя запісы (зномы) пад агульнай назвай «Дзверы адчыняюцца і зачыняюцца». Многія філасафемы (можна і так іх назваць) *пазнаюцца* намі з досведу папярэдняй авангардна-пошукавай творчасці паэта. Найперш — адчувальнай прагай прамовіць яшчэ не казанае самім і пакуль яшчэ не сказанае іншымі. Творца хоча дамагчыся геніяльнай прастаты ў мастацкай выяве зямных рэчаў і сутнасці самога чалавека. Хоць вельмі часта полюсы разваг паэта змушаюць яго ўраўнаважваць шалі метафізічнага і духоўнага *(«Жыццё ў самаперазыходжанні, і чалавек істотны сваімі можнасцямі»).* Аднак найбольш пэўную характарыстыку выдрукаваных зномаў можна зрабіць з такога запісу: *«Мова — тэкст, твор — кантэкст, у якім яна ўсялякі раз знаходзіць сваё адмысловае ўвасабленне. Колькі твораў — гэтулькі ўвасабленняў, колькі адмысловасцяў — гэтулькі творцаў».* Хоць найбольш уразіла і шмат што праясніла і патлумачыла гэта: *«Літаратура ёсць не таму, што яе чытаюць, а таму, што ёсць тое, што чытае яна, нават калі яе самую і не чытаюць».*

Берасцеец **Алесь Паплаўскі** друкуе аповесць «Гульні з нулявымі сумамі». Па сутнасці, перад намі (у чым напрыканцы твора і прызнаецца аўтар) дзённікавыя нататкі вандроўнага самазаглыбленага чалавека. Сюжэт развіваецца марудна (ён турыстычна-падарожны) і трошкі занудна-медытацыйны. Герой аповесці разважае над сутнасцю чалавечай духоўнасці і грахоўнасцю свайго зямнога жыцця. Што ёсць Бог і што ёсць чалавек — іх узаемасувязь і неадлучнасць і ў граху, і ў святасці. (Па-за асноўным тэкстам прасочваецца паралельны працэс будаўніцтва нацыянальных дзяржаў — Ізраіля і Беларусі.) Змест ды ідэйны пасыл душэўных сумненняў і ваганняў не прыводзяць да іх канчатковай гармоніі і годнага выхаду з таго ўнутранага катарсісу героя (самога пісьменніка). Цягам усяго твора чытачу (па замоўчванні) прапаноўваецца місія, можна сказаць, пракуратара (Понція Пілата) у сітуацыі разладу паміж героем твора і яго аўтарам.

Самалёт, на якім адлятае на Радзіму герой, церпіць катастрофу пры няўдалым прызямленні. Рукапіс трапляе да сына (тут свая маленькая драма), які і публікуе гэты, прапанаваны нам для прачытання, тэкст. Паразумення з Вышэйшай сілаю так і не адбываецца. Таемнасць зямнога і паднебнага застаецца. Пожад разгадкі прыцягвае, страх адпрэчвае... На тым і трымаецца жыццё, прынамсі, яго вечнасць.

Празаік і паэт **Уладзімер Арлоў** гэтым разам выступае з баладай «Аркады Падуі», дзе ў вершаванай форме распавядае сучаснаму чытачу *«гісторыі відавочна прысутныя».* Шуткуючы (спадзяюся, бяскрыўдна), можна сказаць, што гэтая балада У. Арлова ўбірае ў сябе ўсе балады В. Шніпа, бы акіян — рэкі, а калі сур'ёзна, то наогул усю гісторыю еўрапейскага асветніцтва. Яе (баладу) можна назваць і інтэлектуальнай, бо, дзякуючы гістарычнай эрудыцыі аўтара, тут спалучаны між сабою шмат імёнаў і фактаў пэўнага часу (а да ўсяго, многа адсылаў і фрагментарных цытат). Усё завязана на Францішку Скарыне і ўсё ад яго, як ад жыватворнай крыніцы, расцякаецца далей па тэксце... Зрэшты, не так важна, пра што канкрэтна напісана балада, бо, у дадзеным выпадку, на маю думку, галоўнае — як. А напісана яна, апроч вышэй згаданага, з такой эратычнай жарсцю, што, шчыра кажучы, заканчваючы, ты ўжо забываеш пра пачатак хмельнага захаплення ў ейны кантэкст... Галоўная выснова твора: усе мы, не зважаючы на нашу прамінуласць ці наступнасць, пражываем зямное жыццё ў адным часе — вечнасці, і ўсе мы ўзаемазалежныя... Таму нават такія разняволеныя строфы, відаць, разлічаныя на прыцягальнасць, бы той яблык на дрэве пазнання, выклікаюць гарманічную асацыяцыю старажытнага і сучаснага:

*на сцяне базілікі направа ад увахода*
*графіці з лічбамі*
*такое ты бачыў у Горадні на Каложы:*
*тут я і Нэлі саграшылі*
*пачалі 21.30 скончылі 22.15*
*відаць былі школьнікі*
*або настаўнік і вучаніца*
*або вучань і настаўніца*
*настаўніца анатоміі*
*як некалі ў цябе*
*твой сябар дзяліўся:*
*з настаўніцай займаемся 45 хвілін*
*з дацэнткай акадэмічную пáру*
*дацэнтка любіла казаць нам*
*сэкс дае адчуванне што мы жывыя*

А слова дае нам адчуванне вечнасці. Пра што, пэўна, і хацеў сказаць аўтар балады.

Урывак з рамана «Libido» **Іллі Сіна** ўяўляе сабой псіхалагічна скроены пласт жыцця пакалення, народжанага перабудовай. Той перыяд яшчэ можна назваць пластмасавым жыццём. Жанчына, што стала сексуальнай цацкай (прыладай) для задавальнення іншых, у рэшце рэшт, хоча сама знайсці для сябе адзінага Іншага. І ўвесь гэты постсавецкі вэрхал і тлум, што забірае яе дарэшты, у выніку не пакідае ёй нічога, апроч мройлівага пожаду немагчымага... Адчуваецца, што думкамі і паводзінамі жанчыны кіруе аўтар, і гэта найвярнейшы знак таго, што яе крозы пра Іншага і пра іншае не завершацца рэальнасцю. Але, каб ведаць тое пэўна, трэба прачытаць твор цалкам.

**Галіна Каржанеўская** піша свой час адпаведнымі словамі, якія намагаюцца той час засведчыць і зберагчы, хоць ясная рэч:

*Ля парога былога*
*Красамоўна, як плач,*
*Застануцца сіроты —*
*Дзівасіл ды касач.*

Заключная публікацыя ўрыўкаў з рамана **Леаніда Левановіча** «Міленіум» — гэта пераважна дзённікавыя запісы 2000 года падчас паездкі аўтара (героя рамана) да дзяцей у ЗША. Ад амерыканскага прагматычнага дабрабыту да вяртання ў беларускую сціплую, але душэўна цёплую дабрадзейнасць (радавацца чужому –любіць сваё). Чытанне на аматара. Вобраз Бравусава нечым аддалена нагадвае помнага героя Вапшчэтку з «Сачынення на вольную тэму» Анатоля Кудраўца, але не больш за тое.




Цікава было прачытаць такое: *«Знайшоў словы ў падтрымку сваёй пісаніны. Часам я лавіў сябе на думцы, што пішу коратка, суха. Дык вось, зямляк Фёдар Міхайлавіч зазначае: «Всего лучше иногда рассказчику ограничиваться простым изложением событий». А далей вось так: «К тому же всякие записи очевидцев драгоценность. Даже кто бы ни был очевидец. Не правда ли?» Так, Фёдар Міхайлавіч, праўда! Я і ёсць той самы «очевидец», які жыве на мяжы тысячагоддзяў і штодня крэмзае паперу. Можа, і недарэмна? «Бремя моих сомнений стало легче». Аднадумца ў мяне геніяльны, прызнаны ўсім светам аўтарытэт».*

Эротыка на мяжы жыцця і смерці. Прыкладна так можна вызначыць апавяданне **Давіда Шульмана** «Каця і Валодзя». Як на мяне, то менавіта падобнай чытэльнай прозы бракуе нашай сучаснай літаратуры. Аўтар жыве ў Ізраілі. Ён не саромеецца пісаць простыя, але зразумелыя рэчы: *«Я ведаю пяць моваў, але зараз мы будзем «размаўляць» яшчэ на адной, на любімай: на мове сэксу.»*

Вершы **Юркі Голуба** ярка метафарычныя, ігрыста-хмельныя, рытмічна-выбіўныя, бездакорнай рыфмай зніттаваныя. Класічны ўзор традыцыйнай паэзіі.

Адзін з найбольш таленавітых сучасных паэтаў берасцейшчыны **Алесь Каско,** на жаль, не дачакаўся публікацыі сваіх вершаў. Ён цяжка і невылечна хварэў, але яшчэ паспеў спарадкаваць і адаслаць у рэдакцыю сваю перадсмяротную паэтычную нізку, якую назваў «Напрыканцы будучыні». Цудоўны творца адышоў у лепшы свет, пакінуўшы чытачам свой адмысловы творчы плён. Спадзяюся, што ўсё створанае паэтам збярэцца, выдасца, даследуецца і ўвекавечыцца. А гэта — нам на адвітанне:

*Пасля мяне, трава, расці,*
*сцяблінка, набірайся сілы;*
*скрозь час глухі і рух бяскрылы,*
*скрозь ледзь прагрэты жвір магілы*
*пасля мяне, трава, расці.*
*Свет гэты мілы ці нямілы,*
*мне не ўсвядоміць пры жыцці;*
*для тых, каму пазней прыйсці,*
*пасля мяне, трава, расці,*
*сцяблінка, набірайся сілы!*

Геніяльныя радкі, як на маё адчуванне. Своеасаблівы духоўны запавет нашчадкам.

Прапануюцца ўвазе чытачоў тры апавяданні **Алеся Ветаха** (Бельскага), напісаныя ў дабротным старым стылі класічнай нацыянальнай прозы. Ёсць злабадзённыя сюжэты на сучасную тэму з маральна-духоўнымі высновамі. Расповеды чытэльныя, але занадта стэнаграфічныя. Прыкладна так: *«Навокал шмат таго, што бянтэжыць і пярэчыць твайму светаўяўленню. Чалавек па-ранейшаму ідзе супраць чалавечнасці, памяці, свайго сумлення, жыве так, як лічыць патрэбным. Магчыма, не варта крыўдаваць, сердаваць, гневацца, а трэба імкнуцца дараваць... Вядома, гэта цяжка, бо хочацца справядлівасці, сустракаць узаемаразуменне, падтрымку, спагаду. У жыцці не ўсё атрымоўваецца так, як нам хочацца ды жадаецца. Ды, галоўнае, усё ж верыць у лепшую будучыню. Так, як у гэта верылі нашы бацькі, дзяды і продкі. І тады прыйдзе новы дзень, пачнецца сустрэчны рух...»*

Тыя ж, хто прагне «забугорнага», маюць магчымасць пазнаёміцца з выбітнымі вершамі ірландскага паэта **Уільяма Батлера Ейтса** (нобелеўскага лаўрэата) у перакладах Андрэя Хадановіча.

Друкуюцца таксама лепшыя **пераклады пераможцаў конкурсу «Экслібрыс»:** Іааны Владыкі *(успаміны Тэрэзы Тышыньскай),* Алеся Емяльянава *(вершы Уістана Х'ю Одэна, Нормана Маккейга, Ленгстана Х'юза, Адама Загаеўскага, Юльяна Тувіма, Ганны Свіршчыньскай),* Сяргея Матыркі *(урывак з рамана «Вялікі Гэтсбі» Ф. Скота Фіцджэральда),* Надзеі Квасняк *(паэзія Юльяна Тувіма),* Яўгеніі Лабохі *(проза Гектара Х'ю Манро).*

Публікуецца даволі арыгінальная п'еса ў двух дзеях **Сяргея Кавалёва** «Камедыя Юдзіфі».

У рубрыцы «Словы» — гутарка Л. Галубовіча («Вяртаючыся да пачатку») з найстарэйшай і выдатнай нашай пісьменніцай **Аленай Васілевіч,** прыўрочаная да яе слаўнага 95-годдзя.

Побач — цікавы і арыгінальны літаратурна-гістарычны артыкул **Вячаслава Рагойшы** пра творчасць Францыска Скарыны «Людем посполитым к доброму научению».

Публікуюцца мемуары вядомага бібліёграфа **Юліі Бібіла** «...Прысвяціць сябе справе блізкай, харошай!» з пазнавальнай і цёплай прадмовай Таццяны Кекелевай і Арсеня Ліса.

Таленавіты слонімскі крытык, паэт і краязнаўца **Сяргей Чыгрын** распавядае пра жыццё і творчы лёс малавядомых да гэтай пары заходнебеларускіх паэтаў Язэпа Крыгі і Маладога Дубка (публікацыя падаецца з некаторымі вершамі згаданых аўтараў).

У артыкуле «Шлях мой самотны» літаратуразнаўца **Вольга Клімавец** звяртаецца да некаторых неразгаданых ці пакінутых па-за ўвагай крытыкаў лёсавых вобразаў беларускага пісьменніка ў рамане Уладзіслава Рубанава «Не аднойчы забіты».

Друкуецца рэцэнзія **Леаніда Галубовіча** («Пад крылом анёла-ахоўніка») на кнігу Вінцэся Мудрова «Забойца анёла».

Рубрыкай **«Дзеяпіс»** з кароткімі анатацыямі новых выданняў нумар закрываецца.

Чытайце на здароўе — і, па магчымасці, духоўна ўзбагачайцеся.

**ЛеГал**

## Будзьма з «Дзеясловам»!

*Падпісацца на часопіс «Дзеяслоў» можна ў любым паштовым аддзяленні Беларусі і спраўна атрымліваць яго шэсць разоў на год.*

*Індэкс для індывідуальных падпісчыкаў — 74813,*

*Для ведамаснай падпіскі — 748132.*

*Будзьма разам!*

# Прэмія «Коста»

**Як паведаміў сайт аргкамітэта прэміі «Costa Book Award», брытанскую паэтку, пісьменніцу і аўтара дзіцячых кніг Хелен Данмор пасмяротна ўганаравалі літаратурнай прэміяй «Коста» за лепшы паэтычны твор 2017 года.**

Узнагародай адзначылі яе зборнік вершаў «Inside the Wave», які яна напісала ў апошнія тыдні свайго жыцця. Х. Данмор, у якой дыягнаставалі анкалагічнае захворванне, памерла 5 чэрвеня мінулага года.

Лаўрэатам прэміі «Коста» за лепшы раман назвалі Йона Макгрэгора з яго кнігай «Reservoir 13». Пераможцай у катэгорыі «Лепшы дэбютны раман» стала Гейл Ханіман з творам «Eleanor Oliphant Is Completely Fine». Кніга Рэбекі Стот «In the Days of Rain» атрымала прэмію сярод біяграфічных твораў, а лепшым аўтарам дзіцячых кніг журы назвала Кэтрын Рандэл (кніга «The Explorers»).

Такім чынам, чацвёра з пяці лаўрэатаў прэміі ў катэгорыях сталі жанчыны. Лаўрэаты ў катэгорыях «Раман», «Лепшы дэбютны раман», «Біяграфія», «Дзіцячая літаратура» і «Паэзія» атрымаюць па 5 тысячаў фунтаў стэрлінгаў кожны, а ўладальніку галоўнай узнагароды — «Кніга года» — уручаць 30 тысячаў.

Галоўную ўзнагароду сярод прэмій «Коста» — за найлепшую кнігу года — прысудзяць 30 студзеня. Прэтэндэнты — усе пяцёра згаданых аўтараў, паколькі намінаваць на ўзнагароду могуць толькі пераможцаў у асобных катэгорыях. І, калі перамога дастанецца Х. Данмор, то яна стане другім у гісторыі пасмяротным лаўрэатам галоўнай прэміі пасля паэта Тэда Х'юза (1930–1998).

Літаратурную прэмію «Коста», якая да 2006 года называлася Уітбрэдаўскай прэміяй (Whitbread Book Award), штогод прысуджаюць ужо на працягу 47 гадоў — з 1971 года. Прэтэндаваць на яе могуць пісьменнікі Брытанскіх выспаў (Вялікабрытаніі і Ірландыі). Прэмію, якая прысуджаецца Асацыяцыяй кнігагандляроў Вялікабрытаніі, лічаць адной з найбольш аўтарытэтных узнагарод англамоўнай літаратуры.

# Забарона казак пра рускіх волатаў ва Украіне

**Кнігі «Илья Муромец и Соловей-разбойник: сказки о русских богатырях» і «Богатырские русские сказки» забаронены да продажу ва Украіне згодна з пастановай Нацыянальнага камітэта па тэлебачанні і радыёвяшчанні.**

Пра гэта 5 снежня паведаміла газета «Коммерсантъ».

Прычынай забароны стала тое, што абедзве кнігі выдаюцца ў Расіі. Суразмоўца газеты ва ўкраінскім урадзе падкрэсліў, што Кіеў нічога не мае супраць саміх былінных персанажаў, у тым ліку Ільі Мурамца. «Яго мошчы ляжаць у пячорах Кіева-Пячэрскай лаўры, кнігі пра яго публікуюць украінскія выдавецтвы, і няма неабходнасці ўвозіць іх з Расіі», — падкрэсліў ён.

За год ва Украіне забаранілі ўвозіць 19 расійскіх выданняў, сярод іх два творы пісьменніка Барыса Акуніна.

Парадак канфіскацыі кніг, выдадзеных у Расіі ды ўвезеных у краіну без дазволу, уступіў у сілу ў траўні. Забарона не распаўсюджваецца на выданні, якія правозяць у ручной паклажы або багажы, аднак іх колькасць не павінна перавышаць 10 асобнікаў.

# 390 гадоў Шарлю Пэро

**390 гадоў таму нарадзіўся Шарль Пэро — французскі пісьменнік, паэт, публіцыст, адвакат, акадэмік.**

У гісторыі літаратуры яго ведаюць як галоўнага ідэолага руху «новых» у «Спрэчцы аб старажытных і новых» — палеміцы Французскай акадэміі вакол мастацтва антычнасці і XVII стагоддзя. На думку «новых», мастацтва стагоддзя Людовіка нашмат перасягнула антычнае і павінна было развівацца і далей, а ўяўленню аб нязменным ідэале яны супрацьпастаўлялі ідэю паступальнага прагрэсу мастацтва.

Шарль Пэро быў «пладавітым» літаратарам, аднак усе яго тэксты неўзабаве былі



забытыя, а вось «Казкі матухны гускі, або Гісторыі і казкі былых часоў з павучаннямі», апублікаваныя ў 1697 годзе, праславілі яго на ўвесь свет і на ўсе часы.

Першапачаткова 69-гадовы акадэмік выдаў казкі пад імем свайго сына — Перо д'Арманкура, паспрабаваўшы такім чынам зберагчы сваю літаратурную рэпутацыю ад абвінавачванняў у працы з «нізкім» жанрам казкі, якой яна ў той час лічылася.

Зборнік складаўся з 8 літаратурна апрацаваных народных казак: «Папялушка», «Кот у ботах», «Чырвоны Каптурок», «Хлопчык-з-пальчык», «Падарункі феі», «Сіняя барада» і інш. Кожная з іх абавязкова ўтрымлівала мараль.

Зборнік казак меў ашаламляльны поспех і спарадзіў сярод французскай арыстакратыі XVII стагоддзя моду на казкі. Дзякуючы аўтару народная казка была ўведзена ў сістэму жанраў «высокай» літаратуры, а яго казкі палюбілі ва ўсім свеце.

# Піраты-чытачы XVIII стагоддзя

**Дэпартамент прыродных і культурных багаццяў Паўночнай Караліны паведаміў, што ў адной з гарматаў флагманскага карабля знакамітага пірата Чорная Барада «Помста каралевы Ганны» амерыканскімі навукоўцамі было выяўлена 16 фрагментаў кніг, якія чыталі піраты XVIII стагоддзя.**



У 1717 годзе пірат Эдвард Драмонд (Ціч) па мянушцы «Чорная Барада» захапіў французскі карабель «Канкорд», зрабіў сваім флагманам, пераназваўшы яго ў «Помста каралевы Ганны». У чэрвені 1718 года карабель сеў на мель ля берагоў Паўночнай Караліны.

У 1996 годзе карабель быў знойдзены, і з тых часоў даследчыкі паступова ўздымалі з дна часткі шалёкі, такелажа ды іншыя фрагменты. Навукоўцы знайшлі ў паднятай са дна мора гармаце вільготны камяк паперы. Самы буйны з іх дасягаў памеру ў чвэрць друкарскага аркуша (каля 24,15×30,5 см). Звычайна папера вельмі хутка раскладаецца пад вадой, але ў гэтым выпадку яна захавалася!

Было зроблена яшчэ адно адкрыццё: на некаторых фрагментах паперы ўсё яшчэ быў друкаваны тэкст, хоць прачытвалася толькі некалькі слоў. Затым задача заключалася не толькі ў тым, каб захаваць папяровыя фрагменты, але і вызначыць, адкуль яны.

У выніку доўгіх месяцаў карпатлівай працы даследчыкам удалося высветліць, што знойдзеныя артэфакты ўяўляюць фрагменты першага выдання кнігі Эдварда Кука «Падарожжа да Паўднёвага мора і вакол Зямлі, здзейсненае ў 1708, 1709, 1710 і 1711 гадах». У ёй аўтар апісвае плаванне двух караблёў — «Герцага» і «Герцагіні» — пад агульным камандаваннем капітана Вудса Роджэрса, які таксама апублікаваў рэпартаж пра сваё падарожжа.

Кнігі пра падарожжы былі надзвычай папулярныя ў XVII–XVIII стагоддзях. У кнігах Роджэрса і Кука апісана выратаванне з бязлюднага вострава марака Аляксандра Селькірка, які пражыў 4 гады на незаселенай выспе і стаў прататыпам Рабінзона Круза, кнігу пра якога Даніэль Дэфо апублікаваў у 1719 годзе.

У гістарычных архівах ёсць некалькі спасылак на кнігі на борце караблёў у флоце Чорнай Барады, але няма ніякіх канкрэтных назваў, і гэтая ўнікальная знаходка з'яўляецца першым археалагічным сведчаннем іх прысутнасці.

Аднак ці чытаў сам Чорная Барада гэтую кнігу насамрэч — сказаць немагчыма...

# Фінансава найпаспяховыя літаратары

**Сёння аўтары атрымліваюць грошы за сцэнарыі фільмаў, а продажы кніг звычайна складаюць толькі невялікую частку іх даходаў. Аднак сайт Інфаграфіка Visualistan сабраў інфармацыю пра некаторых найбольш фінансава паспяховых літаратараў — згодна з іх агульным «слоўным» даходам за год.**

Уаснове падлікаў — колькі каштавала адно слова аўтара. Дадзеныя пра самых высокааплатных пісьменнікаў са спісу «Forbes» лічылі ў наступных «катэгорыях»: чысты прыбытак аўтара, заробак пісьменніка за год, наклад прададзеных кніг, апублікаваных у мінулым годзе, колькасць слоў у іх і прыкладны кошт кожнага слова.

Атрымаліся неверагодныя лічбы! Можна ўявіць сабе зароблены сотні даляраў за кожнае напісанае слова? Хоць свет ужо жыве не так, як у часы Дзікенса і Льва Талстога, усё яшчэ даволі цікава думаць, што кожны раз, калі клавіятура набірае новую камбінацыю літар, Стывен Кінг атрымлівае 67,20 даляраў ЗША ($).

На першым месцы — Дж.К. Роўлінг. Кошт аднаго яе слова ў 2017 годзе склаў 957,66 даляраў ЗША. Усяго зароблена $650 мільёнаў. Зароблена ў 2017-м — $95 мільёнаў. Агульны наклад кніг — 400 мільёнаў асобнікаў.

Другое месца займае Джэймс Патэрсон. Кошт аднаго яго слова ў 2017 годзе — $278,41. Усяго зароблена $700 мільёнаў (у 2017-м — $87 мільёнаў). Агульны наклад кніг — 300 мільёнаў асобнікаў. У 2017 годзе напісана: 312 480 слоў...

«Бронза» — у Джэфа Кіні. Кошт аднаго яго слова ў 2017 годзе быў $302,42. Усяго зароблена $70 мільёнаў. У 2017-м — $21 мільён. Агульны наклад кніг — 194 мільёнаў асобнікаў. (У 2017 годзе ім напісана 69 440 слоў.)

Дэн Браўн — на чацвёртым месцы. Кошт яго аднаго слова ў 2017 годзе — $144,93. Усяго ім зароблена $178 мільёнаў (у 2017-м — $20 мільёнаў). Агульны наклад кніг — 200 мільёнаў асобнікаў.

Пятае месца па фінансавай паспяховасці — у Стывена Кінга. Кошт яго аднаго слова ў 2017 годзе — $67,2. Усяго ж ім зароблена літаратурнай працай $400 мільёнаў... (У 2017-м– $15 мільёнаў.)

Джон Грышэм — на шостым месцы. Кошт аднаго яго слова ў 2017 годзе быў таксама $67,2. Усяго ён атрымаў $220 мільёнаў.

На сёмым месцы Нара Робертс (кошт аднаго слова ў 2017 годзе — $35,28). Усяго ж зароблена $340 мільёнаў. У 2017 годзе — $14 мільёнаў. Агульны наклад кніг — 400 мільёнаў асобнікаў. Усіх выдадзеных кніг — 213. У 2017 годзе напісана 396 800 слоў...

Пола Хокінс — восьмая. Кошт аднаго слова ў 2017 годзе — $119,13. Зароблена ў 2017 годзе $13 мільёнаў.

На дзявятым месцы — Э.Л. Джэймс. Кошт аднаго слова ў 2017 годзе — $66,24. Усяго зароблена $ 60 мільёнаў. У 2017-м — $11,5 мільёна. Агульны наклад кніг 125 млн асобнікаў.

Завяршае «дзясятку» найзаможных літаратараў Рык Рыярдан. Кошт аднаго яго слова — $33,60. Усяго ён зарабіў $35 мільёнаў (з іх у 2017-м — $11 мільёнаў)...

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by


Фота www.ru.espreso.tv

**У палітыкуме няма запыту на кампраміс, які сапраўды спрабавалі шукаць заснавальнікі УНР. Затое існуе запыт на радыкальныя ўчынкі. Таму сёння на самым версе пантэона ўкраінскіх нацыяналістаў знаходзяцца лідары АУН і УПА, якія ў жыцці былі больш бескампрамісныя і рашучыя. Таму сур'ёзны аналіз феномену УНР і Універсалу пра незалежнасць яшчэ наперадзе**

# Дзень Волі па-ўкраінску

Алег НОВІКАЎ

**Ва Украіне 22 студзеня адзначылі гадавіну Універсалу пра незалежнасць, які сто гадоў таму абвясціла Украінская Народная Рэспубліка.**

Аднак назваць маштабнымі цяперашнія афіцыйныя мерапрыемствы з нагоды гадавіны абвяшчэння незалежнасці Украіны вельмі цяжка.

Галоўнай пляцоўкай адзначэння гадавіны сталі музеі, дзе адбыліся тэматычныя выставы. Адну з іх, што знаходзіцца на тэрыторыі ВДНГ, 22 студзеня наведаў украінскі прэзідэнт і першая лэдзі. Акрамя таго, на месцах прайшлі сходы грамадскасці і мітынгі. Напэўна, самым вялікім атракцыёнам стаў бранявік з надпісам «Пятлюра», які рэстаўратары прыгналі ў цэнтр сталіцы. Прэса таксама адзначыла акцыю на Крышчаціку, дзе ўздоўж вуліцы разгарнулі сцяг-рэкардсмен (1 кіламетр 59 метраў і 95 сантыметраў).

Апісаныя святкаванні — не фармалізм, аднак наўрад ці яны могуць параўнацца па маштабу з тым жа Днём незалежнасці або з ушанаваннем герояў «Нябеснай сотні». Дарэчы, 22 студзеня адзначалася яшчэ адно важнае свята ва ўкраінскай гісторыі — дзень саборнасці Украіны. У той дзень у 1919 годзе быў падпісаны Акт уз'яднання Украінскай Народнай Рэспублікі (УНР) і Заходне-Украінскай Народнай Рэспублікі (ЗУНР) у адзіную ўкраінскую дзяржаву.

Сціпласць святкавання 22 студзеня можна часткова патлумачыць тым, што УНР, як ні круці, — гэта частка даўняй гісторыі, якая, у адрозненне ад тэмы Галадамору або Другой сусветнай вайны, мала чапляе людзей асабіста.

Да таго ж, сярод часткі нацыяналістаў характэрнае асцярожнае стаўленне да УНР, лідары якой актыўна фліртавалі з Леніным, Дзянікіным і палякамі. Частка бацькоў-заснавальнікаў УНР лічыла, што незалежнасць украінцам падсоўваюць немцы. Дастаткова ўзгадаць лёс прэзідэнта УНР Міхаіла Грушэўскага, які пасля Грамадзянскай вайны пакаяўся перад Саветамі, вярнуўся ў


Фота www.unian.net

СССР, дзе памёр у стане паважанага акадэміка АН УССР.

Важны нюанс і ў тым, што цяпер Украіна ў крызісе і ў становішчы вайсковай канфрантацыі, калі патрэбныя прыклады перамогі, а спроба атрымання незалежнасці сто гадоў таму скончылася катастрофай. З іншага боку, тая трагедыя дала нагоду цяперашнім палітыкам праводзіць паралелі паміж сваімі канкурэнтамі і лідарамі УНР, якія правалілі праект украінскай дзяржаўнасці.

Так, Пётр Парашэнка, які ўвесь час сварыцца з апазіцыяй, падкрэсліў: «Галоўнае, што не дало тады з'явіцца украінскай незалежнай дзяржаве — недахоп унутранага адзінства, палітычныя спрэчкі, анархія». «Парахаботы» (так называюць аматараў украінскага прэзідэнта) хутка расшыфравалі пасланне кіраўніка дзяржавы. «Сто гадоў таму ў іх (апазіцыянераў) ужо былі прататыпы. Грушэўскі, Вінічэнка, Пятлюра, Скарападскі — усе яны, па-свойму, мілыя людзі. Але ў гісторыю яны ўвайшлі як мудакі, што страцілі краіну. Вось пра што трэба памятаць у гэты святочны дзень Юлі, Мішу і іх фанатам», — піша праўладнае выданне «Обозреватель».

У сваю чаргу, апазіцыя кажа, што менавіта Парашэнка вядзе Украіну па шляху УНР, паставіўшы асабістыя інтарэсы вышэй за дзяржаўныя. Першым доказам фігуруе скандальны калядны адпачынак прэзідэнта на Мальдывах, які каштаваў каля паўмільёна долараў. На думку шмат каго, з маральнага пункту гледжання так раскошна адпачываць прэзідэнту «ваюючай краіны» — амаральна, а для вярхоўнага галоўнакамандуючага — напросту злачынна. Курортныя гулянкі нагадваюць прыгоды міністраў УНР, якія дзеля грошай выкрадалі банкіраў. Менавіта праз гэта, дарэчы, немцы і ліквідавалі УНР у красавіку 1918-га.

У каментары «Новаму Часу» кіеўскі палітолаг **Юрый Палянін** кажа, што юбілей апынуўся закладнікам часу.

«У палітыкуме няма запыту на кампраміс, які сапраўды спрабавалі шукаць заснавальнікі УНР. Затое існуе запыт на радыкальныя ўчынкі. Таму сёння на самым версе пантэона ўкраінскіх нацыяналістаў знаходзяцца лідары АУН і УПА, якія ў жыцці былі больш бескампрамісныя і рашучыя. Між тым, напрыклад, антысавецкіх дысідэнтаў досвед УНР, якая пазіцыянавала сябе як дэмакратычная сацыяльная дзяржава, матываваў больш, чым правы радыкалізм АУН-УПА. Таму сур'ёзны аналіз феномену УНР і Універсалу пра незалежнасць яшчэ наперадзе», — лічыць палітолаг.

Застаецца дадаць, што пра УНР мы пачуем у гэтым годзе яшчэ не раз. Наступная будная дата — сотая гадавіна бою пад Крутамі. Гэта станцыя на Чарнігаўшчыне, дзе сто гадоў таму — 29 студзеня 1918 года — купка кіеўскіх гімназістаў спрабавала спыніць наступ чырвоных. Увогуле, планавалася да юбілею зрабіць фільм, аднак не паспелі. Папярэдняя прэм'ера прызначаная на 14 кастрычніка — Дзень абаронца Украіны.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Ці будзе ў Беларусі беларуская вясна такой, як была ўкраінская восень і зіма 2014 года, — гэта пытанне часу, але водар гэтай вясны там ужо адчуваецца — гэта факт. Бо інакш не з'явілася б гэтая ініцыятыва пра перанос пляцоўкі «Мінскіх перамоваў» у іншае месца.

**NewsOne (Украіна)**

Нервовая рэакцыя расійскай улады на беларускія нововвядзенні ў галіне візавай палітыкі пацвярджае, што Масква не разглядае Беларусь як самастойнага гульца на міжнароднай арэне, у якога можа быць пазіцыя, адрозная ад расійскай. Логіка Масквы такая: унутраная палітыка Лукашэнкі ў прынцыпе можа быць якой заўгодна, але калі гаворка заходзіць пра знешнюю — тут ужо, калі ласка, ніякіх рэзкіх рухаў.

**«Новое время» (Украіна)**

У Беларусі ёсць толькі адна вядомая палітычная фігура — Лукашэнка. Пры гэтым стаўленне да яго ў большасці насельніцтва таксама максімальна нейтральнае. За свае 25 гадоў прэзідэнцтва «бацька», у адрозненне ад Пуціна, не паспеў адзначыцца выбітнымі подзвігамі, гэтак жа, як і выбітнымі злачынствамі, якія маглі б раскалоць грамадскую думку. Таму лютых фанатаў і лютых ненавіснікаў кіраўніка дзяржавы ў грамадстве вельмі мала.

**«Новые Известия» (Расія)**

Калі бакі грамадзянскага канфлікту ва Украіне (з аднаго боку — Кіеў, а ЛНР і ДНР — з другога) са згоды галоўных палітычных гарантаў працэсу — Расіі, Германіі, Францыі і, неафіцыйна, натуральна, ЗША — прымуць рашэнне пра перанос перамоўнай пляцоўкі з Мінска ў Астану і пра ператварэнне, такім чынам, «Мінска–2» у «Астану–1», гэта будзе казаць шмат пра што. У тым ліку пра тое, што Беларусь імкліва губляе статус галоўнага саюзніка Расіі.

**«Forbes» (Казахстан)**

Эксперты мяркуюць, што галоўная перашкода для трансфармацыі «Белай Русі» ў партыю — нежаданне Аляксандра Лукашэнкі дзяліцца ўладай. Фактычна, «Белая Русь» ужо стала партыяй улады — сяброўства ў аб'яднанні з'яўляецца мерай лаяльнасці і адданасці ўладзе гэтак жа, як некалі гэта было ў КПСС. З'яўленне партыйнага статусу адразу надасць палітычную афарбоўку ўсім дзеянням «Белай Русі». Больш за тое, у партыі могуць з'явіцца свае партыйныя лідары, а ў іх — свае палітычныя амбіцыі. Калі ж надаць ёй статус партыі ўлады, то тут кіраўніку краіны адназначна прыйдзецца на яе азірацца. Аднак такі стыль праўлення непрымальны для Лукашэнкі, які прызвычаіўся панаваць аднаасобна.

**«Независимая газета» (Расія)**

У канцы мінулага года беларускі кіраўнік Аляксандр Лукашэнка падпісаў дэкрэт, якім, у прыватнасці, легалізуецца крыптавалюты і смарт-кантракты. Дакументам здымаюцца абмежаванні і патрабаванні да аперацый па стварэнні, размяшчэнні, захаванні, адчужэнні, абмене крыптавалют, а таксама дзейнасці крыптавалютных біржаў і крыптаплатформ. Аднак самае дзіўнае — тое, што адбываецца цяпер у Беларусі, павінна было ўвасабляцца ў жыццё ва Украіне. Тыя людзі, якія хацелі ўкараняць гэта ва Украіне — гэта рэальна быў украінскі праект — укаранілі яго ў Беларусі. Была каманда людзей, якія распрацоўвалі ўсё гэта ідэалагічна.

**«Экономические Известия» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТУРКМЕНІСТАН. Кожны год — новы партрэт

У Туркменістане ва ўсіх дзяржаўных установах праходзіць штогадовае абнаўленне партрэтаў кіраўніка краіны. Такая практыка існуе ледзь не з першых гадоў незалежнасці, і звычайна гэта праходзіць пад новым лозунгам. У гэтым годзе лозунгам стала назва адной з апошніх кніг правадыра туркменаў Гурбангулы Бердымухамедава «Туркменістан — сэрца вялікага шаўковага шляху». Асноўная частка выдаткаў на абнаўленне партрэтаў кіраўніка дзяржавы пакрываецца за кошт выкладчыкаў, медработнікаў і ды іншых шараговых работнікаў дзяржустаноў. Натуральна, вялікага захаплення змена партрэтаў не выклікае. Дадатковы фактар незадавальнення — партрэты прымушаюць абнаўляць на фоне самага вялікага ў гісторыі краіны эканамічнага крызісу. Праўда, некаторыя кажуць, што абнаўленне партрэтаў Бердымухамедава — гэта хоць нейкі імпульс для эканомікі. Штогадовая кампанія з партрэтамі даўно стала прыбытковым мерапрыемствам для друкарскага бізнесу, які таксама пакутуе на дэфіцыт замоваў.

**Паводле туркменскай прэсы**

### ФРГ. Кожны немец павінен наведаць канцлагер

Маштабную палеміку выклікала ў Германіі прапанова берлінскіх эсдэкаў абавязаць кожнага немца наведаць канцлагеры часоў Гітлера, якія цяпер ператвораныя ў мемарыялы. Візіты ў канцлагер, быццам, дапамогуць спыніць рост ксенафобскіх і антысеміцкіх настрояў у нямецкім грамадстве. Акрамя таго лічыцца, што экскурсіі ў Дахау або Саксенхаўз пазітыўна паўплываюць на прадстаўнікоў апошняй хвалі мусульманскай іміграцыі. Прапануецца, што на першым этапе абавязковыя візіты ў канцлагеры будуць для вучняў. Большасці каментатараў ідэя не спадабалася. Яны лічаць, што прымусовае патрабаванне наведаць канцлагер будзе выклікаць у дзяцей адмоўную рэакцыю. Супраць выступілі нават посткамуністы з партыі «Левыя», чый імідж шмат у чым базуецца на эксплуатацыі спадчыны антыгітлераўскага супраціву. Па словах спікера «Левых», практыка абавязковага наведвання вучнямі мемарыялаў ахвяраў нацызму дзейнічала ў Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы, аднак эфект ад прымусовай педагогікі быў вельмі нізкі.

**Паводле нямецкай прэсы**

### РАСІЯ. Кранаўшчыцу ў прэзідэнты

У Расіі працягваецца прэзідэнцкая кампанія. Нечакана для ўсіх шмат увагі выклікала фігура Наталлі Лісіцынай — кандыдаткі ад левай партыі «Расійскі аб'яднаны працоўны фронт». Інтарэс да Лісіцынай выкліканы перш за ўсё яе сацыяльным статусам. Будучы простай кранаўшчыцай, яна адзіная сярод кандыдатаў, хто прадстаўляе на выбарах клас працоўных. Акрамя таго Лісіцына (нарадзілася ў 1952 годзе) надае перавагу забабонам сваёй савецкай маладосці — носіць строі, якія былі папулярныя ў 1970-я гады, што выклікае пэўны культурны шок. Што тычыцца шанцаў Лісіцынай на выбарах, то наконт гэтага адбываюцца спрэчкі. З аднаго боку, сабраць патрэбныя сто тысяч подпісаў для рэгістрацыі ў якасці кандыдата ў прэзідэнты яе прыхільнікам тэхнічна будзе дастаткова цяжка. З іншага боку, канчатковы спіс праціўнікаў Пуціна будуць фармаваць у Крамлі, дзе занепакоеныя пагрозай нізкай яўкі. Каб надаць выбарам нейкую ілюзію канкурэнцыі і падвысіць інтарэс да іх, нельга выключаць і рэгістрацыю экзатычнай Лісіцынай.

**Паводле расійскай прэсы**

### КІТАЙ. Інфармацыйна-паліцэйская дзяржава?

Брытанская прэса мяркуе, што кітайскія ўлады пачалі беспрэцэдэнтны эксперымент па стварэнні першых выспаў новай мадэлі паліцэйскай дзяржавы, дзе асноўная функцыя кантролю належыць інфармацыйным тэхналогіям. У якасці палігону абраны Сіньцзян-Уйгурскі аўтаномны раён на захадзе краіны. Тут жывуць мусульмане — уйгуры, шмат хто з іх нелаяльны да Пекіну. Для кантролю над мясцовымі ў гарадах раёну пачалі ўсталёўваць камеры, якія скануюць твары мінакоў і падаюць сігнал трывогі, калі нехта з іх адыходзіць ад месца жыхарства або працы далей за 300 метраў. Акрамя таго, адбываюцца збор біяметрычных дадзеных жыхароў, рэгістрацыя іх смартфонаў, аналіз голасу. Да таго ж уводзіцца абавязковая спадарожнікавая сістэма сачэння за ўсімі транспартнымі сродкамі. Па словах уладаў, такая сістэма кантролю дазваляе купіраваць дзейнасць патэнцыйных тэрарыстаў і не парушаць нармальнага жыцця грамадства. Што тычыцца праваабаронцаў, дык яны прытрымліваюцца іншай думкі. «Яны (кітайскія ўлады) сумяшчаюць усе гэтыя рэчы, каб стварыць паліцэйскую дзяржаву», — кажа адзін з супрацоўнікаў кітайскай секцыі «Amnesty International».

**Паводле брытанскай прэсы**




Фота www.life.ru

# Чэшская рулетка

Алег НОВІКАЎ

**Адна з галоўных міжнародных падзеяў тыдня — другі раўнд прэзідэнцкіх выбараў у Чэхіі. У фінал трапілі цяперашні гарант Мілаш Земан і незалежны кандыдат, акадэмік Іржы Драгаш. Пра тое, чаму надаюць такую ўвагу дуэлі Земан — Драгаш, у інтэрв'ю «Новаму Часу» тлумачыць беларускі палітэмігрант у Чэхіі Юрый Стэфанішын.**

***— Ажыятаж вакол выбараў прэзідэнта Чэхіі 26–27 студзеня вельмі дзіўны, калі ўзгадаць, што Чэхія — парламенцка-прэзідэнцкая рэспубліка. Якая розніца, хто ў выніку будзе гаспадаром Пражскага града — рэзідэнцыі чэшскіх прэзідэнтаў?***

— На самай справе, паўнамоцтвы чэшскага прэзідэнта апошнім часам былі пашыраныя. Аднак у нашым выпадку галоўная стаўка выбараў — прэстыж краіны. Шматлікім чэхам не падабаецца, што іх краіну ў свеце прадстаўляе чалавек, які нападпітку ўдзельнічае ў афіцыйных мерапрыемствах, прапаноўвае Украіне прадаць Крым, крытыкуе іслам як рэлігію і гэтак далей. Людзі задаюць пытанне: ці не пагражае Чэхіі лёс Расіі пры познім Ельцыне, які дазваляў сабе падобныя фокусы?

***— Хіба такі вобраз не блізкі да архетыпу чэшскага абывацеля? Можна, напрыклад, узгадаць славутага Швейка...***

— Твор Гашака — гэта сатыра. Хаця, сапраўды, супрацьстаянне Земана і Драгаша — гэта таксама барацьба двух чэшскіх светапоглядаў. Пра тое добра сведчыць электаральная геаграфія. У Празе Земана падтрымала толькі 10 працэнтаў выбаршчыкаў. Яго электаральная база — родная Маравія плюс дэпрэсіўная Поўнач, куды пасля дэпартацыі судэцкіх немцаў масава сялілі маргіналаў. Такая каланізацыя стварыла і адпаведную палітычную культуру. Натуральна, мясцовым блізкая фігура «алкаголіка» Земана. У сваю чаргу, сярод аматараў Драгаша папулярная постаць Вацлава Гавела — выхадца з сярэдняга класу, адказнага палітыка з еўрапейскімі поглядамі.

***— Земан, па сутнасці, ідзе на выбары ў негалоснай кааліцыі з прэм'ерам-папулістам, алігархам Андрэем Бабічам, чыя партыя перамагла на парламенцкіх выбарах. Ці не гарантуе падобны блок цяперашняму прэзідэнту пераабранне?***

— Для Бабіча важная падтрымка Земана. Менавіта дзякуючы Земану яго партыя, не маючы большасці ў парламенце, можа кіраваць краінай. Заставацца пры ўладзе для Бабіча вельмі важна, паколькі апазіцыя патрабуе судзіць яго за карупцыю. Цяжка сказаць, наколькі фактар Бабіча дапаможа Земану. Хіба што за кандыдатуру цяперашняга прэзідэнта будуць галасаваць усе чыноўнікі. У Чэхіі пасада чыноўніка — гэта сінекура, таму прадстаўнікі гэтай групы грамадства не зацікаўленыя ў переменах, якія непазбежныя ў выпадку правалу Земана. Прагназуюць, што перамога Іржы Драгаша, хутчэй за ўсё, справакуе роспуск цяперашняга парламента і новыя выбары.

**Супрацьстаянне Земана і Драгаша — гэта барацьба двух чэшскіх светапоглядаў. У Празе Земана падтрымала толькі 10% выбаршчыкаў. Яго электаральная база — Маравія плюс дэпрэсіўная Поўнач**

***— Паводле розных індыкатараў эканоміка Чэхіі выглядае як ніколі добра. Беспрацоўе на рэкордна нізкім узроўні (3,8 працэнта). Сярэдні заробак перайшоў планку ў 1300 еўра. Ці ёсць сэнс чэхам «расхістваць лодку»?***

— Расповеды пра эканамічна квітнеючую Чэхію трошкі перабольшаныя. Звычайна больш за тысячу еўра сярэднюю чэху зарабіць вельмі цяжка. Акрамя таго, апошнім часам ідзе фіскальны наступ на малы бізнес. Чэхія на вачах губляе імідж краіны, дзе кожны мог практычна з нуля пачаць сваю справу. Перспектыва таго, што ўрад будзе кантраляваць алігарх, які, натуральна, зацікаўлены ў пашырэнні сваёй бізнес-імперыі, палохае прадпрымальнікаў.

***— Ці прысутнічае ў выбарчых баталіях тэма постсавецкіх краінаў?***

— Практычна не. Нават пытанне ўкраінскай працоўнай міграцыі нікога не турбуе. Хіба што час ад часу ўсплывае тэма расійскага ўплыву на выбары. Некаторыя аналітыкі лічаць, што расіяне актыўна набываюць і падкупляюць СМІ, каб на іх старонках рэкламаваць Земана.

***— Хаця Драгаш і выглядае больш ліберальна, яго цяжка назваць стопрацэнтным праеўрапейскім палітыкам. Ён асцярожна, але крытыкаваў міграцыйную палітыку ЕС, выказваў сімпатыі на адрас каталонскіх сепаратыстаў. Ці няма пагрозы, што ў выпадку перамогі Драгаш трансфармуецца ў больш папулісцкага палітыка?***

— Магчыма, нешта падобнае Драгаш і казаў, аднак гэта штосьці ўскоснае і перыферыйнае. Яго асноўная пазіцыя — паслядоўная інтэграцыя Чэхіі з Еўропай. Пра антыпапулізм незалежнага кандыдата сведчыць і нежаданне ствараць пад сябе асабістую палітычную партыю. Хутчэй, Іржы Драгаш арыентуецца на тое, каб стаць другім Гавелам.

***— Як будзе галасаваць беларуская грамада ў Чэхіі?***

— Пра агульную думку беларускіх чэхаў казаць цяжка. Шмат хто з іх, будучы палітычнымі ўцекачамі, не мае права галасаваць. Аднак увогуле абсалютная большасць выказваецца ў падтрымку Драгаша. Супраць Земана вельмі жорстка выступае «Партыя піратаў», дзе актыўна працуе беларускі імігрант Андрэй Рамашэўскі. Аднак, натуральна, усё будуць вырашаць самі чэхі. І, на жаль, дасюль няма дакладнага адказу на пытанне, ці прыйдзе электарат Драгаша на выбары. Так ці інакш, пакуль расклад — 50 на 50.

# Такое ўсё зялёнае…

Алег НОВІКАЎ

**У Берліне праходзіць чарговая выстава «Grüne Woche» («Зялёны тыдзень»), якая ў апошні час ператварылася ў адну з візітовак Германіі.**






Фота www.presseportal.de

Слова «Германія», як правіла, выклікае асацыяцыю з моцнай індустрыяй. Між тым, у нашы дні гэты імідж становіцца архаізмам. Германію ўсё часцей пачынаюць успрымаць як лідара тэхналогій будучыні, звязаных з экалогіяй. Адна з адзнак пераменаў — выстава «Зялёны тыдзень» .

Яшчэ напрыканцы XIX стагоддзя ўзімку нямецкія фермеры ў Берліне пачалі ладзіць штогадовыя сустрэчы. Іх удзельнікаў пазнавалі па зялёных паліто, што былі папулярныя сярод фермераў. Пакуль аграрыі вырашалі свае пытанні, на суседніх вуліцах разгортваўся спецыялізаваны гандаль — кірмаш коней або розных хатніх жывёл, трафеяў паляўнічых, пасяўнога матэрыялу і гэтак далей. У выніку частка горада ператваралася ў нейкую зялёную выспу, што вельмі падабалася берлінцам.

Пры гэтым «дзікі гандаль» паступова набываў усё большыя памеры і разнастайныя формы. Нават пачалі праводзіцца невялікія паляўнічыя шоу. У адным квартале змясціць усё гэта было немагчыма. Таму пункты правядзення «Зялёнага тыдня» адчыняліся ў розных кропках сталіцы.

Анархія скончылася ў 1926 годзе, калі ў берлінскай мэрыі прапанавалі сабраць усе выставы на адным месцы — плошчы Kaiserdamm, што знаходзіцца ў заходнім Берліне. Эфект пераўзышоў усе чаканні. За тыдзень выставу наведалі каля 50 тысяч чалавек. Некаторыя лічбы першага «Зялёнага тыдня» дасюль уражваюць — на яго прывезлі 45 тысяч коней, 23 тысячы свіней, больш за мільён птушак…

Поспеху новага фармату «Зялёнага тыдня» спрыяла і тое, што ў тыя часы ў сельскай гаспадарцы распачалася тэхнічная рэвалюцыя. Лепшыя дасягненні ў гэтай галіне абавязкова дэманстраваліся на выставе. У тым жа 1926 годзе на выставе сапраўдны фурор выклікаў адзін з першых трактароў. Часам, праўда, на экспазіцыю траплялі і вельмі незвычайныя тэхнічныя вынаходніцтвы. Напрыклад, у 1928-м наведвальнікі маглі пабачыць машыну, якая, быццам, магла не горш за сабаку ісці па следу.

У часы нацызму «Зялёны тыдзень» захаваў свой высокі статус — у тым ліку таму, што шматлікія бонзы Трэцяга рэйху былі заўзятымі паляўнічымі. У гэты ж час, у 1938-м, адбыўся форс-мажор: нямецкіх сабак ахапіла эпідэмія — і выставу давялося адмяніць. А ўжо праз два гады мерапрыемства скасавалі, бо пачалася вайна, падчас якой уся сельская гаспадарка, па сутнасці, была падпарадкаваная дзяржаве.

Адрадзілі выставу толькі ў 1948-м. Першыя пасляваенныя «Зялёныя тыдні» выглядалі як прадукты на даваенныя. На першай пасля адраджэння выставе сваю прадукцыю дэманстравалі толькі 59 вытворцаў. Тым не менш, публіку, якая пакутавала на дэфіцыт прадуктаў, выстава зацікавіла. Арганізатары, якія баяліся, што наведвальнікі пачнуць банальна красці з экспазіцый, вырашылі замяніць некаторыя экспанаты (напрыклад, мяса) выявамі з кардону.

Па ходзе эканамічнай стабілізацыі «Зялёны тыдзень» пачаў больш-менш нагадваць даваенныя часы. Пры гэтым ва ўмовах расколу Германіі мерапрыемства атрымала вялікае сімвалічнае значэнне. З 1961-га ў павільёнах, якія знаходзіліся ў Заходнім Берліне, была прадстаўленая і прадукцыя з Усходняй Германіі. Вялікі штуршок для развіцця выставы дала мода на лакальныя прадукты, якая пачалася на Захадзе ў 1970-я гады. Нават не вельмі заможныя мясцовыя вытворцы, дзякуючы мерапрыемству, атрымалі магчымасць выходзіць на вялікі рынак. У той жа час у межах выставы ўзнікла і адукацыйная платформа. На сёння падчас кожнага «Зялёнага тыдня» праходзіць больш за 250 лекцый або практычных заняткаў. Пры выставе дзейнічае спецыяльны цэнтр для студэнтаў-аграрыяў.

Натуральна, новы этап у гісторыі «Зялёнага тыдня» пачаўся пасля аб'яднання Германіі. Па-сутнасці «Зялёны тыдзень» становіцца вялікай пляцоўкай для аграрыяў усёй Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Праз большую колькасць удзельнікаў плошчу кірмашу напрыканцы 1990-х гадоў давялося пашырыць да 160 тысяч квадратных метраў. Сама выстава перастала быць эпізадычнай з'явай. Яе ўдзельнікі падтрымліваюць сталыя кантакты і нават стварылі сваю валюту — «зялёныя грошы».

Нельга сказаць, што «Зялёны тыдзень» выклікае ў грамадстве выключна эйфарыю. Штогод каля ўваходу ў павільёны можна пабачыць пікеты пратэсту. Часцей за ўсё пратэстуюць супраць птушкафабрык, генных раслінаў, эксплуатацыі жывёлаў.

Між тым, змена клімату і рост генных тэхналогій надаюць «Зялёнаму тыдню» вымярэнне еўрапейскай лабараторыі хуткай прадуктовай рэвалюцыі. Тут прадстаўляюць самыя незвычайныя прадукты. На цяперашняй выставе можна паспрабаваць катлеты з чарвякоў — лічынак мучнога жука. Вытворцы сцвярджаюць, што ў мучных чарвяках больш бялку, чым у мясе, ёсць і іншыя карысныя рэчывы. Пры гэтым іх развядзенне не шкодзіць экалогіі так, як традыцыйная сельская гаспадарка. Мучным чарвякам трэба менш корму і вады, і яны вылучаюць мала вуглякіслага газу.

Цяжка сказаць, ці трапяць тыя чарвякі ў наш рацыён. Аднак кулінарныя навацыі, гледзячы на экспазіцыі на «Зялёным тыдні», яўна непазбежныя.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Саўлюс Сквярняліс



Прэм'ер-міністр Літвы і лідар партыі «Саюз сялян і зялёных Літвы» трапіў у кур'ёзную сітуацыю, якая можа паўплываць на яго кар'еру.

З новага года ў Літве набыў моц закон пра абмежаванне спажывання алкаголю, які ў тым ліку забараняе рэкламу моцных напояў у медыя. Аднак распрацоўшчыкі закона, які лабіяваў кабінет Сквярняліса, забыліся пра адзін сектар — замежныя выданні, якія прадаюцца ў Літве і могуць рэкламаваць алкаголь.

Гэта мела камічныя наступствы. Уладальнікі кіёскаў і газетных кропак, каб не трапіць пад новы закон, пачалі замалёўваць старонкі з выявай алкагольнай рэкламы. Яшчэ далей пайшлі ў паштовых службах дастаўкі, дзе старонкі з крамольнымі выявамі ў замежных часопісах проста вырываюць. Такая рэакцыя на закон адразу выклікала скандал.

Каб выратаваць рэнамэ, прэм'ер прапанаваў прыняць папраўкі ў закон, які дазваляе не вырываць старонкі з замежных часопісаў. Аднак для гэтага трэба адпаведная пастанова Сейма, які ўжо сышоў у адпачынак да сакавіка.

Застаецца пачакаць, каб даведацца, як адаб'ецца гэтая кур'ёзная гісторыя на прэзідэнцкіх амбіцыях прэм'ера. Цяпер Саўлюс Сквярняліс з 11 працэнтамі падтрымкі ідзе на другім месцы ў конкурсе кандыдатаў на пасаду гаранта. Выбары прэзідэнта Літвы адбудуцца ў маі 2019 года.

### Карын Кнэйсль



Калі верыць нямецкай прэсе, ведамства міністра замежных спраў па квоце правапапулісцкай «Партыі свабоды» (FPÖ) Аўстрыі паступова рыхтуецца да прызнання незалежнасці Рэспублікі Сербскай.

Рэспубліка Сербская — гэта сербская частка Босніі і Герцавіны. Паводле Дэйтанскіх пагадненняў 1995 года Боснія і Герцагавіна складаецца з двух суб'ектаў: сербскай рэспублікі і харвацка-мусульманскай федэрацыі. Нягледзячы на шматлікія ўзаемныя канфлікты, сербам, харватам і баснійцам дасюль удавалася знайсці кампраміс, які быў гарантыяй міру на ўсіх Балканах. Пасля прыходу ўвосень у Аўстрыі да ўлады кааліцыі кансерватараў і FPÖ баланс можа быць парушаны.

Цяпер баснійскія і харвацкія палітыкі актыўна дасылаюць сігналы ў Брусель з просьбай затармазіць магчымыя спробы афіцыйнага прызнання Баня-Лукі (сталіцы баснійскіх сербаў) з боку Вены. Аналагічныя рэзалюцыі прымаюць аўстрыйскія сацыял-дэмакраты — галоўная партыя апазіцыі.

Парадокс заключаецца ў тым, што Вена традыцыйна — больш за 150 гадоў — на Балканах рабіла стаўку на харватаў. Цяпер былыя балканскія саюзнікі Вены не разумеюць, што адбываецца. Прэса таксама піша, што ад Карын Кнэйсль можна чакаць самых незвычайных крокаў, паколькі FPÖ мае добрыя кантакты з Масквой, якая вядзе на Балканах сваю гульню.

### Мэры Лу МакДональд



Адзіная прэтэндэнтка на пасаду новага кіраўніка ірландскай левай партыі Sinn Fein пакуль яшчэ афіцыйна не стала новым партыйным босам, аднак ужо пачала рабіць вельмі рэзанансныя заявы.

21 студзеня яна абвінаваціла папярэдняе кіраўніцтва партыі ў тым, што яно супрацоўнічала з Ірландскай Рэспубліканскай Арміяй (IRA) — тэрарыстычнай групоўкай, якая да 1998 года змагалася з брытанцамі васковымі сродкамі.

Тырады МакДональд вельмі смелыя. Не толькі таму, што яна яшчэ фармальна не стала кіраўніком партыі: эпоха IRA для шматлікіх ірландцаў з'яўляецца гераічнай старонкай нацыянальна-вызвольнай барацьбы. Баявікі IRA даўно сталі персанажамі народнага фальклору. Дэманстратыўная рэвізія поглядаў на герояў мінулага можа не спадабацца тым фракцыям IRA, якія дасюль не вераць у доўгі мір з Лонданам і час ад часу арганізуюць баявыя вылазкі.

Пакуль большасць лідараў Sinn Fein з разуменнем паставіліся да слоў Мэры Лу. Апошнім часам партыя Sinn Fein, якая традыцыйна абараняла ірландцаў-каталікоў, ператварылася ў галоўную праеўрапейскую партыю ў Паўночнай Ірландыі, якая, як і ўся Брытанія, павінна хутка пакінуць ЕС. За Sinn Fein упершыню пачалі галасаваць некаторыя колы пратэстантаў. Адмова ад культу IRA можа пашырыць клуб выбаршчыкаў Sinn Fein.

Праціўнікі МакДональд кажуць, што яе крытыка тэрарыстаў — прыкрыццё. Маўляў, яна заўжды мела і дасюль мае цудоўныя кантакты з ірландскім вайсковым падполлем.

**Мінулы год для Уладзіміра Някляева можна вызначыць прыкладна так: «То турма, то прэмія». За ўдзел у «Маршы недармаедаў» у маі ён былі асуджаны на 5 сутак. Калі ж у верасні на Кастрычніцкай плошчы прынёс клятву на вернасць Беларусі, атрымаў 7 сутак. У лістападзе за нібыта заклік да ўдзелу ў апазіцыйнай акцыі падчас інтэрв'ю тэлеканалу «Белсат» яго асудзілі ўжо на 10 сутак. Так цягам года дзяржава абвешвала «ўзнагародамі». Але ў вачах пераважанай большасці чытачоў, дый, відаць, свету, Някляеў быў і застаецца не апазіцыйным палітыкам, а найперш паэтам. І лішняе пацвярджэнне таму — прэміі, якімі ён былі ўганараваны цягам толькі мінулых гадоў: літаратурныя прэміі імя Алеся Адамовіча і Ежы Гедройца, «Гліняны Вялес», міжнародныя прэміі імя Курта Тухольскага (Швецыя), Браніслава Герэмека (Польшча) і Міхая Эменеску (Румынія), а таксама прэмія выдаўца Алеся Усені «За вялікі творчы ўнёсак у сучасную беларускую літаратуру». А ўжо ў снежні атрымаў прэмію імя Наталлі Арсенневай за кнігу «Толькі вершы» як за найлепшую кнігу паэзіі. Уладзімір Някляеў — паэт ці палітык? Пра гэта з ім пагутарылі.**




Фота www.palitviazni.info

# Уладзімір Някляеў: «Я гэткаму лёсу рады»



Сяргей ШАПРАН

***— Уладзімір Пракопавіч, чым мінулы год запомніўся вам?***

— Тым, на што я быў забыўся, а мне праз час нагадалі...

Калі ў ноч на 25 сакавіка мяне арыштавалі ў Брэсце (без ніякіх прычын і тлумачэнняў зняўшы з цягніка Варшава—Мінск), дык праз суткі з турэмнай камеры я патрапіў (па стане здароўя) у палату шпіталю хуткай дапамогі. Не маючы з сабой паперы, на звароце рэцэпта (нейкіх лекаў у шпіталі не было, параілі набыць) накідаў верш. І забыўся на яго, што ў паслякрызавым стане не дзіва. Папрасіў дзяўчыну (незнаёмую, у шпіталь шмат незнаёмых людзей прыходзіла), якая апельсіны мне прынесла, па лекі схадзіць. Лекі яна набыла, а рэцэпт застаўся ў аптэцы. Праз нейкі час (я ўжо дома быў) аптэкарка патэлефанавала Пэтару Барасу, майму вугорскаму перакладчыку, які даўно жыве ў Брэсце, і пра якога яна ведала, што ён мой блізкі знаёмы. «На звароце рэцэпта, — сказала, — вершы былі, дык я на ўсялякі выпадак перапісала». А ўжо Пэтар пераслаў перапісаны верш мне. І хоць я зусім яго не помню, але, прачытаўшы, не стаў адмаўляцца ад аўтарства, што-кольвечы дапісаўшы ў вершы і паправіўшы...

*Цела — на захад, а кроў выцякае на ўсход.*
*Мёртвы народ сам сябе ўжо не помніць жывога.*
*Гэта такая трагедыя — мёртвы народ.*
*Гэта такая камедыя мёртвага Бога.*

*Ён у царквах, у касцёлах — у храмах памёр.*
*Думалі — храмы, а выйшла, што склепы і труны.*
*І не пры чым ні чума, ні халера, ні мор,*
*І не пры чым ні варагі, ні скіфы, ні гуны.*

*Час і манюк, і прарокаў да кучы грабе,*
*Перамяшаліся ў пыле свае і чужыя,*
*Мёртвы народ ажыўляе самога сябе —*
*І аніяк ён самога сябе не ажывіць.*

*Бог беларускі! Калі ты ў нябёсах есі,*
*Можа, абрынешся градам, пяском з камянямі,*
*Громам ударыш ці вогненны знак падасі,*
*Страшны свой суд, ажывіўшы, учыніш над намі.*

*Можа, запаліш у нас пад нагамі зямлю,*
*Каб мы суда пабаяліся болей, чым смерці...*
*Бог беларускі!*
*Цябе я і мёртвым люблю!*
*Б'ецца і б'ецца ўва мне тваё мёртвае сэрца.*

**26.03.2017.**
**Брэст, шпіталь хуткай дапамогі**



**Уладзімір Някляеў з жонкай Вольгай.**
Фота Сяргея Шапрана

Чаму менавіта гэтая гісторыя запомнілася? Бо з яе вынікае, што не ўсе беларусы, нягледзячы на больш чым дваццацігадовыя стараннні ўлады, перакаваліся ў «рускіх са знакам якасці». Не ўсе сталі абыякавымі да беларускага слова, да літаратуры, да вершаў — і не страцілі павагі да тых, хто іх стварае. Дык вось праз удзячнасць гэтым людзям, праз любоў да іх, беларусаў, якія разумеюць, што без беларускага слова, без беларускай мовы не стане самой Беларусі, я, як пісаў, гэтак і буду пісаць — хоць у турмах, хоць у шпіталях...

***— У мінулым годзе ў вас было так: то турма, то прэмія. Мусіць, усё ж меў рацыю Віктар Казько, калі напісаў у прадмове да вашых «Знакаў прыпынку», маючы на ўвазе палітычны складнік вашага жыцця, — «ён не той, хто сёння ёсць»?***

— Шчыра сказаць, я не зусім уцяміў, што меў на ўвазе, напісаўшы гэтыя словы, мой даўні сябар, выбітны сучасны пісьменнік Віктар Казько. Спытаў яго пра гэта аднойчы, ён не стаў адказваць. Сказаў, што «ў напісаным усё напісана». Ну, можа быць, і я так адказаў бы, каб думалі, нібы напісана нешта такое, што не кожнаму ўцяміць. А ўвогуле прэміі — гэта лепш, чым суды, штрафы ды арышты. Але, каб засведчыць тое, можна было б і не мець майго досведу. Даволі дорага ён абыходзіцца. Часам так, што не стрываць. Суды можна было б трываць, калі б яны былі судамі. Калі б у іх была хоць нейкая справядлівасць. Дык не. Спачатку ўлада пастанаўляе, за што і на колькі мяне пасадзіць, а пасля ўжо міліцыянты цягнуць у суд. І што ты там ні рабі, чым і як ні даводзь сваю праўту — без толку. Суд, суддзя нічога не вырашае. Выконвае тое, што яму загадалі.

І арышты можна было б трываць, калі б яны былі проста арыштамі. Без здзеку, знявагі. Ну, напрыклад, калі напісана ў правілах вашай турмы, што я магу карыстацца алоўкам, паперай, — дык выконвайце свае правілы. Дайце магчымасць пісаць! Не, наўмысна не даюць... І калі заўважаеш, што не можаш успомніць незапісаны тэкст, што ён знік з памяці, проста вар'яцееш. На жаль, гэтак многае знікла, бо ў семдзесят адзін год памяць ужо не тая, якая была ў сямнаццаць.

***— Калі браць пад увагу ганебныя судовыя выракі, прыгадваецца бліскучы афарызм Ганны Ахматавай, якая сказала ў дні, калі судзілі будучага нобелеўскага лаўрэата Іосіфа Бродскага, што ўлада не разумее, што тым самым «нашаму рыжаму робіць біяграфію». Хіба ў вашым выпадку не так?***

— Не. І ў выпадку з Бродскім не так. Чалавек робіць сваю біяграфію сам. Калі б не быў Бродскі такім і тым, якім і кім быў, якую б біяграфію зрабіла яму ўлада? Якую біяграфію зрабіла б улада той жа Ахматавай, калі б яна Ахматавай не была? Калі б, дапусцім, не засталася ў рэвалюцыйнай Расіі, а з'ехала з мяжу?

Што да нобелеўскай біяграфіі, дык у Беларусі яна ўжо зробленая, напісаная — і на доўгі час наперад. Не думаю, што ў бліжэйшыя, дасяжныя для мяне гады яна паўторыцца — няхай нават усе беларускія літаратары, празаікі і паэты будуць пісаць выключна шэдэўры. Нагадаю, што сваіх нобелеўскіх лаўрэатаў у літаратуры не маюць, да прыкладу, такія літаратурныя краіны, як Канада, Украіна...

Зрэшты, усе прэміі, як вялікія, гэтак і меншыя, не столькі аб'ектыўная ацэнка творчага ўзроўню аўтараў і мастацкай вартасці іх твораў, колькі латарэя. Не заўсёды выйграш у гэтай гульні быў заслужаным, але здаралася і такое: Кіплінг, Франс, Шоў, Галсуорсі, Гар, Фолкнер, Хэмінгуэй, Камю, Сартр, Салжаніцын, Маркес... У некага іншы спіс, але калі раней ні ў адным з іх не было прозвішча, якое прадстаўляе Беларусь, дык цяпер яно ёсць. І дзякуй Богу за спрыянне ў гэтым, за дапамогу.

***— Некалькі гадоў таму вы сказалі: «Не замяніла палітыка паэзію, а дадалася да яе. Спадзяюся, не па скон жыцця, на нейкі час». І іншым разам: «Літаратура — занятак, ад якога не хачу нічога і нічога не чакаю, апроч самога занятку. Бо ён адзіны, ад якога маю асалоду. Палітыка ж — праз самапрымус, праз сілу». У звязку з гэтым прыгадваецца паэма «Паланэз», дзе вамі была агучана галоўная прычына нечаканага для ўсіх ад'езду з Беларусі ў 1999 годзе:***

*— Таму і край свой кінуў ты,*
*І зараз тут і там чужы*
*Сабе і ўсім… Скажы, скажы,*
*Дзеля чаго зрабіў ты гэта?..*
*— Найперш, каб зратаваць паэта.*
*— Якога?*
*— Можа, не благога.*
*Я забывацца стаў, якога.*
*Ён у апошнія гады*
*Адчуў, што ўжо не малады,*
*Што ўсё спазнаў: каханне… славу…*
*Надзеў хамут, упрогся ў справу —*
*І паміраць пачаў…*

***Сёння ў вас не ўзнікае жадання развітацца з палітыкай, каб зратаваць у сабе паэта і стаць тым, кім, перафразуючы Віктара Казько, вы на самай справе ёсць?***

— Сказаўшы «ён не той, хто сёння ёсць», Казько наўрад ці меў на ўвазе, што калі і наканавана мне кімсьці быць у будучыні, дык не палітыкам, а паэтам. Неяк яно надта проста…

Хоць і не надта. Вось здавалася, што развітанне з палітыкай для мяне не стане праблемай. А стала. Чаму? Бо там жа не палітыка сама ў сабе, там — людзі. Іх давер, падтрымка. Іх вера, надзея. І адказнасць там не меншая, чым у творчасці. Нават большая. Бо не жыццё ўсё ж спадарожнічае літаратуры, як я катэгарычна заяўляў у маладосці, а літаратура жыццю.

Згаданымі радкамі з «Паланэза» я спрабаваў адказаць Васілю Быкаву на ягонае пытанне, зададзенае ў Фінляндыі: «Чаму ты з'ехаў з Беларусі?» Сам ён, дарэчы, не лічыў, што з'ехаў, хоць пражыў у замежжы на той час утрая болей за мяне. Дык вось там, у Хельсінкі, і вырашаў я, што рабіць далей. Калі застацца ў гасцінных фінаў — значыць, толькі пісаць. А хто чытаць будзе, калі ў Беларусі мова, на якой пішу, знікае?..

Калі ж вярнуцца, дык толькі дзеля змагання з тымі, хто супраць беларушчыны. Значыць, вярнуцца — і займацца палітыкай. Не надта мяне такая перспектыва цешыла. Але іншага рашэння прыняць я не мог. Поза чалавека, які сядзіць на Алімпе, назіраючы мітусню мурашоў унізе, не для мяне. У час, калі стаіць пытанне, быць ці не быць Беларусі, мне нават ніякавата глядзець на нашых «алімпійцаў».

***— Калі казаць пра гады, пражытыя вамі ў палітыцы, дык у плане творчасці яны таксама не былі бясплодныя. Тут можна ўзгадаць вашы паэтычныя кнігі «Лісты да Волі» і «Толькі вершы», «Знакі прыпынку» і нашумелы раман «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без». Ва ўсіх гэтых кнігах так ці іначай засведчаны ваш турэмны досвед. Нават у юбілейнай кнізе «Толькі вершы», што выйшла да вашага 70-годдзя, ёсць цэлы раздзел пад назвай «Турэмная бібліятэка». То-бок турма не адпускае вас?***

— У «Лістах да Волі» ёсць паэма «Турма» (між іншым, адна з самых складаных маіх паэм), у якой напісана: «"Ты закахаешся ў мяне!" — Турма мне горача шаптала». Трэба сказаць, зашмат тут турма на сябе брала, каханкай маёй яна не стала, але многае ў ёй адкрылася для мяне з нечаканага боку. А праз тое шмат нечаканага адкрыў я і ў самім сабе. Ну, скажам, я не ведаў, як буду паводзіць сябе ў гранічнай сітуацыі: прадаць — не прадаць, стрываць — не стрываць, здацца — не здацца… Не думаў, што здольны буду прайсці праз такія фізічныя і псіхалагічныя выпрабаванні, праз якія прайшоў, не надламаўшыся. Аказалася, здольны. Такія адкрыцці і з'яўляюцца штуршком для ўзнікнення таго ў табе, што ёсць паэзія, насычаючы яе энергіяй. І ты за пяць дзён пішаш паэму, якую ў іншым выпадку пісаў бы пяць тыдняў ці пяць месяцаў. Калі ўвогуле напісаў бы, бо ёй ад цябе энергіі трэба, як ад блоку АЭС.

***— Некалі падчас нашай з вамі гутаркі вы сказалі: «Займаючыся адначасова літаратурай і палітыкай, я ўсё ж займеў унікальны досвед. Вось з яго й стаўся "менскі раман" — і яшчэ нешта станецца. Калі Бог дасць». Дык што цяпер на пісьмовым стале паэта і празаіка Уладзіміра Някляева?***

— Шмат чаго… Не толькі новага, але і некалі недапісанага. Можа, яно не надта заўважна, але пасля 2015 года я стаў адыходзіць ад палітыкі. Праз тое з'явілася магчымасць болей пісаць, і я павыцягваў з шуфлядак няскончаныя рукапісы. Не ведаю, ці дапішу іх, але спрабую. Да прыкладу, драму «Крэва». Бо як гэта: нарадзіцца ў Крэве і пра драматычныя падзеі ў ім не напісаць?

З мінулага года ляжыць на стале і раман з назвай (пакуль умоўнай) «На крыжы». Я ў ім кропку паставіў, але пасля мне здалося (магчыма, дарма), што гэта шматкроп'е. Ці кропка з коскай. І калі ў першапачатковай задуме гэта быў фантасмагарычны раман пра Купалу, толькі пра яго, дык далей пайшло ўсё так, што не толькі. Дзея з 40-х гадоў мінулага стагоддзя перакінулася ў 1980-я, і пакуль я ніяк не магу вырашыць, што з гэтым рабіць?

Паэму яшчэ адну дапісваю. Пра каханне, я шмат чаго пра яго не дапісаў.

*Калі мяне не стане — ты жыві,*
*Забыўшыся, што я цябе пакінуў.*
*Я — у табе, я — у тваёй крыві,*
*А не ў халодных вежах успамінаў,*
*Не ў тых лістах, якія напісаў,*
*Не ў словах тых, якія можна сцерці,*
*А ў той радзімцы, што пацалаваў,*
*Упершыню ў сабе адчуўшы сэрца…*

***— Яшчэ ў 1976-м Рыгор Барадулін прызнаўся ў лісце да вас: «Наогул, Валодзя, надзеі ў мяне ўсе на цябе ў нашай паэзіі!» Гэтаксама і Пімен Панчанка пісаў вам: «Помніце, я заўсёды веру і веру і ўсюды сцвярджаю, што вы — адзіны па-сапраўднаму таленавіты, арыгінальны і патэнцыяльна вялікі паэт (з сярэдняга пакалення)». І іншым разам Пімен Емяльянавіч паведамляў: «Я ўважліва сачу за ўсімі вашымі новымі вершамі… У многіх вершах — сапраўдная паэзія. Мы на вас вельмі спадзяёмся. Дык глядзіце не падвядзіце…» Як думаеце, Уладзімір Пракопавіч, ці спраўдзілі вы спадзяванні Панчанкі і Барадуліна?***

— Што тут можна думаць?.. Пры сённяшняй дэвальвацыі мастацкага слова, пры цяперашніх адносінах да культуры цяжка ўявіць, што азначала быць паэтам у часы Панчанкі ці маладога Барадуліна. Яны, як вяршыні снежных гор, бліскалі, сляпілі — не падступіцца. Скажам, я з Аляксандрам Твардоўскім, з якім хацеў мяне пазнаёміць Аркадзь Куляшоў, так і не пабачыўся, бо не здолеў націснуць кнопку званка на дзвярах ягонай кватэры. Рука не паднялася. Увайду, а там аўтар верша «Я ведаю: няма маёй віны…» А хто я?.. І пісаў (абсалютна шчыра) у тыя часы, што «калі называюць паэтам і пішуць у кнігах паэт — няёмка, нібыта ўвайшоў без білета туды, дзе спытаюць білет».


Фота з фэйсбуку Уладзіміра Някляева

Толькі пасля кнігі вершаў і паэм «Прошча», якую напісаў на пераломе часу, я дазволіў сабе паверыць у тое, што ўсё ж маю дачыненне да паэзіі. У кнізе прысутнічала, я сам тое адчуваў, неабходная для гэтага глыбіня. І першы, хто павіншаваў мяне з «Прошчай», быў якраз Барадулін. Прыбег з кнігай, як шалёны. Ці як захмялелы, хоць тады ўжо кроплі не браў. А вось Пімена Панчанкі, калі з'явілася «Прошча», у зямным свеце не было. Так што дазнацца пра тое, ці спраўдзіліся ягоныя спадзяванні, змагу цяпер хіба пры сустрэчы на нябёсах.

Хто б ведаў, як не хапае мне сёння сустрэч з імі на зямлі! Як не хапае…

***— А калі гаварыць пра сучасную беларускую літаратуру, пра маладзейшых літаратараў, пра каго вы можаце сказаць гэтаксама: «Усе мае надзеі на цябе»?***



— Прэмію, якую прысудзілі мне напрыканцы сыходзячага года за найлепшую кнігу паэзіі, я перадаў Насці Кудасавай.

***— У вершы «Каляды», які вы прысвяцілі жонцы Вользе і які вядомы як песня ў выкананні Змітра Вайцюшкевіча, ёсць радкі:***

*Званы зазвінелі.*
*Хрыстос усміхнуўся з нябёс.*
*Калядная зорка то гасла, то ззяла.*
*«Ты рады, — пытала, — што гэтакі выпаў нам лёс?..»*
*Які — не казала.*

***Дык ці рады вы, Уладзімір Пракопавіч, што выпаў вам гэтакі лёс?***

— Як з'яўляюцца некаторыя кузуркі, матылькі? Перад тым, як стаць матылькамі, яны праходзяць розныя стадыі, жывуць спачатку ў глеі (зямлі), пасля ў вадзе, потым у паветры. Пражываюць як бы тры жыцці ў трох стыхіях. А чалавек — адно ў адной.

У юнацтве я напісаў верш пра тое, як зайздрошчу матылькам. Цяпер такі верш не напісаў бы, бо, пачаўшы жыццё ў СССР, дожыў яго яшчэ ў дзвюх стыхіях. Пражыў як бы тры жыцці, з кожнага наступнага азіраючыся на папярэдняе, намагаючыся асэнсаваць і яго, і сябе ў ім. Не ўсім гэткае пакручастае жыццё да спадобы («Не дай вам Бог жыць у часы перамен!»), а я такому жыццю, гэткаму лёсу рады.

*Ува ўсім, што ёсць, было і будзе —*
*Ані ў чым цябе магло не быць.*
*Цуды ўсе ў адным-адзіным цудзе:*
*У неверагодным цудзе*
*Жыць!*

***— Яшчэ ў 2011 годзе, пасля месяца, праведзенага ў засценках КДБ, і пяці месяцаў хатняга арышту, калі ў кватэры ўдзень і ўначы жылі два кадэбісты, вы, ледзь апынуліся на волі, адразу паехалі наведаць Рыгора Барадуліна, якому тады — я сам таму сведкам — сказалі: «Вось у цябе неаднойчы пыталіся: ты, дзядзька, пражыў даволі вялікае жыццё, дык скажы: што такое шчасце? — кажа Някляеў Барадуліну. — У цябе пыталіся і ў мяне таксама. Дык сёння з раніцы я зразумеў, што такое шчасце: калі прачынаешся ў сваёй хаце, і ў ёй няма чужых!» Аднак сёння, Уладзімір Пракопавіч, як адкажаце на гэтае пытанне: што ж яно такое — шчасце?***

— Зноў жа згадаю юначыя вершы…

Пад заканчэнне школы я напісаў паэму, якая называлася «Счастье» (на рускай мове). Пачаў паэму як бы з эпіграфа: «Таго, што нельга ўкласці ў фізічную, хімічную ці матэматычную формулу, не існуе». Такі вось радыкалізм. І далей ужо спрабаваў сфармуляваць, што яно ёсць такое — гэтае самае шчасце?.. Завяршалася паэма пра шчасце так: «Кто же счастлив? Наивный вопрос! Счастлив тот, кто над кровью и потом По земле, как награду, пронес Голубые глаза идиота!».

**Зашмат турма на сябе брала, каханкай маёй яна не стала, але многае ў ёй адкрылася для мяне з нечаканага боку. А праз тое шмат нечаканага адкрыў я і ў самім сабе. Ну, скажам, я не ведаў, як буду паводзіць сябе ў гранічнай сітуацыі: прадаць — не прадаць, стрываць — не стрываць, здацца — не здацца…**



**Чэмпіёны грамадзянскай супольнасці.** Фота Арцёма Лявы

# «Жыві ў шчасці, жыві ў свабодзе»

## Да 180-годдзя з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага



**Па гарызанталі:** 1. Назва баявога вайсковага сцяга ў ВКЛ і ў старажытнай Русі. 5. «Марыська чарнаброва, ... мая!». З верша, які Кастусь Каліноўскі напісаў з турмы на волю сваёй нарачонай Марылі Ямант: пад Марыськай ён разумеў Беларусь, беларускі народ. 8. «Так плача й плача Беларусь,\\ І гэты плач пачуў Кастусь\\ І ў Божы храм ва ўрочны...\\ Прыслаў з архангелам наказ». З верша Ніла Гілевіча «Балада пра пасланне Кастуся». 9. Мянушка, якую даў душыцелю паўстання 1863–1864 гадоў Мураўёву вялікі рускі крытык, пісьменнік-рэвалюцыянер М. Чарнышэўскі ў сваім рамане «Пралог». 10. У царскай Расіі назва некаторых мясцовых устаноў. 12. Гарадскі пасёлак, раённы цэнтр на Гродзеншчыне, дзе вучыўся ў гімназіі Кастусь Каліноўскі; там жа ўстаноўлены яму помнік. 15. ... Вітажэнец. Імя, пад якім хаваўся ад расійскіх царскіх жандараў Кастусь Каліноўскі ў Вільні, у Святаянскіх мурах. 16. Імя бацькі Кастуся, беззямельнага шляхціца са шляхецкага роду герба «Калінава». 17. Адвагаю і ... пяройдзеш (прыказка). 18. «... бушуе — вясну чуе,\\ Воран крача — сыру хоча». З беларускай народнай песні «Вол бушуе». 19. Люты — бацечка збівае ... з зімы (прыказка). 22. Клопаты, нагляд. 23. ... — вяснаўказальнік; прысвятак, які адзначаўся 1 лютага («Якое надвор'е 1 лютага, тое будзе і ўвесь месяц» (прыкмета). 25. Гонар, пашана вакол каго-небудзь (высокае). 29. Гандлёвая плошча ў Вільні, на якой быў пакараны смерцю змагар за лепшую долю беларускага народа Кастусь Каліноўскі. 31. Кіраўнік гаспадаркі ў панскім маёнтку. 32. Трапічная птушка сямейства буслоў. 33. «Калі ў ... на змаганне з катам\\ Выйшаў наш адважны Кастусь,\\ За плячамі ён меў занадта\\ мала вёснаў\\ і меў Беларусь». З верша Ларысы Геніюш «Кастусь Каліноўскі». 34. «Бывай здаровы, мужыцкі ...,\\ Жыві ў шчасці, жыві ў свабодзе». З перадсмяротнага запавету Кастуся Каліноўскага «Пісьмы з-пад шыбеніцы». 35. Характэрны гратэскны персанаж у публіцыстыцы Кастуся Каліноўскага і ў сатырычным вершы Янкі Купалы «Сваякі».

**Па вертыкалі:** 1. Адзін з псеўданімаў Кастуся Каліноўскага, а таксама назва паэмы Аркадзя Куляшова, якую паэт прысвяціў Каліноўскаму. 2. Адметная адзнака, уласцівасць. 3. Мазь для чысткі абутку. 4. Імя Гарэцкага, выдатнага беларускага пісьменніка, педагога, гісторыка, аднаго з пачынальнікаў беларускай нацыянальнай прозы, якому 18 лютага споўнілася б 125 гадоў. Расстраляны сталінскімі катамі 80 гадоў таму. Рэабілітаваны ў 1957 годзе. 6. «І хоць мароз крапіць пякучы,\\ Да ног даходзіць скрозь ...\\ І снегам вочы зашывае, —\\ Мужык жыве і не шманае». З паэмы Якуба Коласа «Новая зямля» («На рэчцы»). 7. Войт і кат — адзін аднаму ... (прыказка). 11. ... гарады бярэ (прыказка). 13. «На Беларусі\\ Па вёсках ідуць ... \\ З'явіўся Кастусь Каліноўскі». З балады Петруся Броўкі «Кастусь Каліноўскі». 14. Расійскі горад, у якім Кастусь Каліноўскі скончыў універсітэт з навуковай ступенню кандыдата права. 20. «Мужыцкая ...». Першая ў гісторыі Беларусі газета на беларускай мове, якую выдаваў Кастусь Каліноўскі са сваімі паплечнікамі. 21. «Гукнуў усёй краіне Кастусь: «Даволі! Народ мы, не быдла,\\ Паўстань за сябе, ...!». З верша Міколы Ермаловіча «Кастусь Каліноўскі». 24. Квітанцыя, распіска (размоўнае). 26. Празрысты каштоўны камень. 27. У грэчаскай міфалогіі бажаство ў выглядзе жанчыны. 28. Асобны эпізод з кінафільма. 30. «Варты лепшага ў свеце кахання,\\ ... скончыўшы мужны палёт,\\ Русы хлопец золкім світаннем\\ На высокі ўзышоў эшафот». З верша Уладзіміра Караткевіча «Нявесце Каліноўскага».

**Склаў Лявон Целеш, г. Дзяржынск**

**Адказы на крыжаванку «Пад сцягам бел-чырвона-белым» (НЧ, №46 ад 8 снежня):**

**Па гарызанталі:** 1. Кангрэс. 4. «Паўлінка». 9. «Радаўцы». 11. Сябра. 13. Макар. 14. Імага. 15. Два. 16. Пан. 17. Сымон. 19. Сукня. 23. Розум. 24. Гатунак. 26. Падполле. 27. Грамата.

**Па вертыкалі:** 1. Карскі. 2. Га. 3. Стан. 5. Асцё. 6. Аборка. 7. Час. 8. «Абла. снікі». 10. Акадэмізм. 12. Анархія. 13. Міністр. 16. Поступ. 18. Намова. 20. Карл. 21. Дуж. 22. Ранг. 25. Ям.







Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №91

Падпісана да друку 26.01.2018. 8.00. Наклад 2500 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.